# ПОЛЫМЯ РЭВОЛЮЦЫІ



ЧАСОПІС
ЛІТАРАТУРЫ,
МАСТАЦТВА,
МАРКСІСЦКА-
ЛЕНІНСКАЙ
ТЭОРЫІ І КРЫТЫКІ



**9**

**1936**






# ПОЛЫМЯ РЭВОЛЮЦЫІ

ЧАСОПІС ЛІТАРАТУРЫ, МАСТАЦТВА, МАРКСІСЦКА-ЛЕНІНСКАЙ ТЭОРЫІ

ОРГАН ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА
СОВЕЦКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

*КНІГА ДЗЕВЯТАЯ*



ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА БЕЛАРУСІ
МЕНСК—1936



# ДВАНАЦЦАЦЬ ПЕСЕНЬ

пра нашу непераможную Чырвоную Армію, пра яе тварца і натхніцеля вялікага Сталіна, пра яе палкаводца Клімента Варашылава, пра гераічныя паходы і бітвы, пра мужнасць сыноў Беларускай зямлі, пра надзейную варту савецкіх граніц, пра еднасць народу і арміі, пра нашых шчаслівых і смелых дзяцей, пра нашу сталінскую радасную моладзь,—

напісалі Янка Купала, Якуб Колас, Андрэй Александровіч, Пятрусь Броўка, Пятро Глебка,—

прысвячаюцца слаўнай Рабоча-Сялянскай Чырвонай Арміі і яе правадыру—першаму маршалу Краіны Соцыялізма

КЛІМЕНТУ ЕФРЭМАВІЧУ ВАРАШЫЛАВУ

На плошчы! на вуліцы! радасным строем!
Рассыпцеся, кветкі, дажджом прамяністым!
Вітайце байцоў і любімых герояў—
Адважных пілотаў і смелых танкістаў!

У небе высокім плывуць самалёты,
Па бруку грукочуць цяжкія марціры,
Шарэнга ў шарэнгу праходзіць пяхота,
Наперадзе горда ідуць камандзіры.
Вы чуеце, коціцца ўзрушаным валам
Шырокае рэха ад песень і крокаў...
Наперад, аркестры! На пляц, запявалы!
Хай марш узаўецца высока, высока.

## I

Мы помнім змаганне, паходныя маршы,
Мы помнім, як вышаў са зброяй народ
Жыццё бараніць рэволюцыі нашай—
На поўнач, на поўдзень, на захад, на ўсход.

Мы йшлі пераможна пад посвісты куляў,
Мы гналі бандытаў з савецкай зямлі,
Разбіты быў вораг—мы вольна ўздыхнулі,
Нам Ленін і Сталін магутнасць далі.

Радзіма, ты ў росквіце соцыялізма!
Хай шалам кіпіць фашыстоўская кроў:
За нашай граніцай спраўляць будзе трызну
Смяротная бура над зграяй паноў.

Мы помнім змаганне, мінулыя маршы,
Мы помнім суровыя дні непагод...
А вораг зачэпіць—адпорам бясстрашным
Адкажа бясстрашны совецкі народ.

## II

Яшчэ не заціхлі над плошчаю маршы,—
Пранеслася песня, падобная грому,
Як вырас з луганскага слесара маршал,
Як стаў ён любімым жалезным наркомам:

Быў слёсар луганскі,
А сталь ён каваў.
І песні-вяснянкі
Пра волю спяваў.

І слухалі песню
Заводы і бор,
Імчаў яе вецер,
Адносіў віхор.

Іскрыліся ў горне
Агніста вуглі,
А іскры далёка
Ляцець не маглі.

Біў молат магутна,
Як гора, як гнеў,
Кавадла звінела
І молат звінеў.

І кузня звінела,
І слухала даль...
І выкаваў волю,
Як іскру, як сталь.

## III

Шчаслівыя людзі! Спявае краіна.
Грыміць урачыстасць ад краю да краю,
Адно аб мінулым цяжкія ўспаміны
Часамі на момант душу засмучаюць:

Жудка стане на сэрцы,
Калі ўспомніш сягоння,
Як цары-самадзержцы
Людзей гналі на бойню:

Як Вільгельма салдаты
І панят легіёны
Руйнавалі нам хаты,
Спусташалі загоны.

Заглушаў посвіст куляў
Салавейкаву славу,
Кукавала зязюля,
Не к дабру кукавала.

Пакідаў гняздо бусел,
Свае пожні і сосны,
Паляцеў, не вярнуўся
Ў тыя чорныя вёсны.

Беларусь пад панамі,
Пад жандарам і царам
Палівала слязамі
і крывёю папары.

## IV

Але не згінаўся народ наш ніколі,
На царскую зграю ўзнімаўся паходам,
І вобразы паўшых герояў за волю
Заўсёды у сэрцах і думках народу:

Белапольскія уланы
Лютымі былі,—
Цёмнай ноччу партызанаў
На расстрэл вялі.

Ён ішоў пад бізунамі,
Баявы атрад,
Закаваны кайданамі
Па чатыры ў рад.

Перамучаныя ногі
Па пяску брылі.
Над апошняю дарогай
Хмары слёз плылі.

На світанні, рана-рана
Біў смяротны час.
Золак блiснуў партызанам,
Ды астатні раз.

І калі не стала смелых,
Аж заплакаў бор,
З неба сіняга зляцела
Многа ясных зор.

## V

Спакой вам і слава! Сябрынаю цеснай
Стаім мы сягоння пры вашай магіле,
Прыносім вам нашы найлепшыя песні
Аб тым, як вы белую шляхту грамілі:

Пройдзем мы слядамі боек,
Барацьбою шлях багаты,
Прыгадаем пра былое,
Пра вядомы год дваццаты.

У той год вялікі Ленін
На паноў ішоў крывавых,
З курных хат і сутарэнняў
Сталін вёў дарогай славы.

Гулка ў лесе пелі хвоі,
Калыхаўся дуб вячысты
Як вялі нас грамадою
Камандзіры-комуністы.

Мы на сініх, на азёрах
Мылі раненыя ногі,
Як ішлі палямі, борам,
Мы, узнятыя трывогай.

Як ішлі ў адной кагорце,
Каб разбіць няшчадна гада...
Бацька з сынам быў на фронце,
Дзед падвозіў ім снарады.

І ніхто не быў там лішнім,
Як ішлі байцы героі:
Маткі мылі нам бялізну
І хадзілі за сахою.

Помніць доўгі шлях варшаўскі,
Помніць Нёман і Бяроза,
Як ляцеў апрычнік панскі,
Пакідаючы абозы.

## VI

На нашы палеткі, у нашы прысады
Праклятае панства ніколі не прыдзе.
Нядарам у бітвах хадзілі брыгады
Пад слаўнай камандаю Орджанікідзе:

Пад Барысавым палонным,
За Бярозаю ракой
Войска Арміі чырвонай
Сабірала сілы ў бой.

„Ледзь над лесам сонца ўзыйдзе,—
Фронт прарваць, нанёсшы ўдар“,
Так рашаў Орджанікідзе—
Палкаводзец-камісар.

Ноч расой паіла кветкі,
Над ракой туман стаяў.
Рапарт пятае разведкі
Ў гэту ноч Серго прымаў.

Як дазор, дубы-сталеткі
Засланялі грамаду.
І сказаў Серго: „Ў разведку
Сам, таварышы, пайду“.

І таемна, ўнепрыкметку,
Цераз брод і твань балот,
Вёў Серго атрад разведкі
Тылам ворага ў абход.

Шлях расчысціў куляй меткай,
Вёў атрад у стоме сіл:
Дваццаць вёрст прайшоў разведкай,
Дваццаць вёрст зайшоў у тыл.

На дапрос за трэцім—следам
І чацверты ўзяты пан.
Ад паноў Серго разведаў
Пра апошні польскі план.

З думай дум сваіх, з развагай
Ён схаваўшыся ляжаў.
Беларускіх смачных ягад
Першы раз пакаштаваў.

Дзень мінуў. Паўзуць сапёры,
На ваду кладуць масты.
Будзе бой! І нават зоры
Гасяць бляск свой залаты.

Знаў Серго сакрэт нядарам:
Полк байцоў адвёў тайком
І, прарваўшы фронт ударам,
Закідаў ліхім агнём.

І ў атаку—на палякаў,
На акоп—штыхамі ў лоб!
Сталлю бралі, вызвалялі
Беларускі Перакоп.

## VII

Вітанне і песня адважным героям!
Прайшлі яны буры, прайшлі навальніцы.
Сыны іх магутныя сталінскім строем
Вартуюць совецкіх рэспублік граніцы:

Ішоў дазорны, пільным вокам
Глядзеў праз зараслі ў прасвет,
І раптам у снягах глыбокіх
Заўважыў нейчы свежы след.

Відаць, нядаўна на світанні
Граніцу вораг перайшоў,
Яго слядоў незатаптаных
Яшчэ і вецер не замёў.

Да баявых прыгодаў звычны,
Без меркаванняў і развагу
Шынель скідае пагранічнік,
Бяжыць з вінтоўкай па слядах.

Абліўся твар гарачым потам,
Усю душу калоціць дрож.
Цяжэюць ногі. Скінуў боты
І ўжо імчыцца басанож.

Калючы снег у ногі коле...
Дарма! Настаў апошні час:
Ужо відаць за лесам поле,
А там—дарога і калгас.

Ужо калгаснікі і дзеці
Бягуць гурбой наперарэз.
Але і вораг іх прыкмеціў
І зноў, як воўк, пабег у лес.

Няхай! не ўдасца план злачынны:
Сабраўшы сілы, вартавы
Прабег яшчэ адну хвіліну
І ўзяў ён ворага жывым.

Вам не прасунуць бруднай лапы
Крывавы свой спраўляць папас:
Мы б'ем без промаху Гестапо,
Калі мы б'ем, бандыты, вас!

Граніцы нашы ў сталь адзеты
Заўсёды меткі наш прыцэл!
Хто мкнецца несці смерць Советам,
Таму адзін прысуд—расстрэл!

## VIII

Таварышы, нашай зямлі абаронцы,
Вы сталі заслонай на нашых граніцах,
На нас пазіраюць і зоры і сонца
І песні пяюць вам лясы і крыніцы:

Упрыгожым нашы хаты
І вянкі саўём на браме,
Ды накрыем, як у свята,
Стол калгаснымі дарамі:

Хлебам, мёдам, сырам, мясам...
Хоць і проста, але шчыра,
Запрашаем вас калгасам,
Вас, байцы і камандзіры.

Вы—апора наша, сіла,
Наша радасць, наша слава,
Нам бяседа з вамі міла,
З вамі бавіць час цікава.

Чым багаты—тым і рады.
Сваё ўсё: пітво, закускі,
Сок пладовы з свайго саду,
Віны з ягад беларускіх.

У бяседзе, у прыязнай
Прыгадаем нашы былі,
Як у час ліхі, адказны
Мы на ворага хадзілі.

Шчыльна злітаю калонай,
Сэрцам Сталіна сагрэты,
Сілу Арміі Чырвонай
Паказалі ўсяму свету.

Хто-ж памкнецца—песня спета:
Госць нязваны будзе біты!
Няхай вораг помніць гэта,
Вораг тайны і адкрыты.

## IX

Ліецца гаворка ў бяседзе калгаснай—
Здарэнні, падзеі, прыгоды, ўспаміны...
Шчаслівая-ж маці з усмешкаю яснай
Гаворыць пра любага, слаўнага сына:

Спаць малога палажыла,
Неспакойны сын не спіць:
„Раскажы, як Варашылаў
Вёў рабочых панства біць?"



Заспявала калыханку,
Як збіраўся рад у рад
За ракою, за Луганкай,
Варашылаўскі атрад.

Выцíралі ўпотай слёзы
Непаслушныя жанкі.
Камандзір—лугáнскі слёсар
Аглядаў браневікі.

Добра помніць Дубавязка,
Як, пакінуўшы майдан,
Уцякалі немцы ў касках
Ад луганскіх партызан;

Як нязломнаю калонай,
Пад шрапнельны свіст і звон,
Варашылаў і Будзённы
Вялі войска цераз Дон.

Беларускія загоны,
Не забудуцца яны,
Як ад конніцы чырвонай
Беглі польскія паны.

Слава нашага наркома
Праграмела з краю ў край...
Будзь-жа й ты, сынок, свядомы,
Нам на радасць падрастай.

Будзь адважным, мужным сынам,
Падрастай на ўцеху ўсім,
Беражы сваю краіну,
Як луганскі слёсар Клім.

## X

Частуюцца госці, пяюць і гамоняць,
Дзяўчаты пітво і закускі падносяць,
Іграюць цымбалы, іграе гармонік,
А хлопчык у лётчыка ласкава просіць:

Мой мілы таварыш, мой лётчык,
Хачу я з табой паглядзець,
Як месяц на небе начуе,
Як блукае ў лесе мядзведзь;

Як свецяцца ночкаю зоры,
А днём не відаць іх чаму,
Як рэкі ў далёкія моры
Улетку плывуць і ўзіму.

Мне ўжо надакучыла дома,
У дзіцячы хадзі адно сад,
А так паглядзеў-бы вядома,
На іншы парадак і лад.

Вось гэтак у добрым здароўі
Мы будзем ляцець і ляцець.
Вазьмі-ж мяне, лётчык, з сабою,
Не будзеш ты клопату мець!

На моры зірнуць хоць раз вокам,
Як ходзяць па іх караблі,
Ляцеці далёка, высока,
Ды так пабываці ў Крэмлі.

І там, з-пад нябёснае далі,
Гукнуць над зямлёй і людзьмі:
—Дзень добры, таварыш наш Сталін,
Паклон з самалёта прымі!

## XI

Дзяўчаты з байцамі пусціліся ў скокі
(Віхор гімнасцёрак і кофтачак сініх!)
На прызбе зенітчык, чарнявы, высокі,
Гаворыць з запалам прыгожай дзяўчыне:

Ды скажу табе я, мілай,
Быў дзянёк, ды няштодзенны:
Сам таварыш Варашылаў
Прынімаў парад ваенны.

Нявысокі сабе ростам,
Не высокі і не нізкі,
А такі вясёлы, просты,
А такі прыветны, блізкі!

А свой погляд, свой юначы,
Калі кіне, бы зарніца—
Сэрца з радасцю заскача,
Кроў адвагай забурліцца.

Адным словам, свой брат родны.
Так і хочаш, мая Каця,
Быць яго дастойным, годным,
За яго жыццё аддаці.

Конь пад ім, прост, вярнігора!
А як скача, як гарцуе!
Ён вачыма лічыць зоры,
Ён вушамі вайну чуе.

Вайну чуе, броў не хмура,
Толькі бліскаюць падкоўкі,
Бо яздок на ім, што бура,
З віхрам пойдзе ў перагонкі.

У міжбур'е з ім жыць міла,
Лёгка-ж будзе і ў паходзе.
Во, які наш Варашылаў!
Во які наш палкаводзец!

## XII

За маршалам нашым, за нашым наркомам
Мы пойдзем з'яднанаю сілай заўсёды.
Вы чуеце—гулкі, раскацісты гоман,
Вы чуеце—крочаць юнацкія годы:

На кліч роднай партыі цвёрда,
З уздымам
Ідзе маладосць нашай гордай
Радзімы.

Ідзе маладосць нашай шыры
З'яднацца
У грозную армію міру
І працы.

Ім сцежкаю сцелюцца кветкі,
Веснянкі,
Вітаць іх выходзяць танкеткі
І танкі.

І строй самалётаў высоты
Займае,
І сонца, як дыск кулямёта,
ўсплывае.

Іх пільныя вочы—дазоры
Граніцы,
Ім здрадная цемень, як вораг,
Скарыцца.

І пройдзе іх слава заўсёды
Над светам,
Жывіце спакойна, народы
Советаў!

* * *

Падымем-жа чаркі сям'ёю народаў
За армію нашу, за грозную сілу,
За маршала нашых геройскіх паходаў,—
Хай доўгія годы жыве Варашылаў!

Падымем-жа чаркі за партыю нашу,
Што нас прывяла да здабыткаў вялізных,
За мудры ЦК, баявы і бясстрашны,—
Хай славіцца Ленінскі штаб большэвізма!

Падымем-жа самыя поўныя чаркі
За вобраз, раскрыўшы нам светлыя далі,
За слаўнае імя, за геній наш яркі,—
Хай славіцца Сталін!
— Няхай жыве СТАЛІН!

*Платон Галавач*

## СПАТКАННЕ

Яны убачылі адзін аднаго пасля адзінаццаці год разлукі.

У тысяча дзевяцьсот пятнаццатым годзе Галіна Чэрская і яе маці пакінулі вёску ў адным з паветаў Гродненскай губерні. Разам з дзесяткамі тысяч другіх бежанцаў яны ехалі на ўсход, у глыб Расіі, уцякаючы ад вайны. Чэрскай было тады ўсяго сем год. У дарозе захварэла яе маці. Гэта здарылася ў Слуцку. Камітэт па справах бежанцаў змясціў хворую ў больніцу, а сямігадовую Галіну накіраваў з партыяй дзяцей у адзін з дзіцячых прытулкаў Менску.

У прытулку дзяўчынка пабыла некалькі дзён. Аднойчы, блукаючы па горадзе, яна спаткала жанчыну, якая завяла яе да сябе дадому. З той пары дзяўчынка пачала жыць, як прыёмная дачка ў сям'і вартаўніка могілак. Сям'я была невялікая: гаспадар, яго жонка і дзевяцігадовы хлапчук. Жылі ў цеснай хаце ля самай агарожы могілак. За агарожай цясніліся высокія, густалістыя векавыя ліпы і бярозы, ды востраверхія елкі, а паміж дрэў густа стаялі драўляныя і чыгунныя крыжы, помнікі, абгароджаныя жалезам, і на магілах ляжалі цяжкія каменныя пліты.

Самым ранкам гаспадар ішоў на могілкі даглядаць старыя магілы, альбо капаць новыя для нябожчыкаў, якіх прывозілі штодня, а дзеці, калі не былі занятыя ў хаце, ішлі на рэчку, або таксама на могілкі і цэлыя дні былі разам, дзяліліся багатымі, рана набранымі ўспамінамі і ўражаннямі. Гэта былі сумныя ўспаміны дзяўчынкі пра сваю далёкую, пакінутую вайне вёску, пра бясконца даўгую дарогу бежанства і пра згубленую маці і захапляючыя страшныя апавяданні хлапчука пра свой горад і свае могілкі. Так нарадзілася іхнае сяброўства, якое ў абодвых абудзіла пачуцці тады яшчэ незразумелыя для іх.

Дзеці пражылі разам восем год. Потым адшукалася маці Чэрскай. Надумаўшыся вярнуцца дадому, яна ўзяла да сябе Галіну і павезла яе з сабою ў Польшчу. Ад'язджаючы, пятнаццацігадовая дзяўчынка не ведала, якой бездаццю ляжа паміж ёю і яе названым братам граніца. Яна мала ведала пра сваю былую радзіму. Два разы горад, у якім яна пражыла гэтыя гады, быў у руках белапалякаў. Ад тых часоў у яе памяці засталіся страшныя ўспаміны. Амаль што-ночы белапалякі прыводзілі на могілкі з гораду муж-

чын і жанчын і забівалі іх, загадваючы яе прыёмнаму бацьку закапваць трупы забітых. З успамінаў складалася ўяўленне аб краіне, у якую яна ехала.

Дома маці з дачкой знайшлі свой двор з напоўразбуранымі, струхлеўшымі будынкамі. Двор зарос крапівой і блёкатам. На месцы, дзе некалі стаяла хата, грудамі ляжала ў дзікай траве размытая дажджамі гліна, рэшткі печы. І яны восень і зіму пражылі ў куране. У куранi-ж, складзеным з гнілых чыгуначных шпал, давялося пражыць і другую зіму. Пасля зімы памерла маці. Галіна Чэрская пакінула курэнь і падалася ў парабчанкі. Два гады яна рабіла ў гаспадароў суседніх вёсак, а пасля пачала шукаць работы ў горадзе. І ёй неяк пашанцавала. Цераз колькі месяцаў яна працавала на тэкстыльнай фабрыцы і аднойчы, апынуўшыся вольным часам сярод сваіх новых знаёмых, расказала ім пра сваё дзяцінства. Тое, што яна расказала, адбылося ў тысяча дзевяцьсот дзевятнацатым годзе.

... Могілкі месцяцца за ўскраінай горада. З вечара і да ранку густыя змрокі ахутвалі гэтыя месцы і як нешта дужа далёкае і недасяжнае калыхалася над цэнтрам горада цмянае зарава агнёў. Ад гэтага цемра здавалася яшчэ гусцейшай, яшчэ больш шчыльнай.

Ішоў дождж, густы і дробны, надакучлівы, як балотная машкара. Вецер гнаў нізкія хмары, разгойдваючы верхавіны дрэў за могілкавай агарожай. Вецер гуляў пажоўклым мокрым лісцем, зрываў яго і кідаў за агарожу, залаціў лісцем зямлю. Пагойдваючыся ад ветру, дрэвы скрыпелі. Вецер свістаў, завываў і было падобна, што скардзяцца нябожчыкі, прамокшыя ад дажджу. Страх і холад скоўваў цела Чэрскай, але яна паўзла па мокрай, калючай траве і толькі ўсё бліжэй тулілася локцем да Мілоўскага, баючыся астацца.

Калі змрокі густыя і ліпкія ляглі на зямлю, польскія ўланы прывялі на могілкі дзевяць чалавек, апранутых у чырвонаармейскае, і трох у вольнай адзёжы. Іх павялі па схілу ў самы далёкі кут могілак, насустрач ночы, што падымалася ад ракі, кралася з-за агарожы. Вялі, падганяючы крыкамі і лаянкай. Цемра гусцела ахінаючы могілкі. Злаславей шумеў і завываў вецер і пасіляўся дождж, надакучлівы і халодны. Паміж насыпаў на могілках збіралася вада. Зямля рабілася ліпкай, грузкай і паўзці было ўсё цяжэй.

Колькі часу на могілках было ціха. Можна было чуць толькі шум дажджу, ды завыванні ветру, а пасля запелі прыведзеныя на расстрэл. Яны пелі „Інтэрнацыянал“. Чэрская замерла, схапіўшыся за Мілоўскага, і заплакала. Мілоўскі штурхануў яе локцем у бок, каб не плакала, а сам, уздрыгнуўшы, спыніўся і ляжаў нерухома, моўчкі ўслухоўваючыся ў песню і шум дажджу, аж пакуль усё заглушылі стрэлы. Два залпы, адзін за другім, глуха прагрымелі і песня абарвалася. Напалоханыя, прыкаваныя страхам да зямлі, яны чакалі, што пецъ будуць яшчэ. Ім не верылася, што ўсё скончана, нават і тады, калі непадалёк ад іх, шумна хлюпаючы па вадзе і гразі, прайшлі назад уланы. А калі ўсё змоўкла, яны пачулі голас. У тым месцы, дзе толькі што расстралялі ўланы прыведзеных імі людзей, аж некалькі разоў азваўся чалавек. Ён як-бы каго зваў і, не прычакаўшы адказу, змоўк. Яго голас замёр у шуме дажджу.

Мілоўскаму хацелася адгукнуцца на голас чалавека і не хапіла сіл падаць голас. Тады ён моўчкі ірвануў за руку дзяўчыну, падняўся з зямлі і пабег дадому. „Там жывыя“,—сказаў ён, як толькі адчыніў хатнія дзверы і, пачакаўшы бацьку, павёў яго на могілкі. Цераз поўгадзіны яны прывялі ў двор чырвонаармейца, які выратаваўся ад расстрэлу. Ён быў толькі лёгка паранены. Чырвонаармейца яны схавалі ў хлеве на сене. Тады-ж, баючыся, што яго будуць шукаць, чырвонаармеец даў бацьку Мілоўскага свой адрас. „Калі мяне знойдуць, абавязкова расстраляюць“,—казаў ён,—„дык вы напішыце ў Тулу, каб не чакалі. „А цераз два тыдні, паправі́ўшыся, ён параапрануўся ў вольнае і ноччу пашоў. На памяць аб сабе ён пакінуў Мілоўскім паштовую картку—здымак Леніна...

На другі дзень пасля таго, як Чэрская расказала пра сваё дзяцінства, яе арыштавалі і завялі ў дыфензіву. Там ёй сказалі, што яна комсамолка і патрабавалі, каб яна згадзілася з гэтым. Яе страшылі на допытах, білі, марылі голадам і, нічога не дазнаўшыся, праз чатыры месяцы выпусцілі з турмы. Да яе прышлі знаёмыя з фабрыкі і Чэрская хутка стала комсамолкай, а пазней была прынята ў партыю.

Яшчэ пазней яе судзілі за арганізацыю мітынга каля фабрычнай брамы і трымалі ў турме больш двух гадоў, а цяпер яна на волі і працуе „тэхнікам“ аднаго з акруговых камітэтаў партыі.

У працягу ўсіх гэтых год яна часта думала пра совецкую краіну і пра чалавека, які быў ёй амаль родным братам, спадзяючыся калі-небудзь спаткаць яго і расказаць аб сваёй знойдзенай радасці.

Часта ўвечары, калі змрокі збіраліся ля акна яе пакоя, Чэрская глядзела паверх дрэваў у далёкае неба на ўсходзе. Блакітная рэчка нябёс, усеяная зорамі, уздымалася адтуль і праплывала над светам. У такія хвіліны Чэрская бачыла совецкую краіну зусім блізкай, адчувала гэтую блізкасць. А калі праплывала над зямлёй цёмная, густая сінева і неба святлела і, ружавеючы, палыхала белым міганнем згасаючых зор, яна ўглядалася ў шырокае, у поўсвета, зарава новага дня над краінай, у якой прайшлі лепшыя гады яе дзяцінства. Часам Чэрская стаіць так ля акна, аж пакуль зусім развіднее. Тады яна бачыць, як спяць на траве ля канавы мужчыны, жанчыны і дзеці. У іх няма работы, няма хлеба і няма месца, дзе можна было-б жыць і адпачываць. У іх не хапіла-б сілы жыць, калі-б не было краіны, аб якой яна так часта марыць.

Чэрская прыпамінае, як прагна ўглядаецца яна заўжды ў твары людзей з тае краіны. Такую-ж прагнасць яна заўважыла і ў позірках іншых. З гэткай-жа прагнасцю ўглядалася яна ў іхныя твары і сёння на пяроне варшаўскага вакзала, калі ўбачыла Мілоўскага. У тым, што гэта быў ён, Чэрская канчаткова пераканалася, як зайшлі ў вагон. Яна інстынктыўна падалася на крок да яго, але адразу спынілася. У вагоне, вядома, ёсць шпегі. Яна ўгадвае іхныя нервовыя, насцярожна блукаючыя па баках, позіркі. Шпегі сочаць за кожным, хто мае дачыненні да совецкіх пасажыраў. Спаткацца з Мілоўскім тут, значыць аддаць сябе ў рукі шпегаў і праваліць групу таварышоў з Беластоку, адрасы якіх у яе. Адзін толькі мо-

мант стаяла Чэрская на месцы, углядаючыся ў ягоны твар і пашла ў суседняе купэ ўсхваляваная і абрадаваная, не ведаючы, што зрабіць, калі ён пазнае і загаворыць з ёю.

Не валодаючы сабой, яна цераз некалькі мінут вышла з купэ. Хацелася яшчэ раз хоць мелькам зірнуць яму ў твар. Яна стаяла ля акна і бачыла шырока раскрытыя яго вочы, залаціста светлыя валасы, просты, ледзь скошаны ўлева разрэз губ і глыбокую драпіну на шчацэ, рассечанай у дзяцінстве камянём. Ён адразу адчуў яе погляд і ўзняў вочы. Па таму, як ён схапіўся рукамі за столік і паліцу, збіраючыся падняцца, Чэрская зразумела, што ён пазнаў яе і адразу пашла ў купэ. У купэ не здолела сесці. Стаяла прыклаўшы да грудзей руку. Удары сэрца аддаваліся звонам у вушах. Рука дрыжэла і дрыжэлі ногі. Баючыся, што ён прыдзе і загаворыць, Чэрская на бліжэйшай станцыі перасела ў другі вагон. Але гэта не супакоіла. Калі поезд крануўся, Мілоўскі прышоў у гэты вагон. Ён ішоў па вагону, заглядаючы ў купэ, шукаючы яе. Чэрская дастала з саквояжа рушнік і пашла ў канец вагона ў прыбіральню, хоць мыцца і не збіралася.

Запёршы за сабою дзверы, яна больш дзесяці мінут нерухома прастаяла каля дзвярэй, слухаючы, ці не ідзе ён следам. Чула толькі больш частыя, ніж звычайна, удары свайго сэрца, перастук каткоў пад вагонам і шум ветра за акном поезда.

Раптам нехта павярнуў дзвярную ручку адзін і другі раз. Парашыла выйсці і адчыніла дзверы, усё яшчэ не ведаючы, што зробіць, калі за дзвярыма Мілоўскі. Але ўбачыла перад сабою незнаёмага. Ён папрасіў прабачэння і саступіў дарогу, уважліва і адначасова абыякава аглядаючы яе, Чэрская адразу адгадала шпега і яшчэ больш занепакоілася.

Поезд набліжаўся да Беластока. У Беластоку канец яе дарозе. Яна выйдзе з вагона, а Мілоўскі паедзе далей, у Савецкі Саюз і можа быць ужо ніколі яна не ўбачыць яго так блізка. Ступіўшы на перон, яна міжвольна зірнула на дзверы вагона, у якім пакінула Мілоўскага і яго таварышоў. Мілоўскі стаяў на падножцы і поглядам шукаў яе. Іхныя вочы сустрэліся. Чэрская адвярнулася і пашла да станцыі. І ўбачыла, што ён сышоў на перон і ідзе, каб пераняць яе. Яны абавязкова спаткаюцца, а Мілоўскі можа загаварыць, назваць яе імя. Гэтага нельга, асабліва тут.

Мілоўскі ішоў, спяшаючыся, не адрываючы ад яе вачэй. Трэба было нешта зрабіць, каб перашкодзіць яму загаварыць. Чэрская завярнулася і пашла проста да яго. Ён спыніўся, углядаючыся ў яе твар. Вядома, ён пазнаў яе. Ужо ўсмешка, хоць і не смелая, неўпэўненая, з'явілася на яго твары і рукі пацягнуліся насустрач ёй і зашавяліліся губы. Нельга даць яму загаварыць. Параўнаўшыся з Мілоўскім, Чэрская зірнула яму ў вочы, якія свяціліся радаснай усмешкай, і сказала па-польску:

— Я пана зусім не ведаю, пану не трэба ісці за мной.

Мілоўскі застыў на месцы, здзіўлены і разгублены, а калі авалодаў сабою, Чэрскай ужо не было, яна знікла ў натоўпе.

Менск, VIII—1936 г.

---

*Андрэй Александровіч*

## СУСТРЭЧА З ТАВАРЫШАМ СТАЛІНЫМ

Падымайся, сонца! Я выходжу з хаты.
— Добры дзень, прасторы!
Добры дзень, сябры!
Я прынёс вам песню, як вітанне брата,
Хай яе, крылатай, ў даль нясуць вятры.
Ля крыніцы вочы я абмыў расою,
Я ўзышоў на ўзгор'е. Ціхі, ранні час.
Бацькаўшчыну бачу я перад сабою,
І як быццам бачу сёння ў першы раз.

Сонечным налівам поўняцца калоссі,
З ячменямі шэпчацца аксамітны лён.
Гэта мне сягоння, ты, зямля прыносіш
Поўнай жменяй дар свой,—працы мужны плён.
Спелай хваляй жыта полем прабягае,
Гоніць статак сыты на байдан пастух.
Да зямлі калгаснай вуха прыкладаю—
Сталінскага сэрца чую роўны стук.

Вось гурбой вясёлай жаць ідуць дзяўчаты,
Запявалай поруч едзе трактарыст,—
І ўзлятае песня, і ляціць узнята!
Цішыня над пушчай не шалохне ліст.
І ляціць праз вёскі, гарады мінае.
Ей—няма граніцы, ёй—адкрыты пуць
Гэта наша песня—Сталіна ўслаўляе,
Людзі ў песнях радасць—Сталіну нясуць.
Падбягаюць дзеці з гаварлівым гудам,
Залатая дзецям расцвіла пара.
Дзе ні кіну вокам, бачу я—усюды
Вырастае веліч спраў правадыра!
Пагранічнік ходзіць лесам і балотам,
Пазнаю героя ў кожным патрулі.
Сталін!—і падняліся ў неба самалёты,
Сталін!—загрымелі танкі на зямлі.

Сталіна я бачыў у глушы Палесся.
Сталіна у сялянскай хаце спатыкаў.
Сталіна я слухаў у народных песнях,
Сталіна ў дарозе сэрцам адшукаў
Слаўнае спатканне! А ніяк не знаю,
Як сказаць мне Сталіну пра любоў сваю.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Я стаю на ўзгор'і. Песні я складаю.
Я пяю пра шчасце. Сталіна пяю.





*Ю. Віцьбіч*

# АЛЬДЭБАРАН

„За море, за горы, за звёзды спор“

*Н. Тіханаў—„Перакоп“*

Красавіцкая ноч. Цішыня ахутала вежу абсэрваторыі. Спыніў свой рух тэлескоп, накіраваны праз люк купала на адвеку прыгожае зорнае неба. Толькі што скончыў абарону дысертацыі аспірант і атрымаў годнасць кандыдата навук. Старыя вучоныя, выходзячы, ветліва віталі маладога вучонага, але адзін з іх панура маўчаў. Нарэшце, калі засталіся два чалавекі, стары сказаў маладому:

— Маркс і Арктур, Энгельс і Вега, Ленін і Альдэбаран. Якія дзіўныя для палацу Іраніі параўнанні! Навошта блытаць артылерыю з астранаміяй? А вы, аспірант Ханін, наводзіце трыццацідзюймовы рэфрактар, як наводзяць трохдзюймовую гармату. Ад вашай дысертацыі пахне не ідылічнымі ружамі, а грымотным дынамітам. І можа таму нам нельга працаваць разам. Вас пэўна цікавіць чаму прафесар бярэ на сябе ролю швейцара? Дык што-ж зараз са звычайнай для сябе шчырасцю запоўню чарговую анкету.

Вучоны націснуў кнопкі. Купал і тэлескоп павярнуліся на захад.

— Вось бачыце, Майсей Барысавіч, жоўты Арктур, альфу сузор'я Валапаса? Ен, як вы ведаеце, ляціць да зямлі з хуткасцю шасцідзесяці шасці кілометраў у секунду. Гэта сведчыць аб тым, што ён чужы зорнай сістэме Млечнага шляху. У далёкай будучыні мой амаль што, цёзка праляціць праз Млечны шлях і ўсе зоркі сістэмы не здолеюць затрымаць яго.

Арктур кульмінаваў у час майго нараджэння. Гэта значыць, аспірант Ханін, што прафесар Артур Эдмундавіч Вайцэхоўскі нарадзіўся дваццаць шостага мая а дзесятай гадзіне ўвечары. Дадам ад сябе—нарадзіўся пяцьдзесят год таму назад. Я ўспамінаю ўтульны замак на ўзвышшы, каля ўзвышша мізернае мястэчка Вайцэхоўка, якое належала, між іншым, гаспадарам замка. І прыгадваецца мне на фоне велічнага замка мая матка. Твар яе я ведаю толькі па партрэтах. Яна памерла на Рыв'еры, калі мне ішоў чацверты год, я помню ледзь-ледзь празрыстыя блакітныя рукі, „Восень“ Чайкоўскага на піяніна і томік Шатабрыяна. Бацьку заусёды ўяўляю сабе альбо ў трохвуголцы дваранскага маршалка альбо ў паляўнічым капялюшы. Цяпер разумееце, калега Ханін, чым з'яўляецца для Артура Эдмундавіча Вайцэхоўскага зорка першай велічыні Арктур?

Прафесар павярнуў тэлескоп на захад:

— А вось белая, незвычайна чыстай вады, найпрыгажэйшая Вега альфа сузор'я Ліры. Яе назва, аспірант Ханін, паходзіць ад арабскага слова „Вакі“, што азначае каршака, які, заўважыўшы здабычу, камянем падае ўніз. Адразу пасля заходу сонца загараецца Вега і крыху пазней яе, нібы кортэж, акружаюць пяць зорак. Таксама, як Вега, была прыгожая Вітольда Смагаржэўская, і таксама, як Вегу, акружаў яе кортэж кавалераў. Я кахаў Вітольду, кахалі дзяўчыну і іншыя, але яна кахала толькі мяне і здзекавалася над іншымі. І Вега плыла з усходу на захад, калі Вітольду забіў высмеяны ёю афіцэр. Кажуць яна памерла з фрывольнай „Карамбулінай“ на вуснах. Цяпер разумееце, аспірант Ханін, чым з'яўляецца для Артура Вайцэхоўскага альфа Ліры Вега?

Прафесар павярнуў тэлескоп на ўсход:

— Вось гранатавы Альдэбаран альфа сузор'я Быка. Яго назва паходзіць ад арабскіх слоў „Аль Дэбаран“, што значыць—Вока Быка. Вы зразумела, любіце колер гэтай зоркі, Майсей Барысавіч? А я здаецца не зусім. Гэта менавіта яна вартавала ў тую ноч, у якую галеча Вайцэхоўкі спаліла замак Вайцэхоўскіх. Тады, уцёкшы з палацу ў адной бялізне і нічога рашуча не разумеючы, сачыў я зводаль праз слёзы за пажарам. Цяпер паступова мяняю ідэалогію. Так сказаць перабудоўваюся. Дык разумееце, што ўяўляе для мяне Альдэбаран?

Аспірант уважліва слухаў. Калі скончыў Артур Вайцэхоўскі, пачаў гаварыць Майсей Ханін. Ён затыхаўся, на яго шчаках з'яўляліся і знікалі ружовыя плямы.

— Маё жыццё амаль што падобна да вашага, прафесар. Амаль што! У час майго нараджэння над маёй хатай таксама вісеў Арктур. Ён зазіраў у начоўкі, дзе мяне абмывалі, праз дзіравую столь і страху. З маім нараджэннем скончылася жыццё маёй маткі, бо хіба можна раджаць тым, якія з маленства харкаюць крывёю. Таму маткі сваёй я таксама не памятаю. Я ведаю, што на яе рукі мазалі ляглі адзін на адзін як пэрлы на рукі вашай маткі. Ведаю, што матчыны лёгкія без літасці грызлі сухоты, але ў Ніцу яна не збіралася. На піяніна не грала. Вы ў гэтым, зразумела, не сумняваецеся, прафесар? Адзіным музычным струмантам у нашай хаце была тырольская катрынка, якая хрыпела ад старасці нібы лёгкія жонкі шарманшчыка. Бацька хадзіў з ёю па дварах Вайцэхоўкі і ўзімку і ўлетку. Не глядзіце так здзіўлена. Менавіта Вайцэхоўкі. Хіба яшчэ не пазналі мяне, грамадзянін Вайцэхоўскі? Мы-ж землякі. Таму вы безумоўна чулі, як калісьці пад дрыгатлівы акампанімент катрынкі Борух Ханін дрыгатлівым тэнарам спяваў:

Ідэлэ міт зэйнэм фідэлэ
Эр гот мільёнэн гэлт. *

О, спрадвечны жабрак ведаў, што такое іронія, але няхай гэты гумар шыбеніка асінавым калом пройдзе праз магілы апошніх князёў Вайцэхоўскіх. Памёр мой бацька ад разрыву сэрца ля сваёй

* Яўрэй са сваёй скрыпкай
Мае мільён грошай.

абшарпанай катрынкі. Боруха Ханіна зацкаваў сабакамі князь Эдмунд Вайцэхоўскі, калі той адважыўся падыйсці да ганку палаца. Пахаван шарманшчык на сродкі рэлігійнай абшчыны, бо ў хаце пасля яго смерці засталіся акрамя катрынкі толькі селядцовы хвост і Арктур.

Вега таксама азначае маё жыццё. Бялей за Вегу быў твар Рывы Левітан. Матава-бледным, без аднэй крывінкі, таму што з чатырнаццаці год яна пачала працаваць белашвейкай у паноў Смагаржэўскіх. Так, белашвейкай працавала Рыва Левітан, а значыцца і душа яе, пагарджаны князь Вайцэхоўскі, была бялей, непараўнальна бялей, чым душы тысяч вашых Вітольд Смагаржэўскіх. У Рывы, як і ў Вегі, таксама быў кортэж, бо ў час грамадзянскай вайны яна камандавала комсамольскай ротай, у якой быў і я. І Рыву забілі. Забілі не кавалеры. Мы не панічы. Мы комсамольцы. Шмат хто з нас кахаў Рыву глыбока і сапраўды па-чалавецку, як не кахалі вы, чалавечак з паскудненькай душонкай, сваю Вітольду, але больш за Рыву мы любілі рэволюцыю. Дзяўчыну забілі бандыты Булак-Балаховіча. Калі Рыву Левітан пасля лютых здзекаў прывялі на расстрэл, яна на краю магілы заспявала. Заспявала той магутны гімн, які штоноч пасля двух доўгіх і аднаго кароткага сігналаў нашай абсэрваторыі спавівае нашу планету. І ў момант, калі яна спявала, праходзіла праз мерыдыян Вега. Так, Вега свяціла, недабіты князь Вайцэхоўскі. Вы гэта ведаеце, бо ў той час з усмешкай паціскалі рукі балахоўцам.

Вы пахіснуліся, аматар ліпавых руж? Вы збялелі? У вас задрыжэлі ногі? Вам не спадабалася слова „недабіты“? Вы не спадзяваліся сустрэць земляка? Вы не чакалі, што з калісьці прыгнечанай Вайцэхоўкі прыдуць астраномы, ад дысертацыі якіх дзме дынамітам? Дарэчы, цяпер няма мястэчка Вайцэхоўкі, а ёсць мястэчка Левітанаўка. Вы збіраецеся ўцякаць ад мяне? Яшчэ адну хвіліну: я не скончыў сваёй заўвагі да вашай апошняй анкеты.

Аспірант крануў кнопку. Жарло тэлескопа хутка паплыло ўгору пакуль яскрава-чырвоная зорка не адлюстравалася ў вялізных шклах.

— Вось у гэтым вы правы, князь. Менавіта Альдэбаран гарэў у тую прыгожую ноч, калі местачковая галеча і, разам з ёю, сын местачковага шарманшчыка штурмавалі ваш замак. Вы стралялі. Адна з вашых куль параніла мяне ў галаву і я згубіў прытомнасць. Калі ачуняў, дык убачыў, што гарыць замак, які стагоддзі панаваў над Вайцэхоўкай, нібы Бастылія над Парыжам. Гарыць капялюш дваранскага маршалка і слінявы Шатабрыян. Зыходзячы крывёю, я папоўз да мястэчка. На вяршыне кургана за палацам убачыў вас. Павярнуўшы да неба скрыўлены нянавісцю твар, на якім я не ўбачыў слёз, вы гаварылі:

— Павяліч свой вокамгенны рух, Арктур, каб знішчыць адабраную ад нас зямлю. Каршаком зляці на іх галовы, Вега. Узнімі іх на рогі, Альдэбаран.

Потым, звяртаючыся да зямлі, амаль што закрычалі:

— Дзе ты Чынгіз-Хан? Прыдзі да мяне! Клічу цябе! Змяці іх след з зямлі!

І тут вы ўбачылі мяне. Вы пазналі, бо заўважылі:

— Ідэлэў сын спрабуе рабіць гісторыю.

Спачатку хацелі застрэліць, але пэўна спалохаліся, што пачуюць стрэл. Тады з усёй сілы пачалі біць ботам і ў твар і ў грудзі. Пакінулі толькі, калі зноў згубіў прытомнасць. Потым вы пайшлі. Пайшлі, у бога душу, князь, каб праз колькі дзён вярнуцца ў мястэчка з бандай Булак-Балаховіча. А я, крыху ачуняўшы, папоўз далей. І ніколі не забуду гэтую ноч, калі гарэлі і зямля і Альдэбаран. Я пранёс гэтую зорку ў свядомасці праз усе франты грамадзянскай вайны, як чырвоназорны шлём на галаве, як „Яблычка"—песню на вуснах, як трохлінейную вінтоўку за плячыма. Менавіта гэтая зорка прывяла мяне ў абсэрваторыю. І тут я знайшоў вас, які дбайна хаваў сваю класавую сутнасць за нібы ідылічнае сузіранне светапабудовы і за сапраўды фальсіфікаваную шчырасць.

Ідзіце адсюль прэч! Наша вялізная зорная сістэма і не збіраецца затрымліваць варожых ёй амаль што цёзак. А ваша нянавісць такая вялікая, што вам хочацца абваліць на нашыя галовы і Арктур, і Вегу, і Альдэбаран. Вы гаворыце, што мяняеце ідэалогію. Так сказаць, перабудоўваецеся, як вы казалі. Ха-ха-ха! Ліняюць увясну лабастыя воўкі, але зубы, якія вы толькі што ашчэрылі, застаюцца ў іх ранейшыя. Дык прэч ад акуляра тэлескопа. Разам нам працаваць сапраўды нельга. Ідзіце, высокаадукаваны кат, на могілкі гісторыі да сваіх Чынгіз-ханаў. Швейцара нам не трэба. Мы знайшлі ключы ад палацу Ураніі. Гэта—Маркс, Энгельс, Ленін, Сталін.

Былы прафесар, сціскаючы ад бяссільнай нянавісці кулакі, марудна спусціўся па лесвіцы вежы да дзвярэй. І калі выйшаў, яшчэ больш марудна зірнуў угору. Там гарэлі жоўты Арктур, белая Вега і чырвоны Альдэбаран.

Віцебск, 1936 г.

---

*Пімен Панчанка*

## ВЯСНОВЫЯ МАРЫ

Чаканая, і ўсё-ж раптоўна
расплавіла снягі і лёд,
птушыным спевам многатонным
напоўніла лясы, сады,
і ад зімы адны сляды—
бязлістае яшчэ галлё.
Ну як не быць усхваляваным?
Глянь, сонца ўсюды: на вадзе,
дыміцца парай над хлявамі,
размову з кроплямі вядзе...
Цяпер бы паблукаць за лосем,
што прагна сок крынічны п'е,
рыкае зычна і ля сосен
галіны гордых рог праносіць
ды глуха капытамі б'е.
Паслухаць бы драздоў світанне
у час ружовага світання,
Калі цяжкі мядзведзь з бярлогі
высоўвае на сонца нос;
Калі туман плыве над логам,
рассейваючы кроплі рос...
Стаю пад сонцам я і мару.
Насустрач крочыць мой таварыш,
у зморшчыны свой лоб сабраў.
Гукаю хмурнага сябра:
— Чакай таварыш брыгадзір,
вакол сябе ты паглядзі—
прыроды нельга распазнаць!
— Ну, што-ж, вясна як і вясна...
Стаіць разгублены і дужы
— Ты што, дружышча, хіба тужыш?
— Тужыць, браток, не маем часу,
Калі з клапотамі ідзе
З палёў вільготных да калгаса
сяўбы вясновай рупны дзень.
Гарачым будзе гэты годзік,
ўраджай стаханаўскі—не жарт.
Змагацца будзем і уродзяць

дзівосныя жыты, аўсы,
цяжкія будуць каласы
на працаднях нашых ляжаць.
Паводкай жыта на таку
З-пад малацілак будзе ліцца...
Ї мы, як першыя, руку
пацінем Сталіну ў сталіцы.
Такая мара ў нас... Між іншым
Я сам люблю прыход вясны—
малочнае цвіценне вішань,
і спеў драздоў і шум вясны.

1936 г.

*Усевалад Краўчанка*

# ДЗЕДАЎ ПРЫНЦЫП

Крылаты госць зрабіў над вёскай два кругі, бліснуў на сонцы белым крылом і, прабегшы метраў сто, сеў на ялавіне за гумнамі. Такое здаралася не кожны дзень і вестка мігам абляцела вёску. Першымі да гасця з радаснымі крыкамі бегма рынуліся ўсе вясковыя дзеці. За імі з хат пачалі выбягаць дзяўчаты і жанкі. Потым адзін за адным ішлі мужчыны. А калі на калгасным гумне праз дзве хвіліны па нейкай прычыне спыніў работу эмтээсаўскі трактар, павалілі на ялавіну ўсім сялом.

Злез з свайго мейсца каля паўскладанай малатарні і дзед Мацей. Пакуль ён, нездаволена тупаючы па гумне, паспеў агледзецца, то на таку ўжо не засталося ні аднаго чалавека.

— Самалёта яны не бачылі, — бурчэў сам сабе Мацей, — узбегаліся, канаплянікі. Шах-мах, кінулі-рынулі усё і гайда! Самалёт ім цікавы...

У насцеж расчыненых варотах гумна у зашмальцаванай спецоўцы паказаўся трактарыст, дзедаў унук, Міцька. Ён вельмі хапаўся і на хаду крычаў:

— Сеў, сеў, дзеду! Бяжым на ялавіну!

Дзед спакойна стаў на варотах, паглядзеў услед Міцьку, які пабег да самалёта, і нездаволена перакрывіў яго:

„Сеў, сеў, бяжым". Яшчэ не хапала, каб дзед навыперадкі з табою, канаплянікам, пабег.

... Пра гэтага дзеда Мацея можна многа чаго цікавага расказаць. На сяле яго іначай не завуць, як Мацей-рэўком. „Рэўком" — гэта ў сэнсе рэвізійная камісія. Бо такая ўжо рыса была закладзена ў дзедавым характары, што любіў ён ва ўсім парадак. От, убачыць, што-небудзь зробленае не да ладу, то абавязкова рупіць яму паказаць на гэта, або і самому паправіць. Ідзе, скажам, Мацей па вуліцы, убачыць што прызба ля хаты ў каго-небудзь не падсыпана, лаўкі, каб пасядзець можна было, няма,—адразу закрычыць:

— Даніла! Не лянуйся, прызбу падсып, лавачку змайструй...

Зойдзе на калгасны двор, а там плуг пад адкрытым небам іржавее. Спачатку пакрычыць дзед на ўсіх, канаплянікамі аблае, а тады ўжо сам і зацягне плужок пад павець... Усё ён прымеціць,

да ўсяго прычэпіцца. І любілі за гэта дзеда Мацея калгаснікі, і паважалі, і сказаць праўду, уеўся ён некаторым гультаям—неахайнікам у косці: Рэўком...

... Міцька паспеў ўжо чатыры платы пераскочыць—так ён хапаўся на цянькі да ялавіны, каб самалёт убачыць. Мацей-жа пастаяў у варотах, патупаў туды-сюды, граблі ўзяў падгроб коласкі на таку ў адну кучу. Агульная сумяціца як-бы і не кранала яго. Але-ж, патупаўшы без справы некалькі хвілін, дзед урэшце зацікавіўся:

— І што там ужо за самалёт такі?

Паставіўшы у кут граблі, дзед Мацей выйшаў з варот і накіраваўся за гумны.

А на ялавіне, проста сярод поля стаяў невялікі трохмесны біплан. Ля яго пахаджваў ужо апрануты ў скураную куртку малады лётнік. Ён дапамагаў аслабаніцца ад рамянёў невялічкай жанчыне пасажырцы, якімі яна была прымацавана да сядзення. Дзеці бегалі вакол машыны, разглядалі яе з розных бакоў. Адны любаваліся крыллямі, стромка раскінутымі ў бакі, другіх цікавіў хвост, трэціх прапелер. Бегаў з доўгай плеценай пугай і калгасны пастушок Сярожка. Жанкі і мужчыны шчыльна абступілі самалёт.

Дзед Мацей прыйшоў якраз у тую хвіліну, калі з пасажырскай адчыненай кабіны вылазіла тоненькая жанчына. Яна была апранута ў жоўтую скураную куртку з шлёмам на галаве. Жанчына прыветліва ўсміхалася, і калі вылезла на крыло, скінула шлём і прывіталася.

— Добры дзень, таварышы!

З натоўпа ёй адказалі цэлым гулам прывітанняў.

— Гэты самалёт агітэскадрыліі Аляксея Максімавіча Горкага. Прыехалі мы да вас праверыць, як вы падрыхтавалі школу для сваіх калгасных хлапцоў—восень ужо скора,—звонка гаварыла жанчына.

— Калі ласка, калі ласка,—пачаў прабірацца праз натоўп да самалёта старшыня калгаса Ляўшак. За ім падаліся комсамольцы.

А дзед Мацей стаяў з боку і калі ўбачыў гэтую жанчыну, то ён і на самалёт пакінуў глядзець, так яна яго здзівіла. Здзівіла якраз тым, што нічога незвычайнага яна сабою не ўяўляла. Просценькая такая, галасок звонкі, калі шлём скінула, грабянцом валасы расчасала. Косы ў яе падрэзаныя, бялёсыя...

Гадоў тры таму назад Мацей ніяк не хацеў верыць расказу свайго ўнука Міцькі аб тым, што людзі прыдумалі машыну, на якой можна лятаць. Не верыў, пакуль не пабачыў сваімі вачыма ў небе небывалую птушку. З той пары ён паверыў у самалёт і толькі хацеў пабачыць тых адважных людзей, што лёталі на ім. Яны, па дзедаваму ўяўленню, павінны быць незвычайна моцнымі і смелымі—то-ж не жарты падымацца вышэй хмар, бачыць зямлю такой, якой яе можа бачыць толькі лёгкакрылая птушка. Мацей толькі аднойчы ў жыцці быў на званіцы. Калі ён глянуў уніз, на палеткі, на лугі, на хаткі вясковыя, на лес, у яго закруцілася ў галаве, і ён злез адтуль, каб больш ужо туды не лазіць. Людзі-ж ляталі на вышыні ў багата разоў большай, чым вышыня званіцы і яны ў столькі-ж разоў павінны быць больш мужнымі і храбрымі.

... А тут вылазіць з самалёта звычайная жанчына, невялічкая, тоненькая, смяецца і гаворыць пра будзённае, пра школу, ходзіць каля машыны малады бязвусы лётнік. Проста баяўся дзед і верыць, што гэта людзі-птушкі.

— Новую школу у гэтым годзе збудавалі,—хваліўся невялічкай жанчыне Ляўшак і яны, выбраўшыся з натоўпа, накіраваліся ў вёску.

Дзед Мацей падышоў бліжэй да самалёта, яму хацелася, каб яго заўважыў лётнік. Мацей з ахвотай пагаварыў-бы з ім. Але лётнік жартаваў з дзяўчатамі. Загарэлая Фроська смяялася больш за ўсіх, крыху ламалася („што мы—дзеравенскія“!) і гаварыла:

— Вельмі мы хацелі-б пакатацца на самалёце. На трактары ўжо паспрабавалі.

Фроська гаварыла гэта наўмысля какетнічаючы. Ёй і ў галаву не прыходзіла, што лётнік сапраўды згодзіцца правезці яе на самалёце.

— Пакатацца? Згодзен, зараз завядзем матор.

Лётнік адвярнуўся да трэцяга чалавека, які сядзеў на месце побач з месцам пілота. Але Фроська ўзмахнула рукамі і кінулася хавацца за дзяўчат з крыкам: — Не хачу, не хачу!

— Ну чаго-ж баяцца? Палятаем і прыляцім,— засмяяўся лётнік.

Да гэтага часу дзед Мацей стаяў моўчкі, але цяпер парашыў умяшацца ў гутарку, каб завязаць знаёмства з лётнікам.

— Кінь ты, унуча з гэтымі сакатухамі...

— Чаму так, дзедка?—ветліва запытаўся лётнік.

Дзед падышоў да лётніка і не адказваючы на запытанне, ціха праказаў:

— Табе — нічога. Ты ў плячах шырокі, моцны. Арол. Але ты скажы, як гэтае дзіцё з табою лятала?

Дзед Мацей кіўнуў галавою на вёску, намякаючы на жанчыну, што прыляцела на самалёце.

— Дзіцё? — засмяяўся пілот і хутка павярнуўся да самалёта.

— Хадзі, сядай, дзед, сюды.

— Як... Для чаго?

— Сядай — пракачу.

— Мяне, значыць, пракоціш... і значыць, і...

Мацей ад раптоўнасці не ведаў, што рабіць. Яму то і вельмі хацелася праехацца у паветры, але ён баяўся згаджацца адразу. Не выпадала і валаводзіць. Дзед азірнуўся назад. Усе чакалі, якое ён прыме рашэнне.

— Каці, дзеду, чаго там!

— Ляці!

Моладзь падбадзёрвала дзеда. Міця горача размахваў рукамі і ківаў, каб дзед хутчэй згаджаўся. Разгублена апусціўшы рукі, дзед Мацей тупаў на адным месцы і паглядаў то на лётніка, то на моладзь, а то на больш сталых калгаснікаў. Але на каго ён ні глядзеў усе яму раілі прагуляцца ў неба. Нават дзедавы аднагодкі і тыя відаць не былі супроць самалёта.

— Ну, і што-ж вы думаеце. Ну, і паеду, ну...

І дзед Мацей пайшоў за лётнікам да самалёта. Сеў туды, дзе сядзела маленькая жанчына. Калі лётнік пачаў прывязваць яго ра-

мянямі, нейкі халадок спалоху прабег па ўсім целе дзеда Мацея. Але адступаць ужо было позна.

Міця радасна махаў дзеду рукой.

— Не здавай, дзеду, толькі не здавай.

Прапелер узвіхрыў слупы пылу. Усе рынуліся ў бок ад машыны. Дзед ужо не чуў ніякіх павучанняў Міці, а толькі бачыў, як той нешта паказваў рукамі. Лётнік, які сядзеў каля механізмаў кіравання, азірнуўся на дзеда і засмяяўся, адкрыўшы два радкі белых зубоў.

Ён нешта крыкнуў, па губах Мацей пазнаў, што сказаў: „Паехалі“.

Прапелер завыў яшчэ больш ярасна і машына пабегла па ялавіне. Мацей сударгава схапіўся за барты самалёта. Думаў адразу ірванецца самалёт у неба і баяўся гэтага моманту. Нават заўсёды спакойнае сэрца дзеда Мацея цяпер таххала крыху палахліва.

А машына бяжыць і бяжыць па полі і ўсё не адрываецца ад зямлі. Дзед не разумеў у чым справа, паспакайнеў і нават лепш прымайстраваўся ў сваім сядзенні. „Можа і зусім ён не падымецца?“— думаў ён.

Але вось машына пачала падымацца супраць ветра. Дзед убачыў натоўп вяскоўцаў. Лётнік азірнуўся на дзеда і махнуў скураною пальчаткай. Дзед не здагадваўся, што ён хоча гэтым сказаць. Адчуў толькі як машына хутчэй ірванулася наперад і амаль адразу перастала трусіць. Дзед паглядзеў на зямлю і здагадаўся: яны плывуць ужо ў паветры. Пажаўцелая трава з кожнай секундай аддалялася ад дзеда. Здавалася яму: яны стаялі на месцы, а зямля ўцякае ў іх з-пад ног. У сярэдзіне нешта сціснулася, падцягнула жывот, нават язык у роце прыціснуўся да нёба. Гэта самалёт набіраў вышыню. Але вось ён выпрастаўся і паплыў па простай лініі. Дзед Мацей уздыхнуў вольна на поўныя грудзі. Ён адчуваў сябе вельмі прыемна. Над галавой сіні купал неба, унізе жоўтая поўсць бярэзніка, рэчачка сіняй пакручастаю жылкаю, квадраты зжатых палеткаў. І ён шасцідзесяцігадовы дзед Мацей ляціць над гэтымі прасторамі, вольны ад зямлі, як птушка. Мацей нават для большага падабенства да птушкі паспрабаваў рукамі ўзмахнуць. Жорсткі вецер стукнуў па далонях рук, нібы ў злосці. То дзед Мацей больш рук ужо не выстаўляў, а там проста любаваўся краявідамі, якія рассцілаліся перад ім.

Самалёт злёгку пахіліўся на адно крыло і завярнуўся назад. Дзед схапіўся за барты самалёта — яму здалося, што самалёт валіцца на бок. Але лётнік азірнуўся на дзеда ўсё з той-жа вясёлай усмешкай і Мацей адразу паспакайнеў.

Вось самалёт трошкі знізіўся і пайшоў над палеткамі дзедавага калгаса. Копкі жыта стаялі толькі дзе-ні-дзе, жыта калгаснае ўжо звезена, на азяродзе сохне. Вось унізе плыве вялізны, жоўты касяк калгаснае грэчкі. Дзед самазадаволена зірнуў уніз на грэчышча і... настрой яго адразу змяніўся. Ён моцна закрычаў нешта лётніку. Той праз стукат матора ледзь пачуў дзедаў крык. Азірнуўся і ў здзіўленні ўбачыў, што Мацей усхвалёвана размахваў рукамі,

паказваў на нешта ўніз і штосьці крычаў. Ад напружання дзед Мацей аж пачырванеў і мусіць забыўся нават, дзе ён знаходзіцца.

— Спускайся!

... Змог толькі разабраць лётнік. Так і не зразумеўшы у чым справа, ён павёў самалёт на зніжэнне...

... На ялавіне дзеда „рэўкома" чакалі з нецярплівасцю. Міцька хваляваўся больш за ўсіх. Прыставіўшы далоні казырком да вачэй, ён перабягаў з месца на месца, каб ямчэй было сачыць за самалётам. Фроська, дык тая, чуць самалёт пахіліцца ажно войкае ад страху. Задраўшы ў гару бароды, глядзелі ў неба дзядзькі. Дзетвара з крыкам бегала па полі, махаючы рукамі дзеду Мацею. Пастушок Сярожка ад узрушання „страляў" сваёй пляцёнкай-пугай. Жанкі стаялі асобнаю купкай, акружыўшы Мацеяву старую. У тае па твары каціліся слёзы боязні за старога, і яна глядзела на самалёт, як на нешта святое, шэпчучы пра сябе штосьці незразумелае: — Хаця-б жа, хаця-б жа...

— Ото-ж, скажы ты, машына!—У захапленні прамовіў нізенькі дзядзька і, пакінуўшы глядзець на самалёт, пакруціў галавой у розныя бакі, каб перастала балець шыя.

Але вось хутка ўсе ўбачылі: самалёт завярнуўся супроць ветра і пачаў зніжацца.

Усіх незвычайна цікавіла, як адчувае сябе дзед Мацей, якія ў яго ўражанні пасля катання. Самалёт спыніўся недалёка ад натоўпа. Усе бегма кінуліся да самалёта.

— Ну, як, дзеду? Што?.. — чуліся ўскрыкі навокал.

Мацеява жонка выцірала слёзы радасці. Міцька ледзь-ледзь не хадзіў на галаве. А Мацей тымчасам адшпіліў рамяні, паспешна ўзняўся з кабіны, высокі шырокакосны, маўчкі пашукаў некага ў натоўпе. Натоўп напружана прыціх: што такое, у чым справа?

— Сярожа! — раптам закрычаў Мацей. — Ты тут, сукін сын? Каровы свае пакінуў? А яны вунь поўгектара грэчкі калгаснай зглумілі. Марш адсюль!

Пятнаццацігадовы юнак, якога дзед назваў Сярожам і сукіным сынам, шмыгнуў з натоўпа і без агляд́кі пабег да пакінутага статка.

Усе ў здзіўленні маўчалі. Тады, перамяніўшы тон, дзед Мацей з захапленнем адказаў на ўсе запытанні, накіраваныя да яго.

— З самалёта мне ўсё відна было. А не то, што...

Што „не то што" зразумець не мог ніхто, але ўсе бачылі, што „рэўком" і тут застаўся верны сваім прынцыпам.

г. Мазыр, 1936 г.

*А. С. Пушкін*

# ЦЫГАНЫ

Шумлівым гуртам цыганы
Па Бесарабіі вандруюць.
Цяпер над рэчкаю яны
Ў лапленых шатрах начуюць.
Агорнуты святлом нябёс
Іх адпачынак за шляхамі.
Між колаў зморaных калёс
Завешаныя дыванамі
Агні дымяцца; перад сном
Вячэра варыцца; у полі
Пасуцца коні; за шатром
Ручны мядзведзь ляжыць на волі.
Усё жыве і лашчыць зрок:
Сямейны клопат, мірны крок
У новы шлях, спачын ад змогі
І крык дзяцей, і спеў жанок,
І звон кавадла ля дарогі.
Над табарам вандраўнікоў
Звісае сонная маўклівасць,
Чуваць у цішыні стэпоў
Сабачы брэх, коней імклівасць.
Усюды стушаны агні,
Усё спакойна, месяц ззяе
Адзін з нябёснай вышыні
І ціхі табар асвятляе.
Не спіць яшчэ ў адным шатры
Над цмяным вогнішчам стары
Сагрэты вуглямі як марай,
Ён пазірае ў даль зары
Ахутаную ночнай парай.
Стары чакае ўжо даўно—
Яго дачка гуляе ў полі
Адна, вясёлая, на волі,
Яна прыдзе; але ўжо ноч
І хутка ў хмаркі месяц кіне
Святла апошнія струмкі;
Земфіра дзе? Вячэра стыне
А ўсё няма, няма дачкі.

Вось і яна. За ёю стэпам
Ісці спяшаецца юнак;
Раней яго пад гэтым небам
Цыган не бачыў.
„Тата, так
Дзяўчына кажа, за буграмі
Яго ў пустэлі я знайшла
І вось у табар прывяла.
Ён жыць хацеў-бы з цыганамі;
Яго сюды прыгнаў закон,
Каб з намі быць, любіць прыроду,
Яго завуць Алеко; ён
Ісці за мной выказваў згоду“.

Стары.

Я рад. Застанься да зары
Тут з намі ў нашым спаць шатры,
Альбо жыві сабе паволі
Між нас, пі дзікіх кветак пах,
Дзялі агульны хлеб і дах.
Будзь наш, прыстань да нашай долі,
Вандроўнай беднасці і волі;
На досвітку ў шырокі край
Мы на адным вазу паедзем;
Любы занятак выбірай:
Жалеза куй альбо спявай
Альбо ў сяло заходзь з мядзведзем.

Алеко.

Я ваш.

Земфіра.

І будзе ён маім:
Ніхто яго не адцурае!
Але ўжо ноч зусім... знікае
У цемень месяц маладым
І сон, і сон мяне схіляе.

---

Развіднела. Стары ўжо ходзіць
Вакол маўклівага шатра.
„Земфіра! Сонейка ўзыходзіць,
Прасніся госць! Даўно зара
Вас кліча кінуць ложак млосны“.
І з шумам сыпануў народ,
Шатры складаюцца, калёсы
Гатовы рушыцца ў паход;
Усё скранулася на ўсход:
Мужчыны і браты, і жонкі,
Натоўп і гаманкі, і звонкі,
І спеў сяброўак маладых

У шум зліваецца агульны,
У кошыках перакідных
Аслы нясуць дзяцей малых
Ї ўцехі іхнія, і гульні;
Пярэстаць яркіх лахманоў—
Пад звон і бразгат нецярплівы
Мядзведзя важкіх ланцугоў,
Праходзіць босы і маўклівы
Натоўп старых і хлапчукоў;
Мядзведзя рык, сабак выццё,
Плыве цыганскае жыццё,—
Калёсаў рып, валынкі стогн,
Усюды тлумнасць, дзікасць, беднасць,
Але якая непасрэднасць,
Далёкая ад нашых дзён
Ляноты мёртвай і нядбайнай,
Як рэха песніаднастайнай.

---

На апусцелую даліну
Пахіла пазіраў юнак,
Самоты цмяную прычыну
Не мог ён зразумець ніяк.
З ім чорнавокая Земфіра,
Жыхар ён вольны, сонца шчыра
Паўдзённаю красой над ім
Пераліваецца, смяецца.
Чаму-ж у неспакоі сэрца?
Ї клопаты якія з ім?
Птушка вольная не дбае
Пра пякельныя труды,
Не віе, не завівае
Цёплых гнёздаў на гады.
На сучку пераначуе;
Сонца выгляне, яна
Першай раніцу пачуе,
Заспявае ад відна
За вясной, лясоў красуняй,
Лета пойдзе па расе,—
Туманы з дарогі сумнай
Восень доўгая нясе.
Людзям нудна, людзям гора;
Птушка ў вырай да вясны
Паляціць ізноў за мора—
Залатыя бачыць сны.
Як тая птушка бесклапотны
Ї ён, выгнаннік пералётны,
Гнязда надзейнага не меў,
Шукаць прыстанішча не ўмеў.
Ї скрозь была яму дарога,
Ї цень пасля гарачыні;

І пасля проспы свае дні
Ён аддаваў на клопат бога,
І не магла скрануць трывога
Яго ляноты з глыбіні.
Бывала зоркаю чароўнай
І слава клікала здалёк,
Раскоша госцяю раптоўнай
Наведвала яго куток;
Над галавой яго пахмурай
Гром не аднойчы грукатаў,
А ён спакойна пад віхурай
І ў ясны дзень адпачываў.
І жыў ён, лёсу непадлеглы;
А як ўладалі, божа мой,
Віры пачуццяў супроцьлеглых
Яго слухмянаю душой!
Хоць грудзі ціснула знямога
Яны імкнуліся праз край!
Чаму-ж прыціхлі? Ці на доўга?
Яшчэ праснуцца: пачакай.

---

Земфіра.

Скажы, мой друг, ты не шкадуеш
Таго, што кінуў назаўжды?

Алеко.

Што-ж кінуў я?

Земфіра

Ты разумееш:
Людзей радзімы, гарады.

Алеко.

Што шкадаваць? Калі-б ты знала,
Калі-б ты толькі уяўляла
Няволю душных гарадоў!
Там цесна, там за агарожай
Не дышуць раніцай прыгожай,
Ні пахам заліўных лугоў;
Кахаць саромяцца, гандлююць
Там воляю сваёй, мой друг,
З пракляццем ідала шануюць,
Каб даў ім грошы ды ланцуг.
Што я пакінуў? Горач здрады,
Пляткарскай ярасці прысуд,
Велікасвецкія пагарды,
Альбо натоўпу дзікі суд.

Земфіра.

Там велізарныя палаты,
А колькі дзіўных дыванаў,
Там гульні, скокі, шум піроў,
А як апрануты дзяўчаты!

Алеко.

Што шум гулянак гарадскіх?
Смех весялосці без кахання?
Дзяўчаты... лепшая за іх
Ты, без караляў дарагіх
І без халоднага іх ззяння!
Ты не змянiся, дружа мой!
А я... адно маё жаданне
Заўсёды падзяляць з табой
Каханне, радасць і выгнанне.

Стары.

Ты любіш нас, хоць родам сам
Адтуль, з багатага народу;
Але шануе не заўсёды
Той волю, хто радзіўся там.
Ёсць сярод нас адно паданне:
Даўно царом сасланы быў
Жыхар паўдня сюды ў выгнанне.
(Я памятаў, але забыў
Дасціпнае яго празванне.)
Ён быў гадамі ўжо стары,
Але юнак душою чыстай:
Меў песень дзіўныя дары
І голас—шум вады вячыстай.
І палюбілі ўсе яго,
Ён над Дунаем жыў суровым,
Не крыўдзіў сэрца нічыйго,
І зачароўваў ціхім словам.
Не прывыкаў ён да прыгод,
Слабы і робкі быў як дзеці;
Чужыя людзі за яго
Звяркоў і рыб лавілі ў сеці;
Як мёрзла быстрая рака,
Гулі зімовыя віхуры,
Цяплом з напаляванай шкуры
Яны ўкрывалі старыка.
Да клопатаў будзённых, бедных
Ён прызвычаіцца не мог;
Бадзяўся ён худы і бледны
І ўсё казаў: карае бог
Яго за грэшнае імкненне,
Чакаў ён: ці прыдзе збавенне.

Усё няшчасны ныў і ныў
Адзін, каля дунайскай плыні,
Ды па радзіме слёзы ліў
Свой горад згадваючы сіні.
І паміраючы прасіў,
Каб пахаванымі былі
На родным поўдні яго косці,
І смерцю—на чужой зямлі—
Незаспакоеныя косці.

Алеко.

Дык вось ён лёс тваіх сыноў
О, Рым, славутая дзяржава!
Пясняр кахання і багоў
Скажы мне: што такое слава?
Магільны гул, гук пахвальбы,
Што з роду ў род ідзе паданнем,
Ці толькі, поўнае жальбы,
Цыганскае апавяданне?

---

Прашло два леты. Зноў блукаюць
Натоўпам мірным цыганы;
Як і раней, усюды маюць
Гасціннасць і спакой яны.
Пракляўшы кайданы асветы
Алеко вольны, як яны;
Без жалю на учынак гэты
Вандроўныя вядзе ён дні.
Ён той-жа ўсё; сям'я ўсё тая-ж;
І год былых не памятае
Цыганскае вандроўкі госць.
Ён любіць іх начлег, турботы
І слодыч вечнае ляноты,
І беднай мовы прыгажосць.
Мядзведзь, што з роднай збег аблогі,
Калматы госць яго шатра,
У людных сёлах, паўз дарогі
Ля малдаванскага двара
Перад натоўпам асцярожным
І важка скача, і раве,
Ланцуг дакучлівы ірве.
Прымайстраваўшы кій дарожны
Стары у бубны лена б'е,
Алеко звера з песняй водзіць,
Земфіра слухачоў абходзіць,
Даніну іхнюю бярэ;
Надыйдзе ноч; і вараць разам
З палёў нежатых збажыну;
Стары заснуў—і ціха з часам...
І сумна зверу аднаму.

---

Ужо ў вясновых цёплых леках
Стары пад сонцам грэе кроў;
Каля калыскі пра любоў
Дачка спявае, а Алеко
Бялее ад прачутых слоў.

Земфіра.

Рэж мяне, муж стары,
Рэж, палі на агні:
Ні нажа, ні агню
Не баюся ані.
Ненавіжу цябе,
Нецярплю, нецярплю;
Да труны, да труны
Я другога люблю.

Алеко.

Пакінь. Уймі свой галас дзікі,
Абрыдла песня мне твая.

Земфіра.

Абрыдла? Клопат невялікі
Яе сабе спяваю я.
Рэж, палі на агні;
Ты не возьмеш свайго;
Муж стары, грозны муж,
Знаць не будзеш яго.
Ён за вёсны свяжэй
Гарачэй летніх дзён;
А які малады!
А як любіцца ён!
Як туліла яго
Я у змроках вясны!
Як смяяліся там
Мы з тваёй сівізны!

Алеко.

Маўчы, Земфіра, так не гожа...

Земфіра.

Але ты песню зразумеў?

Алеко.

Земфіра!..

Земфіра.

Ты злавацца можаш,
Бо пра цябе спяваю спеў.
(*Выходзіць і спявае*: Муж стары і інш.)

Стары.

Я помню, помню: песня гэта
У нас складалася здаўна,
Ужо не раз на ўцеху света
Людзьмі спяваецца яна.
Вандруючы ў стэпах Кагула,
Зімой, скрозь ноч, пры лучніку
Яе спявала Марыула
Маю калышачы дачку.
У розуме былыя леты
Штогод усё змрачней, змрачней;
Але запала песня гэта
Глыбока ў памяці маей.

---

Ноч; ззяннем месяца ўпрыгожан
Поўдня блакітны небакрай,
Стары Земфіраю ўстрывожан.
„О, бацька мой, паназірай,
Як спіць Алеко: як скрозь сон
І стогне, і рыдае ён“.

Стары.

Маўчы Земфіра, не чапай.
Я знаю рускае паданне:
Цяпер з паўночнае пары
Дух хатні ў соннага дыханне
Гняце, сціскае; на зары
Адыйдзе ён. Не гавары.
Сядзі...

Земфіра.

І шэпча ён: Земфіра!

Стары.

Цябе шукае ён і ў сне:
І ў сне цябе кахае шчыра.

Земфіра.

Яго любасць абрыдла мне,
Мне сумна, воля заклікае,
Я ўжо... цішэй! ты чуеш? ён
Імя другое вымаўляе.

Стары.

Чыё?

Земфіра.

Жахлівы чую стогн
І скрогат... слухаць непрыемна;
Я пабуджу яго.

Стары.

Дарэмна,
Нячыстай сілы не гані,
Адыйдзе прэч.

Земфіра.

Ён павярнуўся;
Прыўзняўся; кліча; ён праснуўся.
Іду туды.—Бывай, засні.

Алеко.

Дзе ты была?

Земфіра.

Я там сядзела.
Я чула: нейкі дух сціскаў
Тваю душу, яна цярпела
Пакуты. Ты мне пагражаў:
Ты сонны скрыгатаў зубамі
Ї клікаў.

Алеко.

Я цябе прысніў.
Я сніў, нібыта паміж намі...
Я мары жудасныя сніў.

Земфіра.

Не вер, Алеко, снам зманлівым.

Алеко.

Ах, я не веру: ні кляцьбе,
Ні снам, ні гутаркам шчаслівым,
Ні нават сэрцу што ў цябе.

---

Стары.

Які, Алеко, неспакой
Цябе штодня гняце няўмольна?
Тут небу ясна, людзям вольна
Ї жонкі славяцца красой.
Не плач, цябе нуда з'ядае.

Алеко.

Мяне Земфіра не кахае!

Стары.

Яна дзіця; не трэба слёз,
Жыць у адчаі неразумна:

Кахаеш цяжка ты і сумна,
Жанчыны-ж сэрца не ўсур'ёз.
Зірні: у сіняве чароўнай,
Як зорка свеціцца адна;
На ўсе палі і рэкі роўна
Праменні кідае яна.
Памкнецца ў воблака любое,
Святлом прыгожым зіхаціць,
І вось, ляціць ужо ў другое,
Але ёй там не доўга быць.
Хто месца ў небе ёй пакажа,
І загадае: пачакай!
Хто сэрцу сваёй любай скажа:
Ты не змяніся і кахай!
Падумай!

Алеко.

Як яна кахала!
І тулячыся да мяне
У ціхіх змроках, як у сне
Гадзіны разам каратала!
Вясёлае дзіцё! Не раз,
Ці мілым шэптам, ці лятункам,
Альбо гарачым пацалункам
Яна адна, бывала, ўраз
Маю задуму адганяе.
І што-ж? Прабіў апошні час!
Мяне Земфіра не кахае.

Стары.

Паслухай, раскажу табе
Я повесць аб самім сабе.
Даўно, даўно, калі Дунаю
Не пагражаў яшчэ маскаль—
(Алеко, бачыш: пачынаю
Я даўнішні прыгадваць жаль.)
Мы ўсе баяліся султана;
А правіў Буджаком паша
З высокіх вежаў Акермана.
Я быў юнак; мая душа
Ад радасці ў той час кіпела,
І галава мая сівых
Адзнак на кудзерах не мела.
Паміж сябровак маладых
Адна была... і доўга ёю
Як сонцам любаваўся я,
І ўрэшце рэшт назваў сваёю.

Ах, хутка маладосць мая
Падучай зоркай прамільгнула!

А ты, каханне, ты—мінула
Яшчэ хутчэй; і толькі год
мяне кахала Марыула.

Аднойчы, ля кагульскіх вод
Цыганскі табар мы сустрэлі;
На тры начы свае шатры
Яны разбілі ля гары,
І вогнішчы адны нас грэлі.
Яны пашлі перад зарой,
Дачку пакінуўшы малой
Пашла за імі Марыула.
Я мірна спаў; зара мільгнула;
Праснўўся: любае няма,
Я клічу—але ўсё дарма.
Земфіра плакала ад страты,
Заплакаў я!.. з хвіліны той
Спрацівілі мне ўсе дзяўчаты:
Між іх ніколі позірк мой
Не выбіраў сабе сяброўкі,
І адзінокія вандроўкі
Я ўжо ні з кім не падзяляў.

Алеко.

Чаму-ж адразу не дагнаў
Ты здрадніцу ў паходзе пешым
І ёй, і цыганам драпежным
Кінжал у сэрца не ўвагнаў?

Стары.

Губіць не гожа маладосці.
Хто зможа затрымаць любоў?
Усім па часе дні любосці;
Былыя дні, не будуць зноў.

Алеко.

Я не такі. Я не дакорам
Даводзіў-бы свае правы;
Я помсціўся-б, пакуль жывы,
О не! Каб ворага над морам
Хоць соннага а ўгледзіў я,
Клянуся, што нага мая
Прысуд пісала-б немінучы;
Я ў хвалі мора, з горнай кручы
Безабароннага-б штурхнуў;
А потым жах яго халодны
Я смехам дзікім папракнуў,
І доўга-б веліч асалоды,
І гул смяротны сэрцам чуў.

---

Малады цыган.

Яшчэ адно, адно прызнанне!

Земфіра.

Ужо нам развітацца час.

Цыган.

У вусны... хоць на развітанне!

Земфіра.

Бывай, пакуль не ўбачыў нас
Рэўнівы муж.

Цыган.

Калі-ж спатканне?

Земфіра.

Сягоння, там, ля курганоў,
Як зойдзе месяц, над магілай...

Цыган.

Зманіла! І не прыдзе зноў.

Земфіра.

Бяжы—вось ён. Прыду, мой мілы.

---

Алеко спіць. І зданню сон
Яго развагу атуляе;
На ўласны крык праснуўся ён,
Руку рэўніва прасціраe;
Халоднай коўдры палатно
Рука здранцвелая хапае—
Яго сяброўкі не відно...
Ён падхапіўся, доўга слухаў...
Ні шэптаў не пачуў, ні рухаў,
І жар, і лёд па ім цяклі;
Выходзіў ён з шатра маўклівы,
Каля калёс блукаў, жахлівы;
Усюды змрок; маўчаць палі;
Круг месяца адпачывае,
Ледзь зоры свецяць пакрысе,
Ледзь след прыкметны на расе
За курганы вядзе, знікае:
Спяшаючыся ён ідзе,
Куды злавесны след вядзе.

Магіла на краю дарогі
Бялее перад ім здалёк,
Туды, у прадчуванні змогі,
Кіруе ён знямелы крок,

Дрыжаць і вусны, і калені,
Ідзе... і раптам... можа сон?
Ён бачыць блізкія два цені
І блізка шэпты чуе ён,
Каля зняважанай магілы.

1-шы голас.

Пайду—

2-гі голас.

Чакай!

1-шы голас.

Пайду, мой мілы.

2-гі голас.

Застанься, прычакаем дня.

1-шы голас.

Час позні.

2-гі голас.

Як несмела любіш.

Хвілінку!

1-шы голас.

Ты мяне загубіш.

2-гі голас.

Хвіліначку!

1-шы голас.

Загіну я,

Праснецца муж...

Алеко.

Праснуўся я.

Чакайце! Вас насцігла згуба;
І тут каля труны вам люба.

Земфіра.

Мой друг, бяжы, бяжы!

Алеко.

Куды?

Чакай прыгожы малады...
Ляжы!

*(Б'е яго нажом)*

Земфіра.

Алеко!

Цыган.

Паміраю!

Земфіра.

Алеко! Ты яго заб'еш!
І будзе кроў тваім убраннем!
О, што ты нарабіў?

Алеко.

Але-ж,
Цяпер дышы яго каханнем.

Земфіра.

Ненавісцю к табе гару,
Пагрозе ў вочы пазіраю,
Тваё забойства праклінаю.

Алеко

Памры-ж!

*(Забівае і яе)*

Земфіра.

Кахаючы памру.

---

Заззяў у сонечным праменні
Усход. Алеко за бугром
У акрываўленым адзенні
Сядзеў на камені з нажом.
Два трупы перад ім ляжалі;
Забойца быў страшны; кругом
Несмела цыганы стаялі
Трывожным гуртам ля яго;
Магілу поблізу капалі,
Шлі жонкі сумнаю чаргой
І ў вочы мёртвым цалавалі.
Стары цыган адзін сядзеў
І на дачку сваю глядзеў
У немым, у бяздзейным жалі;
А трупы цыганы ўзнялі
І ў дно халоднае зямлі
Паволі маладых паклалі.
Алеко здалеку глядзеў
На ўсё. Калі-ж іх засыпалі
Апошняй горкаю зямлёй,
Ён моўчкі, ціха пахіліўся,
І з каменя ў траву зваліўся.

Тады цыган стары як век
Сказаў: „Ты горды чалавек,
Пакінь нас дзікіх, без законаў,
Без шыбеніцы, без турмы,
Не трэба нам крыві і стогнаў;
З забойцай жыць не хочам мы.

Радзіўся не для дзікай долі—
Сабе ты толькі прагнеш волі;
Мы не забудзем гэты час:
Мы ціхія, мы з сэрцам шчырым,
Ты злосны;—адыйдзі-ж ад нас,
Даруй! жыві, Алеко, з мірам!“

Сказаў ён, і шумлівым вірам
Узняўся табар цыганоў
З даліны смерці і пагрозы,
І ўсё за далямі стэпоў
Схавалася. Адны калёсы
Засцеленыя дыванам
Стаялі ў полі за бугром.
Часамі так перад зімою,
Туманнай зябкай раніцою
Калі ўзнімаецца з палёў
Запозні статак жураваў
І ў вырай з крыкамі імкнецца,
Смяротным ранены свінцом
Самотны жораў застаецца
Уніз павіснуўшы крылом.
Ноч надышла; ніхто за шляхам
Агню сабе не распаліў,
Ніхто пад палатняным дахам
Да раніцы не адпачыў.

## Эпілог

У памяці, на вокамгненне,
Чароўнай сілаю радкоў
Так робіцца жывым з‘яўленне
То светлых то благіх часоў.
Там дзе ад доўгіх боек гулу
Прастор краіны не змаўкаў,
Дзе рускі некалі Стамбулу
Свае граніцы дыктаваў,
Дзе даўні наш арол двухглавы
Яшчэ шуміць мінулай славай,
Я сустракаў сярод стэпоў
Ля даўніх рубяжоў, у полі,
Пакорлівае племя волі,
Натоўпы мірных цыганоў.

Але няма ўжо шчасця з вамі
Прыроды бедныя сыны!
Пад абшарпанымі шатрамі
Жывуць зняверлівыя сны,
І вашы мірныя калёсы
Ужо гаротны чуюць час,
І ад збянтэжанага лёсу
Ніхто не абароніць вас.

*Пераклаў Аркадзь КУЛЯШОЎ.*

*А. Міронаў*

# У ДНІ НЕЗАХОДЗЯЧАГА СОНЦА

Спачатку Кутук і сам не ведаў, чаму ён вышаў з калгаса. Многа дзён пасля ён спрабаваў думаць аб гэтым, адшукваючы прычыну, але так і не знайшоў яе. Калгас арганізаваўся ранняй вясной, калі ночы толькі што пачалі адступленне на поўнач, дазваляючы хмурым і снежным дням гадзіны на дзве заліваць тундру пахмурным шэрым святлом. Сапраўдная, дружная вясна, калі бурна растаюць снягі і ільды, адплываючы на поўнач, на ўздагон за зімняй доўгай ноччу,—гэта прамысловая вясна была далёка. І ўсё-ж, паляўнічыя стойбішча Нықірак хваляваліся, збіраючыся ў ярангах, яны ўсё часцей выказвалі незнаёмае слова „калгас“, падымаючы незвычайныя спрэчкі. Гэта пачалося, калі ў стойбішча з'явіўся інструктар райвыканкома Зораў: Кутук памятаў, як, седзячы разам з другімі луораветланамі, ён уважліва слухаў апавяданне прыезджага аб арцельным паляванні на звера.

У той час Кутук ахвотна згадзіўся ўступіць у калгас. Ён пагутарыў з сям'ёю, і жонка і дзеці ўхвалілі яго рашэнне. Ён радаваўся нарастаючым дням, ад цямна да цямна працуючы разам з луораветланамі. Звычайна, паляўнічыя пачынаюць рыхтавацца да промысла, калі снег ужо растане на сопках. Але ў гэтую вясну, паслухаўшы параду Зорава, яны сталі ладзіць байдары ў дні яшчэ поўныя зімніх маразоў.

Луораветланы працавалі дружна і весела. Іх радавалі перспектывы багатага промыслу, радавала навізна работы і тое, што хоць цяпер Кутук стаў звычайным чалавекам. А гэта апошняе было вялікай падзеяй для жыхароў стойбішча Нықірак.

Стойбішча было маленькае: усяго шэсць яранг. Яно размясцілася далёка за палярным кругам, за трыста кілометраў на захад ад мыса Рыркарпій. На сотню кілометраў вакол не было чалавечага жылля. Паляўнічыя вельмі рэдка выязджалі ў далёкія суседнія пасяленні. Яшчэ радзей у Нықірак прыязджалі госці.

Нықірак славіўся сваёй беднасцю. У ім было толькі васемнаццаць паляўнічых, але затое жанчын, старых і дзяцей—больш пяцідзесяці чалавек. Мора не песціла луораветланаў здабычай і людзі жылі пад вечнай пагрозай голада. Голад, асабліва ў вельмі марозныя зімы, быў частым госцем Нықірака. Старыя памяталі

страшныя гады, калі да вясны дажывалі толькі дзесяць-пятнаццаць найбольш моцных луораветланаў.

— Тады з'ядалі ўсё,—апавядалі старыя,—мясныя запасы, сабак і скуры з байдар і полагаў. А калі не было чаго есці, мы лажыліся на голую зямлю ў ярангах і чакалі смерці.

Толькі ў апошнія гады здань галоднай смерці зусім пакінула Ныкірак, як і ўсё ўзбярэжжа Чукоткі. Калі промысел мала даваў здабычы, на Рыркарпій, (на рацыю) рускіх выязджалі ўпражкі паляўнічых. Яны прывозілі адтуль і мяса, і чай, і муку. За прадукты паляўнічыя расплачваліся скуркамі пясцоў, мядзведзяў і марскога звера, калі пушніны не было, факторыя рацыі давала прадукты ў доўг.

Ізноў старыя, жуючы смачныя белыя хлябцы „каукау“,—расказвалі моладзі аб голадзе ранейшых гадоў:

— Раней голад зімою цярпелі ўсе луораветланы нашай зямлі. Мы харчаваліся толькі мясам, а звера цяжка забіць, тады кожны жыў для сябе: суседзі вельмі мала маглі дапамагаць адзін другому, рускія і амерыканцы на зіму выязджалі да сябе ў цёплыя землі. Ім патрэбны былі толькі скуркі, людзей яны не шкадавалі. Але і за скуркі мы не маглі накупляць у іх многа: яны мала плацілі, нават за блакітнага пясца. Вось таму і голад быў частым госцем у нашых ярангах. А цяпер на Чукотцы няма рускіх, амерыканцаў і луораветланаў. Ёсць людзі большэвікі і ўсе людзі адна сям'я. Хіба можа ў сям'і быць голад, калі ў бацькі ці ў маткі ёсць яда, а ў другіх няма, бацька ці матка заўсёды падзеляцца харчамі са сваёй сям'ёю. І голада быць не можа. Так і ў нашай зямлі цяпер: мы жывём адной сям'ёю, і сям'я наша дружная і багатая...

...Кутук справядліва лічыўся лепшым паляўнічым стойбішча Ныкірак. Ён многа плаваў на амерыканскіх кітабойных парусніках, дзе вывучыўся метка страляць, нават па рухавых мішэнях. Ад амерыканцаў ён вывез умельства гаварыць па-англійску, жаваць тутунь і безутрымную смеласць. На маленькай байдары ён адзін адплываў далёка ў мора на разведку звера. Доўга плаваючы сярод дрэйфуючых ільдзін, ён амаль заўсёды вяртаўся ў стойбішча, набіўшы шмат маржэй альбо цюленяў. Плаваць у адкрытае мора, падобна Кутуку, не адважваўся ніхто. Мора было прывычным толькі ля берагоў. Далей за даляглядам яно таіла здраду, жах і пагібель. Але Кутук нібы не ўсведамляў гэтага. Здзіўляючы луораветланаў, ён адзін без сабак адыходзіў у цёмныя зімнія ночы і вяртаўся назад з велізарнай скурай мядзведзя. У яранзе яго, акрамя жонкі, было шэсцера дзяцей, але вялікая сям'я не пужала Кутука: ён нарыхтоўваў столькі мяса для сваёй сям'і, што хапала на ўсю зіму і яшчэ аддаваў частку здабычы менш удачлівым суседзям.

Луораветланы лічылі Кутука дзіўным і незразумелым. Спакойныя вясёлыя і ветлівыя, яны любілі пагутарыць у доўгія зімнія вечары, у паданнях і казках праседжваючы пурговыя вечары. Яны гаварылі: „на поўначы нельга быць аднаму і сумаваць—паўміраем“. Але ніколі ў размовы паляўнічых не ўмешваўся Кутук: высокі і касцісты, з шырокімі моцнымі плячамі, з прадаўгаватым суровым

тварам ён быў нелюдзімы, маўклівы і замкнуты. Людзі пазбягалі ўважлівага пранізваючага погляда яго чорных, ледзь прыжмураных воч. Яны з небяспекай паглядалі на смуглы твар яго і на сярдзітую зморшчку паміж брывамі, якая ў гневе рабілася чорнай. Людзі баяліся страшнай сілы яго, аднойчы на вясеннім свяце пераканаўшыся ў цудоўным спрыце даўгіх рук Кутука. Тады людзі доўга ўгаворвалі яго выступіць на барацьбу з кім-небудзь, але Кутук адмаўляўся, парываючыся ўцячы ў ярангу. Ён прыняў выклік самага моцнага ў стойбішчы луораветлана, маладога паляўнічага Ры, калі той насмешліва крыкнуў:

— Кутук не баіцца мядзведзеў, але спужаецца перад дзіцянём.

Кутук скінуў кухлянку, аддаў жонцы неразлучную люльку і памалу, дзіўна ўсміхаючыся падышоў да Ры. Ён абняў яго за пояс, прыпадняў і асцярожна палажыў на снег. Усё з той-жа дзіўнаю ўхмылкаю ён зноў надзеў кухлянку і пайшоў у ярангу. А Ры, з тварам, які стаў шэры як попел, ляжаў на снягу і цяжка са стогнам і хрыпам дыхаў. Людзі стаялі, ахопленыя жахам, і маўкліва глядзелі, як Ры пляваўся густымі кавалкамі крыві.

Пазней луораветланы яшчэ раз убачылі сілу і смеласць Кутука. Аднойчы супроць стойбішча ля берага Белага мора спынілася амерыканская шхуна. Амераканцы сышлі на бераг і прапанавалі паляўнічым мяняць пясцовыя скуркі на гарэлку. Людзі ўзрадваліся гарэлцы і кінуліся за пушнінай. Але з ярангі вышаў Кутук:

— Мяняйце на порах, на стрэльбы і муку,—сказаў ён,—гарэлку браць не дазволю.

Людзі спужаліся і згадзіліся, ніводнай кроплі гарэлкі не папала на бераг. Кутук не мяняў нічога, ён толькі наглядаў за гандлем. Амерыканцы парашылі адпомсціць яму. На другі дзень на бераг з'ехалі чатыры матросы. Яны накіраваліся да ярангі Кутука, але гаспадара не было дома: ён пайшоў на паляванне. Амерыканцы смяяліся, абзываючы Кутука трусам. Да таварышоў далучыліся яшчэ шэсцера матросаў, яны разышліся па ярангах і пачалі прыставаць да жанчын, выганяючы з полагаў іх мужоў.

У гэты час у стойбішча вярнуўся Кутук. Дзеці сустрэлі яго ля ярангі і з плачам скардзіліся на матроса, які выганяў іх з полага. Кутук усміхнуўся і пралез у ярангу. Праз хвіліну ён з'явіўся зноў, высока над сабой нясучы амерыканца, які дзіка крычаў. І зноў дзіўна, аскаліўшы роўныя белыя зубы, усміхаўся яго твар. Падышоўшы да берагу ён лёгка, нібы трэску кінуў матроса ў ледзяную ваду і, не аглядваючыся, накіраваўся да стойбішча. На крык таварыша выбеглі амерыканцы з другіх яранг. Закасваючы рукавы, яны кінуліся да Кутука, Кутук спыніўся, чакаючы іх.

Бойка цягнулася не больш дзесяці хвілін. Не вытрымалі чэцвера амерыканцаў і кінуліся да берага, да шлюпкі. Астатнія ляжалі на снезе выплеўваючы зубы і кроў, Кутук не пабег за імі. Як і раней, ухмыляючыся ён далоняй сцёр кроў са сваіх губ і паціху пайшоў у ярангу. Амерыканцы падабралі таварышоў і хутка паехалі на шхуну. Раніцай мора было чыстае: шхуна пакінула небяспечную стаянку, дзе гаспадарыў страшны баксёр.

...Па тундры ад Чауна да Уэлена, пра Кутука пайшлі казанні. Казалі, нібы ў ім сядзіць дух маржа, нібы ўсе духі тундры падуладны яго словам. Апавядалі, што ён ведае мову звяроў і звяры слухаюць яго.

У Ныкіраку даўно не было шамана. Луораветланы парадзіўшыся, парашылі прасіць Кутука стаць шаманам іх стойбішча. Кутук выслухаў іх і падняўшы ўваходную скуру свайго полага сказаў:

— Паглядзіце, у мяне нават бубна няма. Я не ўмею шаманіць і шаманам быць не хачу

Трохі пазней у Ныкірак прыехаў з усходняга берага вядомы шаман Этаргін, ён хацеў пабачыць Кутука, але той не пусціў яго ў сваю ярангу. Даведаўшыся, што Этаргін шаманіць у суседняй яранзе, Кутук прыйшоў туды і як сабаку—груба выгнаў яго. Ён сам запрог у нарту сабак шамана і пхнуўшы на яе перапужанага Этаргіна сказаў:

— Выбірайся, і каб лапы важака тваёй упражкі ніколі не пасмелі брудзіць снег бліжэй, ніж за тры суткі перахода да нашага стойбішча. Перадай вашым шаманам, калі яны прыедуць у Ныкірак, дык іхнія нарты назад пойдуць пустымі.

Павярнуўшыся да луораветланаў, якія ў маўклівым жаху наглядалі за найвялікшым духоўнікам, Кутук цвёрда, спакойна сказаў:

— У нас не было ў стойбішчах дармаеда і не будзе яго. Калі вам хочацца выць і стукаць у бубен, можаце гэта рабіць, але ніводнаму шаману я не дазволю пасяліцца ў Ныкіраку і забіваць вашы дурныя галовы дурнымі казкамі аб духах. Духаў выдумлялі шаманы і няхай яны трымаюцца далей ад стойбішча. Шаманам і духам я зраблю так жа весела, як я зрабіў амерыканцам.

Пасля гэтага людзі яшчэ больш сталі баяцца Кутука. Яны бачком абходзілі яго ярангу і пазбягалі сустрэч з ім. Але Кутук трымаўся як і раней спакойна з усімі і паступова людзі супакоіліся.

Так ішоў час да той пары, пакуль у стойбішча прыехаў Зораў і ўпершыню загаварыў аб калгасе.

Калгас арганізаваўся хутка. Луораветланы ахвотна аб'яднalі буйныя байдары, гарпуны і пясцовыя пасці. Калі ў канцы мая ля берагоў пачаў трэскацца лёд, на прычале стаялі гатовыя да промысла тры вялікія байдары. Старыя адзін за другім вартавалі на верхавіне скалістага мыса, выглядаючы ці не адгоніць вецер ад берагоў тоўстыя зімнія ільды.

Людзі нецярпліва чакалі звера, толькі Кутук маўкліва і спакойна хадзіў вакол байдар, у соты раз правяраючы моцнасць скур, якія пакрывалі іх. Луораветланы хацелі выбраць яго старшынёй калгаса, але Кутук адмовіўся:

— Пачнецца промысел,—гаварыў ён,—мы выбярэм старшынёю таго, хто ў першы дзень заб'е больш звера. Незадоўга да промысла ў стойбішча прыехаў ганец з Рыркарпія. Ён паведаміў, што факторыя вылучыла для калгаса падвесны матор. Трэба было паспець, пакуль пачне раставаць снег, прывезці яго ў Ныкірак. Луораветланы вельмі абрадваліся: матор аблягчаў работу на байдары, ён вызваляў ад грэблі трох зверабояў і значна пахутчаў манеўранасць судна. Акрамя Кутука, кіраваць маторам мог малады

паляўнічы Ры, пасля памятнага свайго паражэння, які з захапленнем сачыў за Кутуком і стараўся ва ўсім наследваць яму.

За маторам калгаснікі паслалі Кутука. Ён выехаў разам з ганцом і на чацвертыя суткі, раніцой, прыехаў да высокіх атрогаў Рыркарпія. Дарога была цяжкая: бурна раставалі снягі і сабакі зусім змучыліся нават з пустой нартай.

У Рыркарпіі Кутук затрымаўся на два тыдні. Ён у першы-ж дзень уважліва агледзеў матор. Матор быў новенькі, ён пабліскваў змазкай і адпаліраваным металам. Кутук любаваўся ім, пяшчотна пагладжваючы вялікай шаршавай рукой медныя лопасці вінта. Налюбаваўшыся, ён беражліва, як дзіцянё узяў матор і асцярожна данёс яго на бераг мора. Выбраўшы адну з байдар, ён падвесіў матор і запусціў яго. На беразе, з цікавасцю наглядаючы за іспытам матора, стаялі луораветланы і работнікі факторыі. Яны ўважліва сачылі за смелымі паваротамі байдары, за рэзкімі, упэўненымі, поўнымі сілы рухамі паляўнічага.

Байдара хутка неслася па блакітнай люстранасці лагуны. Кутук мяняў хуткасць хады, прыслухоўваючыся да мернага стука матора. Ён крута паварочваў руль, і байдара, нібы жывая, кідалася з боку ў бок. Ён збіраўся ўжо завярнуць да берага, як раптам матор зачыхаў, закашляўся і змоўк.

Да берага Кутук падплыў на вёслах: ён так і не змог больш запусціць матор. Зноў асцярожна і беражліва ён зняў яго з байдары і аднёс у факторыю.

— Адрамантаваць трэба,—па-руску сказаў ён, апускаючы матор на прылавак.

...Рамонт зацягнуўся на дзесяць дзён: прышлося выточваць новы вал. Кутук чакаў, наглядаючы за работай токара. Ён цярпліва маўчаў, але з кожным днём рабіўся ўсё больш хмурым. І калі новая спроба матора пакахала надзвычайныя якасці, Кутук абрадаваўся, што зможа ўжо ехаць дамоў.

Ён вышаў за пасёлак, у тундру Над тундрай распласталася бяздоннае блакітнае неба. На ім, быццам падвешанае, стаяла асляпіцельна-белае сонца. Тундра ляжала бясконцая і роўная, толькі на даляглядзе ўздымаючыся да блакітнага неба палогімі спінамі сініх сопак. На неба, на яркае сонца балюча было глядзець. Тундра ўзнялася над зямлёй густой парaслю асакі, чырвонымі званкамі палярных макаў і бардовымі выспамі паўзучай камнеломкі. Яркі і стракаты дыван красак сваёй прыгожасцю радаваў погляд, але Кутук не прыкмячаў яго, углядваўся ў тундру, адшукваючы на ёй хоць маленькія белыя кропачкі Ён шукаў снегу, па якім змагла-б прайсці ўпражка. Снегу не было. Вакол разгулялася таропкае і кароткае палярнае лета.

Кутук цяжка ўздыхнуў і перавёў погляд на бераг мора. Наколькі хапала вока, бераг ляжаў жоўта-карычневы, і каля яго не бачна было ні кавалачка прыпая. Удоўж берага, набягаючы на атмелі, пеніліся белыя барашкі хваль. Мора ляжала чыстае і блакітнае, на ім не блішчэла аніводнай ільдзінкі. Толькі там-сям, у некалькіх метрах ад берага, на мелях стаялі высокія ільдзіны-стамухі, і вострыя грані іх, быццам дыяманты, іскрыліся на сонцы.

Кутук вярнуўся ў факторыю. Раніцай, сабраўшы сабак, ён уклаў на нарту загорнуты ў скуры матор і па чырвона-зялёнаму пакрывалу тундры рушыўся да стойбішча Нықірак.

Толькі на дванаццаты дзень дабраўся Кутук да стойбішча. За дарогу ён вельмі схудаў. Вочы яго праваліліся. З вялікімі сінімі кругамі яны сталі яшчэ больш страшнымі. У стойбішча ён вайшоў, нясучы матор за плячамі. За ім, наводдаль, памалу ішла ўпражка. Луораветланы ледзь пазналі худых сабак Кутука, якія хісталіся над пустой нартай, і якія толькі месяц таму назад былі лепшымі на стойбішчы. Кутук памалу прайшоў да берага, асцярожна паклаў на пясок сваю ношу і, кінуўшы кароткае прывітанне, пайшоў у ярангу.

Жонка доўга, падрабязна расказвала яму аб навінах стойбішча, ён слухаў пагладжваючы дзяцей, якія прытуліліся да яго грудзей і толькі час-ад-часу перарываў расказ жонкі кароткімі запытаннямі:

— Паляўнічыя даўно б'юць звера,—расказвала жонка.—Звера набіта многа і мясам напаўняюць падрад усе ямы. Заўтра чарга дойдзе і да нашай. Яшчэ некалькі дзён і промысел будзе закончан.

— Чаму нашу яму хочуць загрузіць апошняй?

— Цябе не было. Ну, і яранга наша апошняя ў стойбішчы. А што? Старшынёю выбралі Ры, ён у першы дзень забіў больш за ўсіх іншых.

— Добра працавалі паляўнічыя?—зноў перабіў Кутук.

— Добра. Мы многа мяса будзем мець у гэтую зіму.

Больш Кутук не пытаўся ні аб чым. Не перапыняючы, ён слухаў расказ жонкі, напружана абдумваючы штосьці сваё. Жанчына ўбачыўшы, што ён амаль яе не слухае—змоўкла. Рыхтуючы яму пасцель, яна разаслала аленія скуры. Кутук лёг і працягваў думаць, пакурваючы люльку. А калі побач лягла жонка, ён цвёрда сказаў:

— У стойбішча многа мяса будзе і гэта добра. Але мае дзеці будуць есці толькі тое мяса, якое я сам прынясу ў ярангу.

...Раніцою ён сказаў Ры, што выходзіць з калгаса. Ён і сам не ведаў, чаму зрабіў гэта. Ці то было крыўдна, што не ён, а другі стаў на чале калгаса, ці то ганарлівасць узяла сваё і не захацеў ён ісці ў калгас да самага сканчэння промысла. Альбо можа ён раззлаваўся, што мясную яму парашылі закласці апошнюю. Ён не ведаў, але рашэнне змяніць не хацеў, не гледзячы на просьбы паляўнічых. Ры хваравіта перажываў выхад Кутука з калгаса. Перамагаючы сваю баязлівасць, ён зайшоў да яго ў ярангу і прапанаваў Кутуку стаць старшынёю. Паляўнічы моўча выслухваў госця, ён ухмыляўся і зараз гэта ўхмылка не пужала Ры: ухмылка была простай, ласкавай і адкрытай, так ухмыляюцца дзецям і сябрам. Кутук упершыню многа гаварыў сам і гутарка іх цягнулася да новага круга незаходзячага сонца па блакітнаму летняму небу. Ры пайшоў заспакоены, амаль паверыўшы Кутуку, што восенню ён зноў уступіць у калгас. Старшыня наківаваўся к мору, і доўга хадзіў па беразе, абдумваючы начную гутарку. Ён пачаў трохі разумець дзіўную замкнутасць і радаваўся, што Кутук з ім першым быў адчынены, Ры адчуваў новы прыліў блізасці, нават кволасці

да замкнутага сілача. Ён шукаў яго дружбы і верыў, што дружбу знойдзе.

— Ён харошы,—шаптаў Ры,—ён вельмі харошы. Не так цяжка яму перамагчы сваю сілу і цвёрдасць, як цяжка адчыкіць луоравэтланам глыбокую, сумленную сваю душу.

Ры шкадаваў Кутука і не ведаў, як дапамагчы яму адолець сваю замкнутасць, адзіноту і схаванасць.

На наступны дзень Кутук знік, загадаўшы жонцы перадаць калгаснікам:

— Кутук не хоча вашага звера. Ён пайшоў з стойбішча за здабычай. Ён узяў з сабою маленькую байдарку.

Нечаканы выхад яго здзівіў паляўнічых. Яны прызвычаіліся да дзівацтва аднавяскоўца. Толькі Ры засумаваў, бачучы, што Кутук не змяніў свайго рашэння.

Дні і ночы стаялі светлыя і непадзельныя. Дні і ночы зліваліся ў суцэльны дзень, ён цягнуўся доўга і непрыкметна. Мясныя ямы загружаліся мясам і толькі жонка Кутука не дазволіла класці мяса ў сваю яму, яна чакала, пакуль Кутук звернецца ў Ныкірак. Ён прыехаў ноччу—асцярожна і ціха. Асцярожна і ціха ён перанёс у сваю яму здабычу—дзве вялікія ўжо апрацаваныя тушы маржа і чатыры тушкі цюленяў. Жонка паспрабавала ўгаварыць яго, каб ён не ехаў больш, але Кутук ласкава заспакоіў яе і, захапіўшы важака сваёй упражкі, знік зноў. Незаходзячае сонца шчодра грэла тундру. Нават звычайныя ўлетку туманы зараз не клубіліся над морам і стойбішчам. Калгаснікі, спяшаючыся скончыць прамысел, трохі адпачыўшы, зноў выязджалі ў мора.

Аднойчы раніцою, накіроўваючыся на промысел, людзі падыйшлі да байдараў і ў жаху акамянелі. Ля вялікай байдары, дзе, паблісквваючы на сонцы, вісеў матор, усе нарты былі перабіты вострым маржовым клыком. Байдара была зусім сапсавана. Вакол яе на пяску бачны былі плямы крыві. Людзі ціха падышлі да байдары, як раптам знутры яе пачуўся пакутлівы стогн.

Асцярожна і маўкліва людзі вынялі з байдар збітага чалавека, які быў пакрыты крывавымі струп'ямі і падцёкамі. Чалавек быў чужы—маленькі і тоўсты. Ён сам са страху абазваўся:

— Я Цінь-Цінь,—прастагнаў ён.—Вы павінны мяне ведаць—я чаучу.

Толькі цяпер калгаснікі пазналі багацейшага аленавода Чукоткі. Ён заўсёды начаваў у тундры, вельмі рэдка прыязджаў на прыўзбярэжныя стойбішчы. Цінь-Цінь быў багаты і магутны, яго баяліся ўсе чаучу тундры.

І раптам гэты Цінь-Цінь збіты і нікчэмны ляжаў у сапсаванай некім байдары. Ад нечаканасці шмат хто спужаўся, калгаснікі даўно не пакідалі стойбішча і не ведалі навін тундры.

АлеЦінь-Цінь, паляжаўшы, напіўся гарачай нэрпавай крыві і зноў пачаў гаварыць. Вакол яго сабралася ўсё насельніцтва стойбішча. Людзі чакалі яго слоў, тлумачэння страшнага выпадка.

— У мяне адабралі аленеў,—раптам плаксіва пачаў Цінь-Цінь.— Бедната і мае батракі арганізаваліся ў калгас і забралі маіх аленеў. Хіба правільна гэта?

— Правіальна,—выступіў Ры.—Але чаго ты залез у байдару?

— Гэта Кутук,—запішчаў Цінь-Цінь.—Ён амаль не забіў мяне і пакінуў мяне жывым для таго, каб я вам расказаў праўду. І я раскажу яе, інакш ён зловіць мяне і заб'е зусім.

Людзі сышліся яшчэ цясней. Кулак сядзеў на пяску, спіною прысланіўшыся да байдары, і сярдзіты у зморшчках твар яго, яшчэ больш зморшчыўся ад вострых прыступаў болю. Заспакоіўшыся, ён працягваў:

— У мяне адабралі аленяў, спачатку вясны і я стаў бедняком. Я пайшоў на бераг, у стойбішча Пнопельхен, і папрасіў прыняць мяне ў калгас. Мяне прынялі, але перад самым промыслам, я маржавым клыком сапсаваў калгасныя байдары і ўцёк на захад. Я дайшоў да мыса Рыркарпія і на рацыі рускіх працаваў істопнікам. Але нядаўна туды прыехалі чаучу і пазналі мяне. Яны ведалі, што я зламаў байдары ў Пнопельхене, усё расказалі начальніку рацыі. Я ўцёк, ратуючыся ад іх суда. Бо мяне-ж даўно хацелі забіць. Мне заўсёды ўдавалася выратавацца,—ён злосна ўхмыльнуўся,—заўсёды да сустрэчы з Кутуком. Я хацеў выліць сваю помсту на чаучу і на берагавых. Я дастаў на рацыі крыху смяротнага парашка—рускія завуць яго „яд"—і насыпаў на ягель, на аленняй пашы ля заходніх каменняў. Там здохла ад гэтага шмат аленяў. Уцякаючы адтуль, я дайшоў да вашага стойбішча. Было ціха, усе спалі. Я ўкраў з адной ярангі маржовы клык і пайшоў да байдараў. Гэтыя дзіркі на байдары ад майго клыка: я хацеў сапсаваць вашы лодкі і матор. Але вось тут я папаўся ў рукі Кутуку... Сцеражыцеся яго, у ім жыве злы дух!—і непрыемна завыў Цінь-Цінь.

— Ну, ну, кінь!—грозна нахіліўся да кулака Ры.—Ты кажы ўсю праўду, як казаў Кутук.

— Я буду казаць,—безнадзейна кіўнуў Цінь-Цінь галавою.—Я паламаў байдару, калі Кутук прышоў з мора. Я заўважыў яго ля берага: ён працаваў вяслом бязшумна і шпарка і байдара яго нясляся нібы рыба. Было ўжо бегчы позна, я схаваўся ля матора, але ў Кутука вочы воўчыя: ён яшчэ з мора заўважыў мяне. Ён падняў мяне як дзіцё, заткнуўшы мне рот кавалкам скуры, каб я не крычаў, ён пачаў мяне біць. Ён збіў мяне ўсяго. Ад галавы да пят. І мусіць забіў-бы, каб яму не прышло ў галаву пакінуць мне жыццё, дзеля таго, каб я вам расказаў усю праўду. Ён мядзведзь, ён страшны умка. Я баюся яго і праклінаю яго магутнасць.

— А ён?—раптам усміхнуўся Ры.

— Ён?—не зразумеў Цінь-Цінь.—Ён нічога не баіцца: ні мядзведзя, ні белых амерыканцаў, ні духаў. Таму што я ведаю: у ім жыве злы дух...

...У той-жа дзень перапаставіўшы матор на другую байдару двое паляўнічых завезлі Цінь-Ціня на рацыю Рыркарпія. Астатнія луораветланы працягвалі промысел. А Кутука не было: збіўшы кулака ён хутка склаў у сваю яму прывезеную здабычу і ў тую-ж ноч зноў паплыў у мора.

Нарэшце промысел быў скончаны. Мяса у стойбішчы набралася вельмі шмат: не толькі людзям, але і сабакам яго хапала да новай вясны.

Аднойчы ў сонечную раніцу паляўнічыя парашылі ў апошні раз выехаць у мора. Яны выехалі рана ў пошуках звера, паплылі на захад на воддаль берага. Паляваць даводзілася ў моры, вышукваючы плывучыя стады маржэй і, акружаючы іх, біць проста ў вадзе. У гэты-ж час морж вельмі сыты, ён тоне хутка пасля смерці. Умельства палявання заключалася ў тым, каб забіўшы звера, прыбуксіраваць яго да берага і ўжо на беразе пачаць раздзелку тушы.

На вялікіх байдарах плылі лепшыя стралкі. Зайшоўшы з двух бакоў стада і трымаючыся наводдаль, яны меткімі кулямі забівалі маржоў. Маржы ад злосці кідаліся да байдараў, але людзі недапускаючы іх, альбо ўцякалі, альбо прыстрэльвалі. Вялікія байдары плылі за стадам. З іх, увесь час, суха патрэсківалі стрэлы вінчэсцераў. Ззаду ішлі маленькія байдары, яны падыходзілі да забітых маржоў, і заарканіўшы іх, цягнулі да берага.

Морж вельмі моцны і смелы. Паранены, ён у сляпой ярасці не баіцца нічога. Страляць даводзілася так, каб папасці ў маленькае вока маржа: кулі не маглі прабіць тоўстага чэрапа звера, альбо тоўстае сала на яго тулаве. Адзінае месца ў велізарнай тушы маржа, якое можна было прабіць—гэта малюсенькае і злоснае вока. Паляўнічыя білі залпамі, напавал, інакш і байдарам і людзям пагражала пагібель: ранены звер нырцаваў пад ваду, плыў пад хрупкае днішча байдары і цяжкой, каменна-цвёрдай галавой біў у байдары, на крошкі ломячы яе. А потым, калі людзі, спатыкаючыся падалі ў ваду, ён клыкамі ламаў іх тут, напаўняючы вечную цішыню ўрачыстым хрыплым ровам.

Многа выпадкаў пагібелі паляўнічых памятаюць хмурыя, маўклівыя берагі краіны блакітных пракстораў.

Але калгаснікі стойбішча Ныкірык увесь промысел правялі без няшчасцяў. У гэтую раніцу, забіўшы чатырох велізарных самцоў, яны забуксіравалі іх і паплылі назад да стойбішча. Уперадзе ішла маторная байдара, на буксіры ведучы грабныя. Ззаду на доўгіх вяроўках цягнуліся тушы маржоў.

Людзі адпачывалі. У поўляжачым становішчы, яны курылі люлькі, успаміналі падрабязнасці промысла. Усім падабалася дружная калгасная работа. Мора было спакойнае. Толькі мёртвая зыбь ледзь пахіствала судны. На поўначы далягляд быў бліскуча-белым: дзесьці там, цяпер ужо недалёка рухаліся зімнія ільды. У паветры адчувалася дыханне зімы. Нават краскі тундры пачалі прыкметна вянуць. Сонца ніжэй плавала над зямлёй, увечары спускаючыся на захадзе да самай вады. Падыходзіў канец лета і за ім—восень.

— Сабака!—раптам крыкнуў адзін з калгаснікаў.—Сабака на беразе!

Усе павярнуліся да берага. Там, ля самай вады, бегаў вялікі чорны сабака. Ры адразу пазнаў яго і накіроўваючы байдару да берага, крыкнуў:

Гэта важак упражкі Кутука. Кутук узяў яго, ад'язджаючы з стойбішча.

Калі байдары блізка падышлі да берага, сабака кінуўся ў ваду і паплыў да іх. Ён моцна вішчаў, і не даючыся ў рукі, зноў паплыў

да берага. Ры, а за ім і яшчэ трое саскочылі на бераг. Ры загадаў астатнім калгаснікам плыць са здабычай у стойбішча, а адтуль маторнай байдарай хутчэй вяртацца назад, трымаючыся блізка ад берага. Разам з трыма калгаснікамі ён кінуўся за сабакам, які ўцякаў ад яго.

Сабака хутка пабег па беразе, і людзі ледзь паспявалі за ім. Ры адчуваў, што з Кутуком здарылася няшчасце. Чакаючы іх, сабака спыніўся і нецярпліва скавытаў. Хутка бераг завярнуў направа, вузкаю бухтаю ўразаючыся ў мацерык. Яшчэ здалёк Ры ўбачыў у канцы бухты на пяшчанай адмелі, перавернутую ўверх днішчам байдару, і разам з ёю ў вадзе на адмелі, дзве чорныя рэчы. Ён зразумеў усё, і амаль абганяючы сабаку пабег наперад.

Дно байдары было ўсё прабіта дзюркамі. Ры толькі мельком глянуў на яе і кінуўся да Кутука, якога напалову залівала вада. Падаспелі і іншыя паляўнічыя. Яны асцярожна вынеслі Кутука на сухое месца. У вадзе ляжаў велізарны, з сівымі вусамі морж. Морж быў мёртвы, і з яго тырчэла вялікая рукаяць нажа. Ры ціханька сказаў:

— Ён не адразу забіў маржа і морж перавярнуў байдару. Яны ў вадзе вялі барацьбу і тут Кутук дабіў маржа сваім нажом. Але ці жыў Кутук?

Раздзеўшы паляўнічага, калгаснікі агледзелі яго раны. Сабака павізгваючы бурчаў, скалячы на маржа воўчыя зубы. Кутук ляжаў нерухома. Яго цела было халоднае, як у мерцвяка. Смуглы твар яго стаў шэрым, а маршчына паміж брывей пачарнела, нібы ад гневу. Левая нага яго моцна апухла і пачарнела. У трох мясцінах на ёй ззялі глыбокія рваныя раны. Чорная рана была ў правым баку, а левая рука, пераламаная каля пляча, звісала ў адваротны бок.

Моцна перавязаўшы раны, калгаснікі пачалі расціраць цела Кутука. Хутка скура паружавела і ледзь прыкметна ўздрыгнулі бровы.

— Жыў!—абрадавана крыкнуў Ры.—Націрайце мацней!

...Калі ў бухту, грукочучы маторам, увайшла вялікая байдара, Кутук расплюшчыў вочы. Ён пагледзеў на ўсіх паляўнічых і зноў страціў свядомасць. Але цяпер Ры не баяўся:

— Будзе жыў,—сказаў ён.—Кутук вельмі моцны, ён перанясе гэтыя раны.

Толькі пасля шасці дзён Кутук прышоў да свядомасці. Ры амаль бяззменна вартаваў каля ложка хворага, спачатку баючыся, што ён зноў страціць свядомасць. Але Кутук доўга глядзеў на яго, а потым заплюшчыў вочы і пачаў сапсці роўна і спакойна.

— Спіць,—думаў Ры. І, лёгшы побач з хворым, ён і сам адразу заснуў—упершыню за гэтыя небяспечныя, напружаныя шэсць дзён.

Увечары ў ярангу сабраліся ўсе паляўнічыя стойбішча. Жонка Кутука падняла пярэднюю скуру полага, і цяпер нават самыя далёкія ў яранзе маглі бачыць хворага. Кутук быў у паўляжачым становішчы, абапіраючыся здаровым бокам на мягкія скуры. Ён глядзеў на сваіх аднавяскоўцаў і маўкліва ўсміхаўся. Але гэта

ўхмылка нікога не пужала: яна была ласкавай, шчырай і кволай— так усміхаюцца дзецям і сябрам.

Ры сядзеў побач, трымаючы ў руках здаровую руку Кутука. Ён ужо ў другі раз бачыў на яго твары гэтую цёплую мягкую ўхмылку, і разумеў, што цяпер Кутук бачыць сяброў ва ўсіх лёраветланаў стойбішча. І ад гэтага Ры было радасна і лёгка.

— Кутук,—праказаў Ры,—ты цяжка хворы, але не пужайся, ты можаш спакойна набірацца сілы: мясная яма ў тваёй яранзе напоўнена лепшым мясам. Твае дзеці ўсю зіму будуць мець харч. Ты папраўляйся, Кутук, і на асенняе свята я зноў паклічу цябе на барацьбу,—смяючыся скончыў ён.

Кутук удзячна ўсміхаўся. На вейках яго бліснулі здрадлівыя слязінкі і, не ўтрымаўшыся там, сарваліся на грудзі. У яранзе вяселая радасная і напружаная цішыня, і калі Кутук ціха і слаба загаварыў, голас яго пачулі ўсе лёраветланы:

— Ры! І табе і ўсім паляўнічым дзякуй за вашу дружбу і клопаты! Я папраўляюся і да асенняга свята буду здаровы... І тады я папрашу прыняць мяне ў калгас.

— Ты і так прыняты ўжо!—адказалі некалькі паляўнічых.— Ты такі ж калгаснік, як і мы.

— Добра. Я цяпер буду такі-ж, як і вы. Яшчэ раз дзякую за вашу дружбу. А цябе,—павярнуўся ён да Ры,—а цябе я зноў павалю на снег, дружа. Я навучу цябе хітрасцям барацьбы і пакажу, як тады я пабіў амерыканцаў. Гэта называецца бокс.

*А. Крапачоў*

# ЯНГІ-ЮЛЬ *

## I

Зямлю ўрадлівай Мургабскай даліны з кожным днём усё мацней прыпякала бязлітаснае закаспійскае сонца, а ў шмат якіх агульных советах Мервскага раёна веснавая пасеўная зацягвалася, а дзе-ні-дзе проста зрывалася.

Трэба было спяшацца і ўпаўнаважаныя партыйнага камітэта, змагаючыся за кожны засеяны гектар, за кожную рабочую гадзіну, выцягвалі апошнія сілы з сваіх хударлявых коней, пераязджаючы з аднаго ўчастка на другі.

Але вясной тысяча дзевяцьсот дваццаць дзевятага года нельга было не перамагчы. І раённы партыйны камітэт мабілізаваў усё, што можна было кінуць на дапамогу адстаючым аулам.

Сакратар раённага камітэта Таш-Назараў звярнуўся за дапамогай да камісара Акцюбінскага кавалерыйскага палка Паўлава. На наступны дзень Паўлаў падабраў чырвонаармейскую брыгаду для работы ў вялікім ауле Вякіль-Базар.

Кіраўніком брыгады быў прызначаны сакратар партыйнай ячэйкі першага эскадрона Белоў. Брыгада ўзяла неабходны інвентар, некалькі бракаваных коней і выехала ў аул, паклаўшы пачатак шэфству акцюбінцаў над Вякіль-Базарам. Час быў трывожны, нярэдка прыходзілі з-за граніц басмачаскія шайкі. Баючыся адкрытых сутычак з часцямі Чырвонай арміі, басмачы нападалі з-за вугла на адзінокіх людзей, на мірных, без усякай зброі дэкхан, разлічваючы напалохаць баязлівых, пасеяць паніку і сарваць усю работу органаў улады. Чырвонаармейцы ўзялі з сабой вінтоўкі і былі гатовыя не толькі сеяць, але і абараняць Вякіль-Базар.

Кожны паасобны двор Вякіль-Базара падобны на крэпасць. Высокія сцены і цяжкія, акаваныя жалезам, брамы надзейна ахоўваюць ад іншых сямейныя тайны.

За шчыльнымі глінабітнымі сценамі цесна прыціскаюцца адна да адной нізкія кібіткі для жылішча.

На поўвярсты адсюль другая сям'я схавалася ў такую самую крэпасць.

І толькі ў цэнтры аула каля мячэці больш шчыльнай купкай стаяць дзесяткі два двароў. На паўночнай ускраіне аула паралельна

---

* Новая дарога.

шырокай накатанай дарозе цягнецца высокі грабень вялікага арыка Чэрмін-Ябу. Ад яго, як ад артэрыі, па абодвых баках разыходзяцца вузкія жылкі дробных арыкоў.

У рэчышчах расчышчаных ужо арыкоў нудліва скрыпяць чыгіры, качаючы сваімі высокімі коламі, на абадах якіх прывязаны гліняныя збаны, ваду з Чэрмін-Яба.

Вада для туркменскага дэкханіна—усё.

Там дзе вада, там і жыццё.

Без палівання, нават урадлівую ілістую глебу, гарачае сярэднеазіяцкае сонца хутка ператварае ў патрэсканую, звонкую сухую корку.

Сотні вякоў, змагаючыся з пустыняй, адваёўваў чалавек вузкую паласу зручных земляў, але і адваяваўшы, ён павінен быў берагаць гэтую паласу ад наступаючых пяскоў. Расчыстка арыкоў адбірае палову рабочага часу дэкханіна.

Прадзедаўскім кетменем, самаробнай рыдлёўкай абараняецца дэкханін ад ліпкай гразі, якая засмечвае русла абваднялыных каналаў.

Пад'язджаючы да Вякіль-Базара чырвонаармейцы мімаволі пацішылі хаду сваіх коней, назіраючы за парывістымі рухамі сотняў дэкхан, якія расчышчалі арыкі.

Гэта было незвычайным для ўсякага, хто вырас дзе-небудзь пад Тамбовам або ў Сібіры і ніколі не ведаў упартай барацьбы з прыродай за кожную лішнюю кроплю вады.

## II

Чырвонаармейцы працавалі невялікімі групамі па ўказаннях аульнага совета і ўпаўнаважанага Шэпелева ў тых, у якіх не было коняй і ва ўдоў. Падвечар збіраліся на прасторным двары аульнага каапсратыва, ставілі стомленых коней пад навесы, а самі ішлі адпачываць на шырокай глінабітнай тэрасе—балахане, зробленай уздоўж унутранай сцяны асноўнага будынка.

У першыя дні дэкхане сустрэлі брыгаду з недавер'ем. Потым прывыклі, пазнаёміліся амаль з усімі чырвонаармейцамі, і ўсё часцей мінаючы аульны совет, непасрэдна самі звярталіся за дапамогай да Белова.

Але вось аднойчы раніцай старая Бібі-Салтан, злосна лаючыся, пагнала чырвонаармейцаў з поля.

— Праклятыя дзеці ішака і шакала, ідзеце адсюль, дайце мне ў апошні раз легчы сухімі грудзьмі на сваю зямлю.

Чырвонаармейцы здзіўлена пераглядаліся, спрабуючы на няправільнай туркменскай мове угаварваць Бібі-Салтан, але тая, бяссільна сціскаючы дрыжачыя кулакі, працягвала плакаць. Белоў паклікаў Хангільдзіна, які добра гаварыў па-туркменску.

Хангільдзін падышоў да Бібі-Салтан і, усміхаючыся, спытаўся чаму яна сёння такая злосная? Старая, не дачуўшы, закрычала на Хангільдзіна:

— Няхай будзе праклята памяць твайго бацькі, няшчасны кафір*—і, знямажаная паваліласся на зямлю.

З цяжкасцю паднялася і, поўзаючы на каленях па ўзараным полі, камячыла ў сваіх хударлявых кастлявых руках кавалкі зямлі.

Белоў паглядзеў на Бібі-Салтан і сказаў чырвонаармейцам:

— Пойдзем, хлопцы, угаварваць бескарысна, але цікава будзе даведацца, чаму яна гэта раптам на нас так зазлавалася? Пайшлі.

У другіх гаспадарках таксама не пускалі на палі.

Толькі Кулы-Бала, палахліва азіраючыся на суседзяў, працягваў разам з чырвонаармейцамі працаваць на сваім участку.

Вечарам, калі налятаў лёгкі вецер і пацягнуў па аулу сіняваты едкі кізячы дымок, сабраліся чырвонаармейцы ля варот аульнага кааператыва і, губляючыся ў здагадках, доўга гаварылі аб сёнешнім здарэнні.

На наступную раніцу не пусціў на сваё поле і Кулы-Бала. Увесь дзень чырвонаармейцы працавалі на двары, прыводзячы ў парадак коней і інвентар. Увечары прышоў Якуб-Гельды. Пад яго каляровым саматканым халатам віднеліся сінія чырвонаармейскія шаравары і зашчытная гімнасцёрка. Некалькі месяцаў таму назад вярнуўся Якуб пасля дэмабілізацыі з другога туркменскага кавалерыйскага палка. Раней Якуб і яго малодшы брат Ібрагім батрачылі ў аулах па Мургабскай даліне. Толькі за год да прызыва Якуба ў армію, пасля зямельна-воднай рэформы, атрымалі браты надзел, пачалі працаваць у сваёй гаспадарцы.

У першы-ж дзень прыезда групы Белова, Якуб-Гельды пазнаёміўся з чырвонаармейцамі, расказваў пра аул, пра яго людзей, раіў, каму трэба дапамагаць у першую чаргу. Зараз Хангільдзін і Белоў паведамілі Якубу пра тое, што адбылося ўчора на полі Бібі-Салтан.

— Ведаю, чуў. Не сама старая дадумалася—вучыў нехта.

Белоў прапанаваў, каб змяніць адносіны дэкхан да брыгады, заўтра-ж ісці ўсім і працаваць на палі Якуб-Гельды.

Гельды рашуча запратэставаў:

— Дрэнна будзе, Белоў. Дэкхан смяяцца будзе. Я вялікі, здаровы, брат ёсць. Мулла, бай скажа—Кзыл-аскер** ашуканства робіць. Нельга так—шкода будзе. Дзень пачакаць трэба, заўтра сход. Сваіх людзей падрыхтую. Скажу праўду. Бічэры*** ў ауле шмат, самі прыдуць за дапамогай. Галодным хто хоча быць?

## III

На агульным сходзе ішлі вялікія спрэчкі з-за бавоўны. Доўга ўпаўнаважаны партыйнага камітэта Шэпелеў, слесар чыгуначных майстэрняў перасыпаў сваю прамову прыказкамі і жартамі, пераконваў дэкхан павялічыць пасевы хлапка.

Сход ажыўлена смяяўся над жартамі, але адмоўчваўся, калі гутарка заходзіла пра тое, каб усю паліўную зямлю аддаць пад бавоўну.

* Кафір—няверны.
** Кзыл-аскер—чырвонаармеец.
*** Бічэра—бедната.

Выступіў Ата-Мурадаў, пахваліў уладу за мудрасць, але заявіў, што па ўсіх адзнаках ураджаю чакаць сёлета нельга—вады будзе мала. Ну, а калі мала вады, дык як-жа можна сеяць бавоўну? Абы хоць пшаніцу вырасціць сабе на харчаванне.

Шэпелеў ізноў усхвалявана пераконваў дэкхан, што гэта неправільна, што год сёлета будзе ўраджайны і баяцца няма чаго, улада без хлеба нікога не пакіне.

— Вы зразумейце, таварышы, дэкхане,—настойліва даводзіў Шэпелеў:—Як будзе нязручна з палівам, калі ўсё застанецца як зараз.

Бавоўна расце побач з джугарой і пшаніцай. Адно трэба паліваць, другое не трэба. Колькі вы задарма вады страціце, колькі зерня вымачыце.

За хлеб непакоіцца няма чаго. Совецкая ўлада чыгунку пабудавала і хлеб з Сібіры сюды пайшоў ужо...

Прысутныя падтрымлівалі Шэпелева, давалі парады, але шмат хто ўжо збіраўся разыходзіцца, так і не вырашыўшы пытання пра бавоўну.

Шэпелеў, які сам вырас у Туркменіі, разумеў, што людзі баяцца неўраджая, баяцца, што задарма прападзе нечалавечая праца на расчыстцы арыкоў і будзе згублена здабытая з такой упартасцю вада. Але ведаў Шэпелеў, што хлеб у ауле ёсць, што яго хаваюць і ходзяць па ауле чуткі пра хуткую вайну з Англіяй і Афганістанам.

Адчувалася, што нехта падбівае на гэтыя чуткі, імкнучыся зацягнуць справу і прапусціць усе тэрміны для пасеву бавоўны.

Шэпелеву было зразумела, што, не гледзячы на сваю сувязь з аулам, ён наўрад ці пераможа гэтую бабаўняную баязлівасць і ён злаваў на сябе за тое, што не падрыхтаваў Якуба-Гельды, і паклаўшы надзеі толькі на сваё веданне туркменскай мовы, праваліў заданне партыйнага камітэта.

Узняўся Якуб-Гельды і папрасіў затрымацца ўсіх, хто збіраўся ўжо ісці дамоў. Навокал Гельды шчыльным кругам сядзелі тыя, хто разам з ім атрымалі зямлю толькі пасля зямельна-воднай рэформы.

Якуб, паказваючы на сядзеўшага побач з Ата-Мурадавым Бек-Назара, спытаў старшыню аульнага совета Ніяза, якім чынам трапіў сюды пазбаўлены права голасу Бек-Назар, двор якога совецкая ўлада заняла пад кааператыў.

Ніяз разгублена пачаў перабіраць на стале нейкія паперкі. Сход загудзеў. Бек-Назар, сабраўшы ў далонь сваю вузкую сівую бараду, усміхаючыся, пільна глядзеў на Якуба-Гельды.

Якуб пачакаў, калі сход супакоіўся і заявіў, што ён і яшчэ трыццаць шэсць сямействаў згодны аддаць сваю зямлю пад бавоўну і заклікаюць да гэтага ўсіх дэкхан Вякіль-Базара.

— Чырвонаармейцы дапамогуць слабым гаспадаркам,—скончыў Якуб-Гельды...

Ля дзвярэй аульнага совета прарэзліва заенчыў сабака. Гэта Бек-Назар, пакідаючы сход, сукаватым кіем ударыў сабаку па мордзе.

IV

Шэпелеў жыў разам з чырвонаармейцамі. Яны заўсёды з ахвотай слухалі яго расказы пра Туркменію.

Для многіх слухачоў кожная бытавая дробязь была настолькі нечаканай, што Шэпелеў горача абураўся, як гэта людзі не ведаюць такіх дробязей.

Белоў і астатнія чырвонаармейцы адчувалі сябе спачатку пасаромленымі, але потым растлумачылі, што нельга-ж іх раўняць з Шэпелевым, які нарадзіўся і вырас у семнаццаці кілометрах ад Вякіль-Базара. Шэпелеў шчыра смяяўся над сваім абурэннем.

— Не злуйцеся, хлопцы. Чэснае слова даю, што забыўся.

Дні праз тры пасля агульнага схода, у часе такой чарговай гутаркі Шэпелеў расказваў чырвонаармейцам пра Бек-Назара.

— Вядома, ён усіх баламуціць, гэта зразумела, але паспрабуй яго злаві. Хітра працуе. Пацеха часамі, хлопцы, бывае. Вось і ён ведае гэтую гісторыю—паказаў Шэпелеў на прышоўшага разам з ім Якуба-Гельды.

— У Бек-Назара дзве жонкі. Ён, стары корч, яшчэ трэцюю сабе купіць хоча. І паслухайце-ж, што робіць кавалак паразіта. Угаварыў гэтага дурня Ніяза, старшыню аульнага совета, накіраваць адну бекназараўскую жонку ў Марв на трактарныя курсы. Ну, там бачаць, што старая, але не ведаюць, што байская жонка. Ніяз пра гэтае нічога не паведаміў. Гавораць ёй:

— Куды ўжо табе, бабулька вучыцца.—Вярнулася назад. Даведаўся я аб гэтым і пытаюся ў Ніяза:

— Навошта ты байскую жонку на курсы паслаў?

— Як навошта? У яго адна жонка засталася, ды ён сабе яшчэ трэцюю купіць, будзе каму за гаспадаркай глядзець.

А заданне трэба выканаць.

Калі нельга яго жонку, дык я сваю пашлю, няхай мне ўлада новую жонку купіць.

Чырвонаармейцы засмяяліся.

Шэпелеў, закурыўшы папяросу, працягваў:

— Бачыце, якія парадкі, папрацуеш тут, шмат чаму навучышся. Добра, што Якуб з сваімі моцна падтрымлівае, а то-б і я з бавоўнай у лужыну сеў, ды і вам давялося-б вярнуцца назад.

Брыгада ўжо два дні ізноў працавала на баваўняных палях.

— Але нічога,—скончыў Шэпелеў,—вывядзем і Бек-Назара на чыстую ваду.

Хангільдзін прывёў з вадапоя апошніх коней. Вароты яшчэ не закрываліся. Якуб-Гельды, развітаўшыся з чырвонаармейцамі, адазваў Шэпелева да варот і доўга гаварыў з ім па-туркменску.

Шэпелеў некалькі разоў перапытываў Якуба:

— Правільна, у кутку гаворыш?

Нарэшце яны сталі развітвацца.

— Дык заўтра раніцай, Шэпелеў?—спытаў Якуб-Гельды.

— Абавязкова заўтра-ж раніцай,—пацвердзіў Шэпелеў.

Нечакана з боку мечэці глуха ўдарылі з некалькіх вінтовак. У цемры замільгалі агні частых стрэлаў.

Чырвонаармейцы хутка падбеглі да шырокіх шчылінаў дувала і пачалі адстрэльвацца. Страляніна з боку мечэці ўзмацнялася. Кулі мякка падалі ў шчыльныя глінабітыя сцены дувала.

Трапляючы ў шчыліны і ў адкрытыя вароты прабівалі драўляныя падпоркі навеса, дзе стаялі коні.

Ля арбы хрыпеў цяжка паранены конь. Белоў, Шэпелеў выбеглі за вароты, за імі кінуліся да мечэці і астатнія.

Наперадзе пачуўся часты конскі тупат.

Высока над галовамі чырвонаармейцаў прасвісталі кулі. Гэта адступаўшыя стралялі ўжо з коней.

Потым усё сціхла. Вяртаючыся назад, чырвонаармейцы лаяліся, што не могуць на сваіх слабых конях кінуцца наўздагон за басмачамі.

Спаць больш не клаліся і сядзелі ў двары да раніцы. Белоў перавязваў у кібітцы лёгка параненага ў плячо Якуба-Гельды.

Хангільдзін стаяў за варотамі вартавым. На світанні прыбег малодшы брат Якуба-Гельды—Ібрагім і расказваў, што налятала банда Дурды-Клыча і, мабыць, не чакаючы такога адпору, хутка знікла ў пясках у кірунку да граніцы.

Басмачы перад нападам на чырвонаармейцаў доўга шукалі Якуба-Гельды.

Сам-жа Ібрагім схаваўся на могілках і прасядзеў там усю ноч.

## V

Раніцай Шэпелеў зайшоў да старшыні аулсовета і разам з ім і панятымі ад дэхкан накіраваўся да Бек-Назара. Бек-Назара не было дома.

Шэпелеў парашыў чакаць яго ля варот і, сеўшы на груду бярвенняў, нервова курыў папяросу за папяросай.

Вяртаючыся, Бек-Назар здалёку заўважыў каля сваіх варот групу людзей і сярод іх шэрую палатняную сарочку Шэпелева.

Падышоўшы да варот, Бек-Назар павольна прывітаўся з старшынёй аулсовета і Шэпелевым.

Старшыня совета Ніяз загаварыў пра сёнешні налёт басмачоў.

Бек-Назар слухаў моўчкі, як-бы чакаючы, ці не скажа субяседнік яшчэ чаго-небудзь. Калі-ж пераканаўся, што Ніязу няма чаго больш дадаць, Бек-Назар звярнуўся да Шэпелева.

— Дурны чалавек гэты Дурды-Клыч і яго людзі, думаюць, што напалохаюць нас сваім нападам.

Шэпелеў нічога не адказаў і нецярпліва рысаваў тонкім чаротавым кіем на пульхным дарожным пяску.

Потым рашуча павярнуўся да Ніяза:

— Ну, хопіць, старшыня, пагаварылі і годзе. Хлебанарыхтоўку Бек-Назар адмовіўся выконваць—кажа, хлеба няма. Пойдзем у двары паглядзім.

Пайшлі ў двор. Бек-Назар з падкрэсленай гатоўнасцю, адкрываючы дзверы кібітак, вёў на стайню. Але калі Шэпелеў спыніўся у кутку двара, дзе была навалена вялікая куча гною, Бек-Назар збялеў, вочы ягоныя злосна і настарожана сачылі за кожным рухам Шэпелева.

Шэпелеў хутка раскідаў кучу гною. Пад ёй ляжалі дошкі, прыкрываючы глыбокую яму.

Зняўшы дошкі, Шэпелеў скочыў у яму. Там было закапана пудоў чатырыста пшаніцы. Унізе яна ўжо згніла.

— Шэпелеў вылез з ямы і, паказваючы дэхканам жменю гнілых зернят, спытаў:

— Бачылі?

Панятыя, настарожана нахмурыўшыся, моўчкі ківалі галовамі.

Высокі, хударлявы Бек-Назар неміргаючымі вачыма глядзеў у яму і не адказваў на пытанні Ніяза і Шэпелева.

Шэпелеў падумаў:—„А упарты-ж ты вораг, Бек-Назар".

Старшыня совета Ніяз зрабіўся незвычайна сумятлівым, хапаў Бек-Назара за халат, крычаў на міліцыянера, заклікаў у двор усіх праходзіўшых міма. Потым пабег па аулу збіраць арбы, наглядаў за пагрузкай пшаніцы, якую даставалі з ямы.

Збожжа, якое не папсавалася, накіравалі на ссыпны пункт. Тое збожжа, якое пагніло, пакінулі ў яме і папалілі.

З ямы цэлы дзень курыўся едкі шызы дым.

## VI

Чырвонаармейцы ўжо збіраліся разыходзіцца па ўчастках, калі ў двор аульнага кааператыва павольна ўвайшла Бібі-Салтан і спынілася ля варот.

Хангільдзін прапанаваў ёй падыйсці бліжэй. Старая па-ранейшаму стаяла ля варот. Тады Белоў і Хангільдзін самі падышлі да яе. Хангільдзін спытаў, ці ведае Бібі-Салтан пра налёт басмачоў і ці чула яна, што ў Бек-Назара знайшлі шмат схаванага збожжа.

Бібі-Салтан адказала, што ведае. Потым парывіста схапіла Хангільдзіна за руку.

— Скажы яму, начальніку,—паказала яна на Белова,—скажы яму дапамагчы мне трэба. Не магу я сама працаваць. Унучка маленькая, нікога больш няма. Дапамажыце мне. Гэта Бек-Назар навучыў мяне вас прагнаць. Гаварыў, што ўвесь хлеб у тых, дзе працуюць чырвонаармейцы улада адбярэ да апошняга зерня. Я баялася голаду. Гаварыў Бек-Назар, што ўсе рускія маняць, што вы такія самыя, як і тыя, што прышлі і забілі майго бацьку, калі я была яшчэ маленькай.

Не паспеў Хангільдзін растлумачыць Белову, што гаварыла Бібі-Салтан, як старая выцягнула з хусткі дзве вялікіх ляпёшкі і працягнула іх Белову. Белоў асцярожна адвёў у бок яе руку.

— Не трэба, Бібі-Салтан, мы і так прыдзем. Не трэба.

Старая як і раней працягвала яму ляпёшкі, упрошваючы Хангільдзіна прыняць падарунак. Хангільдзін сказаў Белову.

— Трэба ўзяць, Коля. Крыўдзіцца будзе старая. Селяц * гэта.

Белоў узяў ляпёшкі і, уважліва паглядзеўшы на маршчыністы, як

* Селяц—падарунак.

высушаная дыня, твар Бібі-Салтан, на яе рэдкія, сівыя ад старасці валасы, падумаў:

— Колькі-ж гора знёс гэты чалавек за сваё жыццё.

Павесялеўшая, здаволеная Бібі-Салтан шпаркімі крокамі пайшла дахаты.

## VII

Камандзір Акцюбінскага кавалерыйскага палка Волкаў вярнуўся пасля праверкі коннай падрыхтоўкі першага эскадрона ў штаб. Волкаў, як і заўсёды, доўга хадзіў па сваім прасторным габінеце, абдумваючы вынікі сёнешніх назіранняў.

— Нарэшце Гаруноў дабіўся роўнамернасці ў падрыхтоўцы ўзводаў. Добры дружны ў яго эскадрон.

Дарэмна вось толькі спяшаецца ён з перамаганнем перашкод, а коней як след не падрыхтаваў, разліку ў коней у часе прыжка няма. Другія эскадроны трэба будзе абавязкова папярэдзіць.

Волкаў падышоў да шырокага пісьмовага стала, сеў і накінуў кароткія заметкі для загада.

Начальнік штаба палка Кузняцоў прынёс для даклада зводку рэзультатаў апошняй стральбы эскадронаў.

Волкаў узяў зводку і адпусціў Кузняцова. Уважліва параўноўваючы вынікі стральбы палкавой школы з эскадронамі, Волкаў з прыкрасцю глядзеў на табліцу другога эскадрона.

— Зноў дрэнна. У крыві гэта ў яго павінна быць,—падумаў Волкаў пра камандзіра другога эскадрона Казлоўскага.

Парашыў выклікаць для растлумачэння. На лістку адкіднога настольнага календара запісаў:

— 16—00—выклікаць Казлоўскага.

Раней на гэтым лісце ўжо было напісана:

— Ліст камдыву аб ходзе падрыхтоўкі за месяц.

— З 13 да 15 праверыць фізпадрыхтоўку палкавой школы.

— У 19 гадзін паседжанне прэзідыума горсовета.

У дзверы негалосна, але патрабавальна пастукалі.

— Заходзьце!—крыкнуў Волкаў.

У чорнай высокай бараняй кучомцы ўвайшоў стройны Якуб-Гельды.

— Можна, таварыш камандзір, да цябе.

— Уваходзь, уваходзь Якуб. Што скажаш, старшыня аульнага совета? Што чутно новага ў тваім Вякілі?

— Зараз, таварыш камандзір, зараз, дай палумаць. Да Паўлава заходзіў. Няма, гавораць. У партком пайшоў. Думаў як быць? Да цябе пайшоў. Паслухаеш? Я ведаю—камандзіру палка справы многа, пра ўсё клапаціцца трэба. Ведаю, але ты шмат у чым можаш дапамагчы.

— Валі, кажы, падшэфны. Ды ты сядай.

Якуб сеў.

— Вялікія справы, таварыш Волкаў. Вельмі вялікія. Дапамажы нам, сам дапамажы, полк таксама.

— Ну, якая-ж усё-ж такі справа, Якуб? Аул-жа не прымусіш пераносіць.

— Нашто аул пераносіць. На добрым месцы стаіць. Большая ёсць справа, калгас арганізаваць трэба. Разумееш, калгас бавоўняны. Егіпецкую бавоўну сеяць будзем. Сонца ў нас многа, вада ёсць. Сонца многа, але і справы многа, арыкі трэба вычысціць, траву ўсю ўбраць з палёў, каб саранчы не было чаго есці, калі прыляціць да нас. Многа работы, Волкаў. Людзей дай, памочнікаў.

Волкаў пастукаў алоўкам па стале, а потым чыркануў на тым самым календарным лістку, дзе было запісана пра Казлоўскага:

— Паўлаву. Вякіль-Базар. Калгас.

— Дапаможам, Якуб. Абавязкова дапаможам. Толькі вось што, ты злаві Паўлава і пагавары з ім практычна пра ўсё. Скажы яму, што я цябе падтрымліваю. Добра?

Якуб-Гельды парывіста падняўся і моцна абодвыма рукамі паціснуў шырокую валасатую руку Волкава.

— Дзякуй. Я ведаў, што ты такі. Ведаў. Дзякуй,—і вышаў з габінета.

Калі вярнуўся Паўлаў, памочнік камандзіра палка па палітычнай часці, Волкаў расказаў яму пра сваю гутарку з Якуб-Гельды.

— Каго-ж пашлем? Ужо вельмі сур'ёзную справу заводзіць ён там з гэтым егіпцянінам,—заўважыў Волкаў.

— Так, трэба будзе групу пасылаць, Пётр Ільіч, а вось старшым каго?

— Ты ў мінулым годзе каго пасылаў, Сяргей Александравіч?

— Белова, сакратара ячэйкі першага эскадрона. Яго хіба і цяпер паслаць, Пётр Ільіч? Як думаеш?

— Згодзен. Хлапца туды трэба даваць з аганьком. Белоў чалавек разумны, ды і ведаюць яго там добра; а для такой работы гэта вельмі важна.

Вечарам Паўлаў выклікаў Белова, Хангільдзіна і яшчэ некалькі чалавек, расказаў ім пра просьбу Якуба-Гельды і рашэнні камандавання.

Раніцай чырвонаармейцы выехалі ў Вякіль-Базар.

## VIII

Ад горада да Вякіль-Базара ўвесь час ішлі крокам. Коні часта пафырквалі, прачышчаючы ноздры ад надакучлівага дарожнага пылу. Пісклява скрыпела кола парнай павозкі, на якой ляжала зерне і чырвонаармейскія рэчы... Бурная напорыстая вясна была ў гэтым годзе. Яна не падкрадалася ціхімі труслівымі крокамі, а мёртвай хваткай змяла, скруціла зіму, якая спрабавала супраціўляцца.

Адыходзіўшая зіма ў бяссільнай злосці яшчэ раз накінулася на зямлю і пасыпала яе рэдзенькім снежным войлакам. Але снег праляжаў толькі тры дні і ў хвіліны быў змыты вясеннім дажджом. Дажджы ішлі частыя, сільныя.

Хутка набухала тлустая глеба. З шумным клёкатам, нібы кроў з глыбокай раны, перакочвалася вада праз запруды ў галовах ары-

коў, ламала, рвала гэтыя запруды, настойліва патрабуючы выхаду на палі.

Людзі днямі і начамі працавалі, умацоўваючы арыкі, не давалі вадзе раней часу растрачваць свае сілы.

Зямлёй, камнямі, палямі, фашынамі—усім, што толькі было пад рукой, загараджвалі дарогу, любоўна стрымліваючы непакорную ваду.

Знесла вада смецце, усю нячыстоту, якая набіралася за зіму, і стаяла зямля гатовая, адпачыўшая.

Дажджы спыніліся і сонца па-маладому, па-вясенняму ахапіла вымытую, адноўленую зямлю.

На змену старому амачу і кетменю лавінай ішлі ў аул плугі, бароны, культыватары, сеялкі.

У некаторых аулах, пафыркваючы, тарахцелі трактары. Глыбока сёлета ўзорвалася туркменская зямля. Ніколі яшчэ так не ўгрызаўся ў яе метал. Старыя нездаволена перашэпталіся, палохаючы сябе і другіх, што дрэнны будзе сёлета ўраджай—псуе жалеза туркменскую зямлю, бярэ ад зямлі самое жыццё, бяднее зямля.

Але плугі шырокімі палосамі працягвалі араць, пакідаючы за сабой яркі, бліскучы след.

Наступала на аул бурная вясна тысяча дзевяцьсот трыццатага года.

* *
*

Наперадзе паказаліся раскіданыя двары Вякіль-Базара.

Нібы толькі ўчора вярнуўся Белоў з аула, так жыва прыгадваў ён пасеўную кампанію ў мінулым годзе.

Прыгадваўся вар'яцкі плач Бібі-Салтан, яе ляпёшкі, Бек-Назар-Яма, з якой паўзе едкі дым. Двор кааператыва, дзе жыла чырвонаармейская брыгада. Налёт басмачоў, перавязка параненага Якуб-Гельды.

Учора Якуб-Гельды, калі даведаўся, што брыгадзірам зноў едзе Белоў, позна вечарам прышоў да яго ў эскадрон.

Яны доўга гаварылі. Якуб паказваў Белову спіс калгаснікаў. Пытаўся, што рабіць з зямлёй, коньмі, каровамі. Расказваў пра даўжыню валакна егіпецкай бавоўны, пра тое, колькі яна патрабуе вады і сонца.

Потым спытаў Белова:

— Як ты думаеш, Белоў, якую назву дадзім калгасу. Я хацеў-бы, каб назваць яго імем палка—акцюбінскі. Як думаеш, га?—Белоў рассмяяўся.

— Нічога, Якуб, як-небудзь прыдумаем.

Развіталіся, але Якуб зараз-жа вярнуўся.

— Забыўся. Вось галава якая дзіравая. Хацеў сказаць, але забыўся. Ведаеш што, Белоў! Мінулы год—выведка. Як у арміі—глыбокая выведка. А сёння ў наступленне пойдзем. Правільна? Вялікае наступленне. Не будзе больш крэпасцей у аулах. Жыць будзем дружна, не як ваўкі...

Цяпер, пад'язджаючы да аула, Белоў прыгадаў гэтую ўчорашнюю гутарку з Якуб Гельды, ягоараўнанне работы палкавых брыгад мінулага і гэтага года і падумаў:

— Добра сказаў Якуб пра наступленне. Правільна, ідзем у наступленне.

Чырвонаармейцы па мосце, які быў перакінуты праз Чэрмін-Яб, уваходзілі ў Вякіль-Базар.

## IX

Белоў і Хангільдзін зайшлі да Бібі-Салтан.

Хангільдзін спытаў старуху, ці пойдзе яна ў калгас. Бібі-Салтан адказала, што яна падала ўжо заяву.

Хангільдзін усміхнуўся. Бібі-Салтан пакрыўдзілася:

— Нельга смяяцца над старасцю. Я ўсё жыццё працавала, а была жабрачка. Цяпер хочу сытай быць. Ты малады, дужы, нашто смяешся? Прыдзе час, таксама сагнешся як і я. Дарма хлеб есці ў калгасе не буду, дзяцей буду даглядаць. Хутка скончыцца мая сцежка, але яна для мяне ясная. Зараз у мяне, арлёнак, вочы адкрытыя. Вось і ты і ён,—паказала яна на Белова, і Якуб-Гельды—зрабілі гэта, указалі мне добрую дарогу. Дзякуй. Вы іншыя рускія, зусім іншыя...

Бібі-Салтан мала і рэдка гаварыла ў сваім жыцці.

Яна больш слухала. Слухала бацьку, маці, братоў, мужа. Слухала і працавала. Так за работай і прайшло ўсё жыццё. Нават твар свайго мужа дрэнна памятае Бібі-Салтан. Памятае толькі суцэльную сетку глыбокіх зморшчын—баразёнак, узаратых пяском, сонцам і бядотай.

Не памятае Бібі-Салтан і твараў сваіх памёршых дзяцей. Нікога з іх ужо не засталося. Жыве з Бібі-Салтан толькі сірата-унучка. Але вось што захавалася ў памяці на ўсё жыццё.

Памятае яна Геок-Тэпе, дзе дзіцём жыла з бацькам і маткай. Памятае, як грымела артылерыя, стукалі далёка чутныя ў пясках частыя ружэйныя стрэлы. Памятае белыя сарочкі рускіх салдат. Бачыла Бібі-Салтан, як збіраліся ў налёт джыгіты-іомуды і якая была радасць, калі ўдалося адбіць першы напад рускіх на Геок-Тэпе. Але да наступаючых падышлі новыя войскі. Іх прывёў, як гаварылі мужчыны, нейкі белы генерал. Рускія ўзарвалі частку крэпасной сцяны і ўварваліся ў горад. Нямногім, у тым ліку і сям'і Бібі-Салтан, удалося бегчы. Астатніх захапілі, і ніхто не ведае аб іхным лёсе. Бацька прывёў сям'ю да Байрам-Алі. Пасялілася сям'я там, дзе былі навалены абломкі даўняй крэпасці Абдула-Хана. Кібітку бацька зрабіць не паспеў. Некалькі гадоў жылі ў будзе. На драўляныя калы была нацягнута старая, падраная кашма. Расказваў бацька, што тут калісьці шмат год таму назад была квітнеючая краіна Маргіана. Сталіца яе была самым вялікім горадам на зямлі і слава яе была большая за славу далёкай таямнічай Хівы. Бібі-Салтан бачыла толькі груды засохлай гліны, бязводныя арыкі і руіны крэпасных сцен, вежаў.

Прайшло нямнога гадоў.

Раптам разнесліся чуткі, што і сюды падыходзяць рускія. Быў сонечны яркі дзень. Бібі-Салтан з іншымі хлапчукамі лавіла ў двары даўнейшай крэпасці скарпіонаў і яшчарак. Раптам нехта крыкнуў, што па дарозе едуць чужыя людзі.

Убачыўшы знаёмыя белыя сарочкі, Бібі-Салтан схавалася ў сухім арыку і прасядзела там да ночы. Калі-ж ціханька вярнулася дахаты, бацькі ўжо не было, больш ён не прышоў. На наступны дзень яна хадзіла з маткаю да напоўразбуранай крэпасной сцяны.

Ля сцяны ляжала шмат трупаў. Іх бязлітасна паліла гарачае сонца, дзяўблі вароны і ірвалі галодныя, бяздомныя сабакі.

Далёка разносіўся цяжкі пах гніючага мяса. Салдаты ахоўвалі забітых, нікому не дазваляючы іх хаваць. Толькі праз некалькі дзён маці з братам уначы скралі труп бацькі і ўначы-ж закапвалі яго далёка ад прыстанішча ў пясках.

Ці-ж магла ведаць Бібі-Салтан, што ва ўсіх афіцыяльных дакументах пісалася, што Мервскі оазіс дабраахвотна, па волі самога насельніцтва, далучыўся ў 1884 годзе да вялікай імперыі Ак-Падзішаха, і ўвайшоў у Закаспійскую вобласць Туркестанскага генерал-губернатарства.

Калі Бібі-Салтан прадалі замуж, узяў яе аднойчы муж на кірмаш у Мерв. Яны праязджалі міма новага прасторнага дома. З амбразураў каменнай агарожы выглядалі чыгунныя пушкі. Муж сказаў Бібі-Салтан, што тут жыве вялікі рускі начальнік. З брамы выехаў паджылы чалавек у белым кіцелі. Яго суправаджалі салдаты ў белых сарочках з сінімі наплечнікамі. Прыгадала Бібі-Салтан Геок-Тэпе, прыгадала труп бацькі ля крэпасной вежы і адразу знікла ўся цікавасць да кірмаша.

Сядзела яна на арбе, нецярпліва чакаючы калі-ж вернецца муж і павязе яе назад дамоў.

## X

Разгляд заявы Ата-Мурадава на калгасным сходзе зацягваўся, але вось да стала прэзідыума падышла Бібі-Салтан. Усе змоўклі ад нечаканасці—Бібі-Салтан хоча гаварыць.

— Навошта?—ціха пачала Бібі-Салтан,—навошта сумняваецеся. Каму служыў Ата-Мурадаў? Забыліся, а я памятаю. Цару служыў, джыгітам у начальніка ў Мерве быў, Бек-Назару дапамагаў, гэта-ж ён гаварыў дэкханам, каб бавоўну не сеялі. Ён, Ата Мурадаў.

Дрыжучыя рукі Бібі Салтан нервова чапляліся за край стала.

— Паглядзі, Якуб-Гельды,—паказвала яна на Ата-Мурадава,—які ён падраны халат сёння апрануў. Навошта ён нас абдурвае, хіба ў яго няма ў куфры пакрадзеных у дэкхан халатаў?

— А вы,—звярнулася Бібі-Салтан да Белова і Хангільдзіна,—вы іншыя, новыя рускія, няўжо вы дазволіце Ата Мурадаву разбурыць вашую справу? Прыдзе ў калгас Ата-Мурадаў і будзе бавоўна ў нас на палях не белая, а чорная, як душа Ата-Мурадава.

Голас Бібі-Салтан перайшоў ў надрыўны крык:

— Не трэба, не трэба нам Ата-Мурадава!—І яна заплакала.

Заяву Ата-Мурадава на галасаванне не ставілі.

*Цім. Алексеенка*

## ДАЧКА

На падаконніку
Кошка
Спіць
Ї мурлыкае горда.
Чые-ж гэта
Прыткія ножкі
Скокнулі з-пад коўдры.
На пальчыках лёгка
Праз спальню
Затопалі
Да ўмывальні,

Вада праавінела
Пад кранам:
— Так рана,
Так рана,
Так рана.—
Ї сціхла.
За нізенькі столік
Ціха прысеў хтось
З краю.
—Ах, гэта наша Оля
новую кніжку
чытае!

На падаконніку
кошка
Спрытна ўмываецца
Лапкай.
Восень зару палошча
Ї сонца нясе
ў ахапку.

*А. Петроў*

# МЯДЗВЕДЗЬ

Гэта здарылася даўно,—гадоў трыццаць таму назад. Я вандраваў па Ікуры—малавядомай балоцістай рэчцы, якая зліваецца з Біра̂й—прытокам Амура.

Рэчка змейкай выкручвалася сярод густых лясоў і рэлак, г. зн. астраўкоў, якія былі абкружаны бяздоннымі топкімі балотамі са здраднiцка-зялёнай травой. Яна то бясследна расплывалася ў камышах, нібы жадаючы спыніць сваё беднае існаванне, то ізноў збірала ваду ў русло і павольна, з цяжкасцю пракладала шлях сярод плаваўшых раслін.

Навокал, на сотні кілометраў, не было ніводнага паселішча, ніводнага паляўнічага шалаша. Я зрэдку сустракаў мядзведзяў, аленяў, коз, але ні разу не сустрэў чалавека: быў жнівень месяц—разгар летняга мусона, калі дажджы і „гнус“ * могуць вывесці з цярплівасці нават самага заядлага таежніка, а на зверу (як гавораць паляўнічыя) няма ні мяса, ні меха.

Аднойчы я затабарыў на беразе Ікуры. Над абрывам зелянеўся паплавок, з трох бакоў абкружаны сцяной арэшніка, а за арэшнікам пачынаўся стары лісцвены лес—сыры і хмурны, з барадатымі лішайнікамі на галінах. Лепшага месца для бівака нельга было і знайсці: кучы алешніка, вада, трава для пасцелі,— усё было і пад рукою ў дастатку. Парывісты вецер адганяў „гнус“ і дазваляў абыйсціся без апрацівеўшага дымакура. Рэшткі старых вогнішчаў гаварылі пра тое, што на лужайцы не адзін раз начавалі паляўнічыя, хутчэй, за ўсё з „чалдонаў“. **

Я прыцягнуў з лесу кучу сушняку і распаліў вогнішча. Летам не трэба сеч для вогнішча дрэвы, але галлё трэба браць з выбарам, унікаючы хвойных парод: ад іх, пры гарэнні, адскакваюць вугольчыкі, якія могуць прапаліць адзежу.

Покуль сушняк гарэў, я прынёс у кацялках ваду і разап'яў „камарнік“—нізенькую палатку з двайной бязі, падобную на дамавіну. „Камарнік“ расцягваецца паміж двума дрэвамі або каламі, у душныя ночы ў ім можна зусім распрануцца не баючыся крылатых крывапійцаў.

---

* Мошкі, авадні і камары.

** Чалдонамі называлі ссыльных-пасяленцаў, якія адбылі катаржныя работы.

Гадзіны праз дзве падаспела вячэра. Апрача рысавай кашы і гарбаты з сухарамі, яна складалася з маладой, тлустай качкі, якую я, як умеў, падсмажыў на трыножніку. Ці трэба гаварыць, з якім апетытам накінуўся я на ежу! Калі папрацуеш цэлы дзень вяслом, не заўважаеш, што каша крыху прыдымлена, а ў качкі абгарэў бок, а ясі так, што трашчыць за вушамі.

Хутка наступіў вечар, ціхі, ясны, які абяцаў зорную ноч. Я напхаў люльку і, пакурваючы, глядзеў на балота, што раскінулася за рэчкай. Там важна плылі пышнахвостыя японскія журавы і шпарка, зігзагамі, праносіліся кроншнэпы. З дальняй ролкі даносіўся гоман чапляў, якія кармілі сваіх птушанят. У залаціста-ружовай дымцы балота пахарашэла, ажывілася і нагадвала цудоўны луг, па якому—навокал бліскучых вазёраў—разбягаліся, скрыжоўваючыся і выпераджаючы адна адну, каляровыя хвалі зеляніны. Нават зарасні каравых вольхаў на дрыгве ператвараліся ў сады, разбітыя майстрам сваёй справы.

Пакрысе балота зацягнулася туманам. Над галавой пачалі запальвацца зоры. Недзе ў камышах, ля затона, працягла загула выпь. Ей з ракі адказала другая. Зрабілася халаднавата і сыра, як у яме.

Уначы тайга не спіць: па лясах і балотах, у пошуках стравы бегаюць звяры, у паветры з шолахам крылляў носяцца кажаны, совы, філіны... Над вадой залатымі іскрамі ўспыхваюць светлякі: яны то заводзяць вясёлыя карагоды, то, нібы спалоханыя нечым, рассыпаюцца сярод камыша і гасяць свае ліхтарыкі. Як цікава назіраць іхную гульню! Але яшчэ больш цікава разбірацца ў лясных гуках. Сядзіш, бывае, ля вогнішча і чуеш—у глыбіні леса, то тут, то там, прабіраецца звер. Трэсь-трэсь... Трэсь-трэсь... Хто гэта? Каза? Алень? Не, сахаты (лось), гэта ён крочыць так шырока і ўпэўнена,—да якога-небудзь затона з кволымі вадзянымі раслінамі. Гучны ўсплеск вады, раз, другі... Гэта лінок, ці сазан ратуецца ад выдры. А хто там завыў на павароце ракі? Напэўна воўк; ён убачыў вогнішча і не змог стрымаць пачуцця трывогі і гнева да двуногага чужака, які асмеліўся ўвайсці ў звярынае царства. Ён мае рацыю па свойму, гэты таежны жыхар, але—шкада!—сіла не на яго баку; яму застаецца ўцякаць далей, саступіўшы месца чалавеку. Дальні шум у лесе... Трэск... Нехта бесцырымонна ломіцца праз кусты. Вяпрук ці мядзведзь? Вядома, мядзведзь,—„гаспадар“ як яго называюць паляўнічыя. Ён за кілометр чуцен,—ідзе—памалу, зусім не клапоцячыся пра цішыню, ломіць сушняк, выварочвае гнілыя карчы (шукае слізнякоў і ўлітак), мармыча сам сабе, пакрэхтвае,—ні даць ні ўзяць,—гаспадар ва ўласнай хаце. Але раптам адчуе мядзведзь дым вогнішча. Спыніцца, як укопаны, шэрсць на спіне падымаецца дыбам. Ух! Ух!—і бягом у кусты, ад граха далей.

Я доўга прыслухоўваўся да начных гукаў. Нарэшце стомленасць узяла сваё. Я дапіў рэшту гарбаты і ўзняўся, каб забрацца ў „камарнік.“ У гэтую хвіліну я пачуў дзесьці здалёк шум. Нейкі вялікі звер прабіраўся ў зараснях тальніка.

„Ізюбр (алень)“,—падумаў я. „Не, здаецца, вяпрук“...

Шум спыніўся, але хутка пачуўся з новай сілай.

„Мішка",—парашыў я, прыслухоўваючыся.

Трах! Трах! Трэсь... Тра-та-тах!

Вядома, толькі мядзведзь можа адчуваць сябе так незалежна. Ён прабіраўся проста праз тальнік, рассоўваючы яго магутнымі плячмі.

„Зараз спыніцца і зараве",—падумаў я і ўсміхнуўся, уявіўшы сабе, якую морду робіць мядзведзь, калі яго ноздры пачуюць дым.

Але мядзведзь не спыняўся. Ён пералез праз раўчук (мне здалося, што ён зваліўся ў яго,—так моцна ўспляснула вада) і цяпер брыў па краі абрыва, у гушчы арэшнікаў, накіроўваючыся да паплаўца.

Я падкінуў ў агонь сушняку. Полымя сціхла, але праз хвіліну пабегла па галінках і злосна ўзнялося высока ў паветра.

Шум у кустах спыніўся.

„Ага!" зларадна падумаў я. „Цяпер ты уцячэш, галубчык".

Я памыліўся. Пасля кароткага перарыву мядзведзь працягваў свае падарожжа. Ён рухаўся больш энергічна, чым раней, нібы хацеў як мага хутчэй выбрацца з кустоў.

Што гэта магло значыць? Я прыгадаў апавяданні тунгусаў пра вар'ятаў—мядзведзяў, якія нападаюць на людзей ля вогнішча. Праўду сказаць, я лічыў гэтыя расказы выдумкамі.

Трэба было падумаць пра самаабарону. Я ўзяў вінтоўку і праверыўшы затвор, стаў спіною да вогнішча і тварам да арэшніка, праз які прабіраўся мядзведзь. Прызнаюся, ад хвалявання ў мяне моцна закалацілася сэрца: сустрэчы з мядзведзем заўсёды разыкоўныя, асабліва ўначы, ды яшчэ ў жніўні, калі самцы грызуцца з-за самак і страшэнна злосныя.

Шум і трэск набліжаліся. Вось захісталіся верхавінкі задніх кустоў. Спалоханая пічужка з піскам праляцела над вогнішчам.

Як на зло, полымя зменшылася. Кусты і дрэвы зліліся у цёмную, дрыжучую масу, у якой я з цяжкасцю адрозніваў бліжэйшыя галіны. Але падкінуць „гаручага" не было часу: кусты з шумам рассунуліся і паміж імі з'явіўся мядзведзь. Я меркаваў убачыць яго на чатырох нагах і загадзя вырашыў стрэльнуць у галаву, паміж вачэй. Але звер стаяў на задніх лапах. Яго мех зліваўся з лісцем арэшніка і абрысы ўвесь час мяняліся ад капрызнай гульні святла.

У сэрца! Правей... Вышэй... Звер знаходзіўся ў дзесяці—дванаццаці кроках. Прамахнуцца было цяжка...

Палец датыркнуўся да спуска. У гэты момант агонь знайшоў сухую галінку і ярка асвятліў кусты. Я зірнуў на мядзведзя і... уздрыгануўся: у кустах стаяў чалавек!

Кроў адхлынула ад майго твару. Кусты, дрэвы, чалавек—усё віхрам замільгала перад вачмі. Я адчуў недахват паветра і такую слабасць у каленях, што пахіснуўся. Замест радасці, якую я павінен быў адчуць, мяне ахапіла жудасць. Забіць чалавека, забіць таму, што палічыў яго за звера, па вялікай памылцы... Ужо лепш вытрымаць схватку з мядзведзем!

Незнаёмы заварушыўся і вышаў з кустоў. Я інстынктыўна адсту-

піў да вогнішча. Вінтоўка хадуном хадзіла ў маіх руках. Я хацеў нешта сказаць, але ад хвалявання згубіў здольнасць гаварыць.

— Ты звар'яцеў!—вырвалася ў мяне нарэшце.—Უначы ідзеш да вогнішча... без папярэджання! Ды ці разумееш ты... Яшчэ секунда,—і ты ляжаў-бы мёртвым. Дурны! Дубіна! Ты першы раз у тайзе, ці што?

— Упершыню, браток,—адказаў незнаёмы. Яго голас ціхі і хваравіты—часткова вярнуў мяне ў ранейшы спакойны стан.

Каля вогнішча незнаёмы мехам апусціўся на зямлю.

— Дай глытнуць,—са стогнам сказаў ён.

Я дрыжучымі рукамі наліў яму вады. Пакуль мой госць піў, я паспеў разгледзіць яго. Перада мной сядзеў не чалавек, а шкілет, абцягнуты зморшчанай скурай, босы, у лахманах і без усякай зброі. Камары і мошкі страшна раз'елі яго цела,—кругом вачэй і губ былі відаць гнойныя раны. Ен разадраў скуру, калі прабіраўся праз кусты, і з бязлікіх балячак сачылася кроў. Яму можна было даць і дваццаць і пяцьдзесят гадоў, у залежнасці ад асвятлення.

— Дзякуй, зямляк,—сказаў ён напіўшыся.—А за тое, што растрывожыў цябе, выбачай, калі ласка.

Ён гаварыў словы з паузамі, нібы цяжкі хворы. Я прапанаваў яму паесці. Незнаёмы ўзяўся быў за кашу, але, праглытнуўшы лыжку, адсунуў кацялок.

— Не хочу,—з грымасай сказаў ён і стаў грэць над вуглямі худыя акрываўленыя рукі. Ад яго мокрай адзежы (ён сапраўды сарваўся ў раўчук) струменчыкамі падымалася пара.

У лесе пачуўся глухі шум,—напэўна ўпала сухая галінка. Незнаёмы здрыгануўся усім целам і спалохана павярнуўся да кустоў. Пераканаўшыся, што небяспекі няма, ён глянуў на мяне.

— Палахлівы я, ой палахлівы,—з прабачэннем сказаў ён. На яго губах мільганула жаласлівая, дзіцячая ўсмешка, ад якой яго хударлявы твар зрабіўся надзвычайна прыемным.

— Як ты трапіў у тайгу?—спытаў я.

Незнаёмы цяжка ўздыхнуў.

— Раскажу ўсё як ёсць,—адказаў ён сваім ціхім голасам.— Хочаш—арыштуй, не хочаш,—не арыштоўвай, твая воля. Усё адно прападаць.

— Я не паліцэйскі,—адказаў я.

Праз гадзіну я ўжо ведаў усю нескладаную гісторыю Нікіты Табункова (так звалі майго госця). Да дваццаці аднаго года ён батрачыў у багатага курскага памешчыка, а потым цягнуў салдацкую лямку,—у адным з усходне-сібірскіх стралковых палкоў. У страі Нікіта прабыў нядоўга: яго ўзяў дзеншчыком ротны камандзір, капітан Лешчынскі, чалавек не злосны, але які быў у хатніх справах пад абцасам у жонкі, якую за буйны нораў называлі ў палку „Д'ябаліхай". Гэтая мегера біла дзецей, біла дзеншчыкоў, якія змяняліся кожныя два-тры месяцы, наладжвала мужу брыдкія сцэны, адным словам паводле асцярожнай характарыстыкі Нікіты, была дамай „характарнай".

— Не паверыш, дружок, да чаго даходзіла,—расказваў Нікіта— Стаіш, бывала, пасярод кухні на выцяжку, як па статуту патра-

буецца, а яе высокаблагароддзе цябе кулакамі па мордзе лупцуе. Паб'е, вылае, а потым прымусіць пуд крупы па зернятку пера-браць або з мэблі клапоў выкалупваць. Напрацуешся да смерці, спіну разагнуць не можаш. Жыццё ператварылася у катаргу. Нікіта працаваў з рання да ночы,—мыў бялізну, мыў падлогу, варыў, даглядаў дзяцей, карміў курэй і сабак, бег у палкавую краму па піва, адным словам рабіў усё, што патрабавалася „па дзеншчыцкаму палажэнню“. Але дагадзіць самадурцы было немагчыма.

Маладушны хлопец стаў падумваць пра пятлю.

— Цярпення не хапіла,—тлумачыў ён, разводзячы рукамі.—Хоць ты і салдат, а усё-ж чалавек. Прасіўся я назад, у строй, ды яго высокаблагароддзе не пусціў. Што тут рабіць? Плакаў я браток, па начах,—вось як горка было.

Аднойчы Нікіта заснуў і выпусціў цеста для імяніннага пірага. Афіцэрша падняла шум і крык.

— Саскочыў я з ложку, а яе высокаблагароддзе мяне чапялой па ілбе. Мне аж пацямнела у ваччу! Другім разам, можа сцярпеў-бы, а тады мне са сна, ці што ў галаву ўдарыла,—размахнуўся я і яе высокаблагароддзе кулаком у зубы—раз! Так яна на падлогу і паваліласяя. А я як быў у адной гімнасцёрцы, босы,—уцёк з хаты...

Два дні Нікіта хаваўся ў ускраінах горада, а потым, з дапамогай матроса („задушэўнага чалавека“) прабраўся на параход, які накіроўваўся ў Срэценск.

— Куды ехаў, нашто,—сам не ведаў. Месцы незнаёмыя, людзі чужыя... Сяджу на параходзе, гарую: „Што са мною будзе? Рана ці позна,—усё роўна зловяць“...

У Екацерына-Нікольскай Нікіту арыштавалі, але ён уцёк у тайгу, і, вядома, зблудзіў. Тыдні тры ён блукаў па лясах і балотах, харчаваўся зелянінай, покуль выпадкова не ўбачыў маё вогнішча.

— Напэўна мне тут памерці давядзецца,—сказаў ён, скончыўшы сваю гутарку.—Будзь сябрам, напішы пра мяне ў вёску. Жонка там, дзяцей трое...

— Глупства,—супярэчыў я.—Адпачнеш, паправішся.

Нікіта паківаў галавой.

— Не, землячок. Вось дзе „яна“ сядзіць (ён прыціснуў рукамі да грудзей). Прытоіцца каля сэрца, як не жывая, а потым як ускінецца! Абхопіць сэрца, сціснe, у вачах цёмна, цёмна зробіцца, уздыхнуць нельга. Сюды дайсці-дайшоў, а назад „яна“ не пусціць.

Каб заспакоіць Нікіту, я запісаў яго вясковы адрас. Ён павесялеў і не без гумара пачаў расказваць пра сустрэчы з жывёламі, назвы якіх ён не заўсёды ведаў.

— Мяне аднойчы ледзь мядзведзь не з'еў,—сказаў ён са сваёй дзіцячай усмешкай.—Ішоў я па балоце,—справа была пад вечар. Іду, пад ногі гляжу. Толькі як затрашчыць у бярэзнічку! Гляджу я—мядзведзь стаіць. Вялікі, вялікі, шэрсць бурая, даўгая, як золата блішчыць. Стаіць пад дрэвам і на мяне глядзіць. Ой спалохаўся я! Ні то што вінтоўкі—нават ножычка пры сабе няма, абараніцца няма чым. Замахаў я на яго рукамі, а сам крычу:—не чапай мяне, бацюхна! Даруй, родненькі!

Я мімаволі засмяяўся.

— А мядзведзь што?

— Пачуў чалавечы голас, ды як зазлуецца, як ашчэрыцца! І так вялікім быў, а тут ледзь не з капу зрабіўся, раўнуў, а потым завярнуўся ў кусты і пайшоў.

— Шчасце твае,—заўважыў я.

— Відаць што шчасце... Пачаў быў Нікіта, але раптам схапіўся за грудзі. Яго твар выяўляў пакуту і вочы рабіліся велізарнымі.

— Вось „яна“, вось—шэптам сказаў ён, з жудасцю пазіраючы на мяне.

Я намацаў яго пульс. Ен біўся няроўна, з перабоямі. Нават мне, не доктару, было зразумела, што ў бедака нядобра з сэрцам,— трывога, надзвычайная стомленасць і галадоўка зрабілі сваю справу. Я параіў палажыць на сэрца халодны кампрэс, але Нікіта адмовіўся.

— Пройдзе,—праз зубы прамармытаў ён.

Сапраўды, прыпадак хутка скончыўся. Нікіта правёў далонню па спацеламу твару.

— Эх!—сказаў ён з вялікім сумам.—Прападаеш тут, у Сібіры праклятай, а ў нас, у Курскай губерніі, мужыкі відаць жыта скасілі, дзеўкі, маладзіцы песні пяюць, жаўранкі ў небе спяваюць. За што-ж гэта, божачка, за што?!

Апошнія словы плачам вырваліся з яго грудзей.

Я пачаў распытваць Нікіту пра вясковае жыццё. Ён і зноў ажывіўся і падрабязна расказаў пра сваю нерадасную батрацкую работу, у якую ўпрогся з трынаццаці гадоў, пра ўчынкі „старой лісы“—панскага прыказчыка Панцелея Ардаліоныча; пра скотніцу Феклушу, якая фактычна кіравала генеральскім маёнткам; нарэшце, пра сваю ўласную бедную гаспадарку, якая складалася з хаты, гародчыка і жывёліны: свінні з парасятамі, дзесятка курэй і сабакі Фімкі.

Калі Нікіта загаварыў пра жонку, ён увесь пераіначыўся.

— Жонка ў мяне герой,—сказаў ён, блішчучы запалымі вачмі.— Ці ў хаце, ці на полі—першая работніца. Другія бабы спяць, а яна яшчэ калі цёмна ўстане, на раку з бялізнай пабяжыць, падрыхтуе ўсё, як належыць. Агонь. Шыць — вышываць—майстар. Суседкі, бывала, вучыцца прыходзілі. А разумная! Ні ў якія справы не ўмешваецца, з усімі вясёлая, ласкавая. Дапамагчы калі суседзям трэба,—дапаможа, не адмовіць. Каб заздавацца на каго-небудзь ад беднасці, паскардзіцца—ніколі! Ёсць—добра, няма—абыйдзецца. А як запяюць маладзіцы, з пакоса ці з поля ідучы,—і тут яна наперадзе. Прахожыя дзівяцца:—чыя гэта такая, галасістая?—Табункова Нікіты жонка,—адказваюць. Вось як зямляк!

У тоне Нікіты гучэў стрыманы гонар. Ён узяў галінку і, усміхнуўшыся, кінуў яе ў агонь.

— Ды і я не з апошніх быў,—сказаў ён, памаўчаўшы.—Хваліцца не буду,—работа з рук не валілася. Бывала, у гарачую пару жніва, дзе-небудзь неўпраўка—Панцелей Ардаліоныч мяне ганіць:—Нікіта, бач, зробіць, ён такі.—Коні, збруя ў мяне—прыгажосць, калёсы ў каламажцы, заўсёды змазаныя, гайкі падвінчаныя,—не даем, не дап'ю, а ўжо зраблю, як належыць. Хоць не свае—чужое, ды

ад другіх адставаць не хацелася. Не курыў, віна не піў. Бацька ў мяне быў строгі, не любіў гэтага балаўства, і мяне, дзякуй яму, навучыў.

Нікіта засмяяўся.

— А з дзяўчатамі, пакуль жанаты не быў, гуляў,—весела сказаў ён.—Дзе дзяўчаты ды гулянкі там і я. І любілі-ж мяне дзяўчаты—у-ух! Прыду бывала, з гармонікам—і пойдзе дым каромыслам. Жарты, смех, прымаўкі... Ці скакаць, ці штукі смешныя выкідваць—першы на сяле майстар. Старыя глядзяць, смяюцца.—Бач ты, гавораць, верхавод!—Так мяне верхаводам і празвалі. Ну а як ажаніўся—канец!—на дзяўчат і глядзець пакінуў. Грамаце ў повара навучыўся, кніжкі пачаў чытаць. А тут лёс такі выпаў у салдаты ісці. Думаў, праз тры гады вярнуся, ды не тое вышла...

Твар Нікіты пакутліва зморшчыўся. Мне здалося, што ён вось-вось заплача.

Давай, брат, спаць,—сказаў я.—Раніца мудрэйшая за вечар.

Я прымусіў Нікіту легчы ў палатку, а сам прымайстраваўся каля вогнішча. Жаласлівасць да простага хлапца доўга не дазваляла мне заснуць.

„Што мне з ім рабіць?“ думаў я. „Пакінуць тут нельга, адвесці ў станіцу,—значыць аддаць яго на здзекі“...

Нарэшце я заснуў. У тайзе спіш моцна, але прачынаешся ад кожнага шолаху. Я чуў як Нікіта варочаўся з боку на бок і ўздыхаў. Адзін раз ён застагнаў і сказаў:—ой, божачка, ой!—Я хацеў спытацца, што з ім, але Нікіта змоўк.

Раніца выдалася халодная, туманная. Я распаліў вогнішча і, падышоўшы да „камарніка“, падняў коўдру. Нікіта ляжаў, утыркнуўшыся тварам у подсцілку. Ён не прачнуўся ,калі я паварушыў яго за плячо. Бядак паспеў замерзнуць: напэўна ён памёр задоўга да світання.

---

*М. Сямашка*

# ВЯСНОВЫЯ ВЕРШЫ

## РАНІЦАЙ

Толькі сонца выплыве з-за бору,
Змые плямы сонечнай зары,
Весела і жвава загавораць
На палях вясновых трактары.

Паплыве нястрымны, смелы рокат,
Як плывуць па моры караблі,
Па зямлі бяскрайняй і шырокай,
Па набраклай сокамі зямлі.

Па зямлі, якая ў спелы жнівень
(як дзяўчаты выйдуць жыта жаць)
Прынясе нам каласістай нівай
Ядраны, багаты ураджай.

Ураджай такі—не надзівіцца,
Што такога з роду не было,
Ядранае жыта і пшаніца,
Аж калоссе долу палягло.

Лён высокі, проста ажно ў пояс,
Валакном удалы, быццам шоўк,
Ячмянёў нязмеранае поле—
Грузных і вусатых каласоў.

Каб па ёй, зямлі нашай шырокай,
Славай да вышынь прабіўшы шлях,
Радаснай, магутнай і высокай
Песня непрапетая прайшла.

*М. Семашка.*

## НАДВЯЧОРКАМ

Надвячоркам з жывых далін,
ад крутых, буйнаводных рэк
прыплываюць вятры-караблі,
каб зямлю прасушыць, сагрэць.

Надвячоркам гракі крычаць
над такой маладой зямлёй,
і вясёлая песня дзяўчат
прылятае аднекуль здалёк.

Надвячоркам з-за дальніх гор
караванамі лёгкіх хмар,
як чаканы харошы госць,
гэткі цёплы плыве туман.

Пахкі водар тады устае,—
пахне сокам вясны ралля,
то на поўныя грудзі свае
поўнакроўная дыша зямля.

Красавік 1936 г.

*М. Горкі*

# ПРА ПУШКІНА

*Максім Горкі яшчэ ў 1907 годзе задумаў стварэнне „Гісторыі літаратуры для народу". Захаваўся чарнавы рукапіс гэтай няскончанай гісторыка-літаратурнай працы вялікага пісьменніка, у якой рад фрагментаў прысвечаны Пушкіну і яго творчасці. Мы публікуем гэтыя фрагменты сёння ўпершыню. Рукапіс рэдагаваў тав. С. Балухаты, які аднавіў рад цяжкіх для прачытання месц, а таксама пачатыя, але не скончаныя ці закрэсленыя сказы-думкі. У рукапісе амаль няма тэксту цытат з твораў Пушкіна, паказаны толькі тамы і старонкі выдання яго твораў; па гэтых указаннях адноўлены тэксты адпаведных цытат. Артыкул таксама друкуецца і ў бліжэйшым нумары часопісу „Литературная учеба", які аснаваў і рэдагаваў Максім Горкі.*

... Па неабходнасці я расказваю вам пра літаратуру ў тым-жа парадку, у якім напісаны нашымі гісторыкамі літаратуры кнігі пра яе, г. зн. спыняючыся на буйных іменах. Прыём гэты вы не павінны лічыць правільным,—ён малюе справу так, быццам-бы ўсе гэтыя Фон-Візіны, Жукоўскія, Пушкіны і іншыя велічыні рускай літаратуры выраслі раптоўна, з'яўляючыся нейкімі ўзгоркамі на гладкай роўнядзі. Гэты погляд непрымальны, ён пацвярджаў-бы пераувялічаную думку рамантыкаў пра сілы асобы і роль яе ў гісторыі. Не, вы павінны ведаць і помніць, што да Фон-Візіна прайшоў рад людзей, пачынаючы з А. Кантэміра, малдаваніна, які нарадзіўся ў 709 годзе і які пісаў яшчэ пры Пятру II, часткова адзначаных літаратурай, часткова-ж забытых ёю, што ўсе гэтыя людзі былі, так сказаць, паслядоўнымі ўзвышэннямі ў справе арганізацыі назапашанага гісторыяй вопыту, што Фон-Візін і Жукоўскі абагульнялі ўжо дадзенае ім папярэднікамі, прычым гэтыя абагульненні маглі быць і бессвядомымі, гэта значыць, маглі быць пачэрпнуты не з кніг, а з быту, які ўжо растварыў у сабе сабраны ў кнізе вопыт.

Асабістыя асаблівасці псіхікі кожнага буйнага паэта і пісьменніка гэтым указаннем не адмаўляюцца: яны ў наяўнасці перад намі ў кожным дадзеным выпадку: Пушкін шырэйшы, разумнейшы, таленавіцейшы за Жукоўскага,—ён таленавіцейшы іменна таму, што шырэйшы, ён разумнейшы і таленавіцейшы іменна таму, што насычаны большай колькасцю ведаў, ён майстар вершу, які пераўзышоў тэхніку сваіх папярэднікаў, ён такі іменна таму, што ў яго былі папярэднікі, адпрацаваўшыя тэхніку кожны на свой лад, а Пушкін мог і здолеў аб'яднаць у сабе ўсю яе навізну і гнуткасць.

Папярэднікі і сучаснікі Пушкіна — Жукоўскі, Неледзінскі-Мелецкі, Веневіцінаў, Каценін, В. Пушкін—яго дзядзька, кн. Вяземскі, кн. Одоеўскі і цэлы рад іншых паэтаў часта пісалі вершы па форме амаль роўныя вершам Пушкіна. Пушкін—майстар. Ён выдатна ведае сваю зброю, свой матэрыял. Ён валодае здольнасцю шырокіх абагульненняў. Онегін, як тып, толькі-што сфармаваўся ў 20-х гадах, але паэт адразу-ж угледзіў гэтую псіхіку, вывучыў яе, зразумеў і напісаў першы рускі рэалістычны раман,—раман, які апрача неўвядальнай яго прыгажосці мае для нас цану гістарычнага дакумента, больш дакладна і праўдзіва малюючага эпоху, чым да гэтага дня паказваюць яе дзесяткі тоўстых кніг.

Само сабой зразумела, што пакуль пролетарыят будуе сваю ідэалогію, ён павінен быць строгім рэалістам, які будуе свае абагульненні на фактах рэчаіснасці, а не выцягвае матэрыял ідэалогіі з душы з вопыту індывідуальнага, як гэта робяць рамантыкі-індывідуалісты.

Такім з'яўляецца пролетарыят ў сваіх збудаваннях,—ён—рэаліст, ён—чалавек суровай рэчаіснасці. Але, стоячы на глебе сваёй ідэалогіі, ён, з вышыні яе, бачыць усю сусветную гісторыю, як рад памылак і заблуджэнняў чалавецтва, якія вынікаюць з своекарыслівага імкнення таго класа, які, захапіўшы ў свае рукі ўладу эканамічную, неабходна павінен быў увесь вопыт чалавецтва, усе веды свету траціць на збудаванне палітычных і рэлігійных сістэм, што маюць мэтай не арганізацыю вопыту ў інтарэсах усяго чалавецтва, але толькі стварэнне ідэалогіі, якая апраўдвала-б эканамічную ўладу, карыслівую палітыку класа ўласнікаў.

* * *

Прагледзім гэтае палажэнне па прыкладзе Пушкіна.

Ён—дваранін, ён валодае забабонамі арыстакрата, які ганарыцца старажытнасцю свайго імя. Калі Булгарын, лакей ураду і даносчык, папракнуў Пушкіна ў тым, што продак яго са стараны маткі негр Ганібал, быў куплены Пятром у Галандыі за бутэльку гарэлкі, Пушкін адказаў:

Видок Фиглярин, сидя дома,
Решил, что дед мой Ганнибал
Был куплен за бутылку рома
И в руки шкиперу попал.
Сей шкипер был тот шкипер славный,
Кем наша двигнулась земля,
Кто придал мощно бег державный
Корме родного корабля.
Сей шкипер деду был доступен,
И сходно купленный арап
Возрос усерден, неподкупен,
Царю наперсник, а не раб.
И был отец он Ганнибала,
Пред кем, средь гибельных пучин,
Громада кораблей вспылала
И пал впервые Наварин.
Решил Фиглярин вдохновенный:
Я во дворянстве—мещанин.
Что ж он в семье своей почтенной?
Он?.. Он в Мещанской дворянин.

(Моя родословная или русский мещанин).

Тут гучыць нешта новае для таго часу—імення: гучыць упэўненасць чалавека ў яго праве „шанаваць самога сябе“ не толькі па заслугах продкаў, але за свае асабістыя заслугі перад грамадствам. Вельмі магчыма, што частыя спасылкі Пушкіна на сваё дваранства выклікаюцца наступнымі прычынамі:

1. У тую пару Александр, паступова аддаляючы ад сябе рускіх, замяняў іх немцамі—на чале дзяржавы станавіліся людзі з імёнамі Клейнміхель, Адлерберг, Бенкендорф і г. д. Паводле сведчання Якушкіна і іншых дзекабрыстаў—гэтая з'ява трывожыла дваран і злівалася з агульным апазіцыйным настроем моладзі. Успомніце: яны глядзелі на сябе, як на пераможцаў Еўропы, а іх ставілі пад каманду немцаў.

2. Не менш магчыма і тое, што асабіста Пушкін укладаў у разуменне дваранства пачуццё ўласнага гонару, усведамленне сваёй чалавечай каштоўнасці і ўнутранай свабоды.

Успомніце зноў-ткі, што Фон-Візін пакаяўся перад Екацерынай у дзёрзкасцях свайго пяра, што Радзішчаў адракаўся ад сваёй кнігі, Новікаў крывадушнічаў на допытах, а Пушкін заявіў цару ў твар, што 24 снежня ён Пушкін, стаў-бы ў рад з дзекабрыстамі. Але—паглядзім, як ён сам глядзіць на дваранства і навошта яно патрэбна яму:

Іншаземцы з нас дзівяцца; яны аддаюць нам поўную справядлівасць, не разумеючы, як гэта здарылася. Прычына ясная. У нас пісьменнікі ўзяты з вышэйшага класа грамадства. Арыстакратычны гонар зліваецца ў іх з аўтарскім самалюбствам; мы не хочам, каб нас апекавалі роўныя—вось чаго падлец Варанцоў не разумее. Ён уяўляе, што рускі паэт з'явіцца ў яго ў прыгожай з прысвячэннем ці з одаю, а той з'яўляецца з патрабаваннем на павагу, як шасцісотгадовы дваранін. Д'ябальская розніца!.. (Ліст А. А. Бестужаву, 1825 год).

Рылееў сказаў яму:

Ты зрабіўся арыстакратам; гэта мяне рассмяшыла. Ці табе выхваляцца пяцісотгадовым дваранствам? І тут бачу маленькае наследванне Байрану. Будзь, дзеля ўсяго святога, Пушкіным! Ты сам па сабе малайчына.

Мне прыкра,—адказвае Пушкін,— што Рылееў мяне не разумее. У чым справа? Што у нас не апякуюць літаратуру і гэта—дзякуй богу! Навошта-ж пра гэта гаварыць? Дарэмна! Абыякавасці ўраду і прыціску цэнзуры абавязаны мы духам нашай славеснасці. Чаго-ж табе больш? Зазірні ў часопісы на працягу шасці год, паглядзі, колькі разоў успаміналі мяне, колькі разоў мяне хвалілі з толкам і дарэмна, а пра нашага прыяцеля (Александра І)—ні гугу! Як быццам на свеце яго не было. Чаму гэта? ужо, напэўна, не ад гордасці ці радыкалізма пэўнага журналіста—не! а ўсякі ведае, што хоць ён раcподлым стань—ніхто яму дзякуй не скажа і не дасць пяці рублёў: дык лепш-жа дармова быць благародным чалавекам. Ты злуешся за тое, што я выхваляюся 600-гадовым дваранствам (NB. маё дваранства старэйшае!). Як-жа ты не бачыш, што дух нашай славеснасці часткова залежыць ад саслоўя пісьменнікаў? Мы не можам падносіць нашых твораў вяльможам, бо па свайму

нараджэнню лічым сябе роўнымі з імі. Адсюль гордасць (etc). Нельга рускіх пісьменнікаў судзіць як іншаземных. Там пішуць для грошай, а ў нас (апрача мяне) з-за ганарлівасці. Там вершамі жывуць, а ў нас гр. Хвастоў пражыўся на іх. Там ёсць няма чаго—дык пішы кнігу, а ў нас ёсць няма чаго—дык служы, ды не выдумляй. Мілы мой—ты паэт і я—паэт, але я мяркую больш празаічна, і амаль ад гэтага не праў. (Пісьмо да К. Ф. Рылеева, 1825 г.).

Гэта адносіцца да 25 года. Але ў заметках паэта за 25—30 гг. мы знаходзім такое прызнанне:

Але ад каго-б я ні паходзіў,—ад разначынцаў, што выйшлі ў дваране, ці ад аднаго з самых старажытных рускіх радоў, ад продкаў, імёны якіх сустракаюцца амаль на кожнай старонцы гісторыі нашай,—стан думак маіх ад гэтага ніякім-бы чынам не залежаў. Адмаўляцца ад яго я ані не збіраюся, хоць нідзе да гэтага часу я яго не знаходзіў, і нікому да гэтага справы няма. (Заметкі да „Бориса Годунова").

Да Пушкіна літаратура—свецкая забава, літаратар—у лепшым выпадку—прыдворны, як Дмітрыеў, Дзержавін, Жукоўскі ці добры чыноўнік—як Фон-Візін, Пнін, Рылееў. Калі ён прыдворны,—з ім лічацца, але покуль ён чыноўнік,—яго трэтыруюць як забаўніка, як блазна.

Пушкін—першы адчуў, што літаратура—нацыянальная справа першаступеннай важнасці, што яна вышэй за работу ў канцылярыях і службу ў палацы, ён першы падняў годнасць літаратара на вышыню, да яго недасягальную: у яго вачах паэт—выразнік усіх пачуццяў і дум народу, ён заклікаsuccinctны зразумець і паказаць усе з'явы жыцця.

У 1819 годзе, сябруючы з дзекабрыстамі, Пушкін піша на зварот Александра з-за граніцы:

Ура! в Россию скачет
Кочующий деспот.
Спаситель горько плачет,
А с ним и весь народ.
Мария в хлопотах Спасителя стращает:
„Не плачь, дитя, не плачь, сударь:
„Вот бука, бука—русский царь!"
Царь входит и вещает:
„Узнай, народ российский,
Что знает целый мир:
И прусский и австрийский
Я сшил себе мундир.
О, радуйся, народ: я сыт, здоров и тучен;
Меня газетчик прословлял;
Я ел, и пил, и обещал—
И делом не измучен.
Узнай еще в прибавку,
Что сделаю потом:
Лаврову дам отставку.
А Соца—в желтый дом;
Закон постановлю на место вам Горголи
И людям все права людей
По царской милости моей
Отдам из доброй воли".
От радости в постеле

Запрыгало дитя:
„Неужто не шутя?"
А мать ему: „Бай, бай! закрой свои ты глазки;
„Пора уснуть бы, наконец,
„Послушавши, как царь-отец
„Рассказывает сказки". (Сказки).

У 26 г. калі Нікалай вярнуў яго з ссылкі, ён гаворыць цару:

В надежде славы и добра
Гляжу вперед я без боязни:
Начало славных дней Петра
Мрачили мятежи и казни.
Но правдой он привлек сердца,
Но нравы укротил наукой,
И был от буйного стрельца
Пред ним отличен Долгорукой.
Самодержавною рукой
Он смело сеял просвещенье,
Не презирал страны родной,
Он знал ее предназначенье.
То академик, то герой,
То мореплаватель, то плотник,
Он всеоб'емлющей душой
На троне вечный был работник.
Семейным сходством будь же горд,
Во всем будь пращуру подобен:
Как он, неутомим и тверд,
И памятью, как он, незлобен. (Стансы).

А калі яго папракнулі ў ліслівасці за гэтыя вершы, ён адказвае:

Нет, я не льстец, когда царю
Хвалу свободную слагаю:
Я смело чувства выражаю,
Языком сердца говорю.
Его я просто полюбил:
Он бодро, честно правит нами,
Россию вдруг он оживил
Войной, надеждами, трудами.
О нет, хоть юность в нем кипит,
Но не жесток в нем дух державный:
Тому, кого карает явно,
Он втайне милости творит.
Текла в изгнанье жизнь моя,
Влачил я с милыми разлуку,
Но он мне царственную руку
Подал—и с вами снова я!
Во мне почтил он вдохновенье,
Освободил он мысль мою,
И я ль, в сердечном умиленье,
Ему хвалы не воспою?
Я льстец? Нет, братья, льстец лукав:
Он горе на царя накличет,
Он из его державных прав
Одну лишь милость ограничит.
Он скажет: презирай народ,
Гнети природы голос нежный!
Он скажет: просвещенья плод—
Разврат и некий дух мятежный!
Беда стране, где раб и льстец
Одни приближены к престолу,
А небом избранный певец
Молчит, потупя очи долу. (Друзьям).

У лістападзе 23 г. у Іспаніі быў пакараны смерцю рэволюцыянер Рыего Нуньен; паведамляючы пра гэта цару, граф Варанцоў сказаў: „Якая шчаслівая навіна, ваша вялікасць!" Пушкін неадкладна адгукнуўся:

Сказали раз царю,
что наконец
Мятежный вождь
Риэго был удавлен.
„Я очень рад",—сказал усердный льстец:
„От одного мерзавца мир избавлен!"
Все смолкнули, все потупили взор:
Всех удивил нежданный приговор.
Риэго был, конечно, очень грешен,—
Согласен я,—но он за то повешен;
Пристойно ли, скажите, сгоряча
Ругаться этак нам над жертвой палача?
Сам государь такого доброхотства
Не захотел своей улыбкой ободрить.
Льстецы, льстецы! Старайтесь сохранить
И в самой подлости оттенок благородства!

І заганьбаваў Варанцова такімі чатырма радкамі:

Полумилорд, полукупец,
Полумудрец, полуневежда,
Полуподлец,—но есть надежда,
Что будет полным, наконец.

І ў тым-жа самым 26 г., калі ён раіў Нікалаю

Во всем будь пращуру подобен

ён, прыгледзеўшыся да парадкаў новага царствавання, характарызуе яго так:

Встарь Голицын мудрость весил,
Гурьев грабил весь народ,
Аракчеев куралесил,
Царь же ездил на развод.
Ныне Ливен мудрость весит,
Царь же вешает народ,
Рыжий Мишка куралесит
И попрежнему развод.

А ў 27 г. пасылае ў Сібір сябрам радкі, поўныя надзеі:

Во глубине сибирских руд
Храните гордое терпенье!
Не пропадет ваш скорбный труд
И дум высокое стремленье.
Несчастью верная сестра—
Надежда в мрачном подземелье
Разбудит бодрость и веселье,
Придет желанная пора:
Любовь и мужество до вас
Дойдут сквозь мрачные затворы,
Как в ваши каторжные норы
Доходит мой свободный глас.
Оковы тяжкие падут,
Темницы рухнут—и свобода
Вас примет радостно у входа
И братья меч вам отдадут.
(В Сибирь).

Дзекабрысты вуснамі князя Одоеўскага адказалі яму:

Струн вещих пламенные звуки
До слуха нашего дошли!
К мечам рванулись наши руки,
Но лишь оковы обрели.
Но будь спокоен, бард: цепями,
своей судьбой гордимся мы,
И за затворами тюрьмы
В душе смеемся над царями.
Наш скорбный труд не пропадет:
Из искры возгорится пламя—
И православный наш народ
Сберется под святое знамя.
Мечи скуем мы из цепей
И вновь зажжем огонь свободы.
И с нею грянем на царей—
И радостно вздохнут народы.

Ён—дваранін, але, калі выйшла ў свет Гісторыя Карамзіна, Пушкін знішчальна адгукнуўся на яе сваім вершам:

На плаху истину влача,
Он доказал нам без пристрастья
Необходимость палача
И прелесть самовластья.

Ен піша:

В России нет закона,
В России—столб стоит,
К столбу закон прибит,
А на столбе—корона.

Трэба помніць, што за кожны з такіх вершаў у той час можна было атрымаць катаргу, высылку, астрог.

У адносінах да ўраду Пушкін вёў сябе зусім адкрыта: калі да двара дайшла яго ода „Вольность“, яго эпіграмы на міністраў і цара, і калі дазналіся, што ён паказваў у тэатры партрэт Лувеля, што забіў герцага Берыйскага, гр. Міларадавіч выклікаў яго да сябе, а ў кватэры загадаў зрабіць вобыск.

„Вобыск непатрэбен,—заявіў Пушкін,—я ўжо ўсё, што трэба было, спаліў“. І тут-жа напісаў напамяць усе свае супроцьурадавыя вершы. Толькі дзякуючы Карамзіну і іншым вяльможам гэта скончылася для Пушкіна высылкай з Пецербурга. Александр I меркаваў выслаць паэта ў Сібір ці на Салаўкі.

* * *

Цяпер разгледзім абвінавачванне Пушкіна ў пагарджальных адносінах да „чэрні“,—як вядома, на падставе гэтых адносін нашыя рэакцыянеры залічалі Пушкіна ў свае рады, а нашы радыкалы, накшталт Пісарава, адмаўлялі за паэтам усякае значэнне.

Перш за ўсё трэба ведаць, што пагарджальныя адносіны да „чэрні“ былі ўласцівы ўсім рамантыкам, пачынаючы з Байрана,— гэта быў адзін з лозунгаў літаратурнай школы. Прызнавалася, як вы ведаеце, што паэт—істота вышэйшага парадку, абсалютна вольная, якая стаіць па-над законамі чалавечымі—з гэтага пункту

гледжання, зразумела, і грамадства, і дзяржава, і народ рэзка адмаўляліся, як толькі яны прад'яўлялі да паэта якія-небудзь соцыяльныя патрабаванні. Нашы пісьменнікі дапушкінскай эпохі таксама былі заражаны гэтым поглядам; так, напрыклад, Дзержавін гаворыць:

Умей презреть и ты златую
Злословну, площадную чернь.

Ён-жа:

Умолкни чернь непросвещенна,
Слепые света мудрецы.

Ён-жа:

Прочь, буйна чернь непросвещенна
И презираемая мной.

Дзімітрыеў:

Будь равнодушен к осужденью
Толпы зоилов и глупцов.

Жукоўскі:

Не слушай вопли черни дикой.

Можна прывесці яшчэ дзесятак такіх выкрыкаў, але я наогул сумняваюся ў тым, што гэтыя выкрыкі тычацца народнага натоўпу, народу.

Прычыны сумнення наступныя: паэты да Пушкіна зусім не ведалі народу, не цікавіліся яго лёсам, рэдка пісалі пра яго. Гэта прыдворныя людзі, вяльможы, яны ўсё жыццё праводзілі ў сталіцы і нават свае вёскі наведвалі вельмі рэдка і на кароткі тэрмін. Калі-ж яны малявалі ў сваіх вершах мужыка, вёску, яны малявалі людзей пакорлівых, веруючых, паслухмяных пану, любячых яго, дабратліва прымаючых рабства, вясковае жыццё ўяўлялася ім, як суцэльнае свята як мірная паэзія працы. Пра Разіна, Пугачова не ўспаміналі, гэта не зліваласся з устаноўленымі ўяўленнямі пра мужыка. Пушкін таксама пачаў з рамантызма. Вось як ён вызначае сваю пазіцыю паэта:

Поэт, не дорожи любовию народной!
Восторженных похвал пройдет минутный шум,
Услышишь суд глупца и смех толпы холодной;
Но ты останься тверд, спокоен и угрюм.
Ты царь: живи один. Дорогою свободной
Иди, куда влечет тебя свободный ум,
Усовершенствуя плоды любимых дум,
Не требуя наград за подвиг благородный.
Они в самом тебе. Ты сам свой высший суд:
Всех строже оценить умеешь ты свой труд.
Ты им доволен ли, взыскательный художник?
Доволен? Так пускай толпа его бранит,
И плюет на алтарь, где твой огонь горит
И в детской резвости колеблет твой треножник.
(Поэту).

Не дорого ценю я громкие права,
От коих не одна кружится голова.
Я не ропщу о том, что отказали боги
Мне в сладкой участи оспаривать налоги,
Или мешать царям друг с другом воевать;
И мало горя мне—свободно ли печать
Морочит олухов, иль чуткая цензура
В журнальных замыслах стесняет балагура.

Все это, видите ль, СЛОВА, СЛОВА, СЛОВА!*
Иные, лучшие мне дороги права.
Иная, лучшая потребна мне свобода...
Зависеть от властей, зависеть от народа—
Не все ли нам равно? Бог с ними!.. Никому
Отчета не давать; себе лишь самому
Служить и угождать; для власти, для ливреи
Не гнуть ни совести, ни помыслов, ни шеи;
По прихоти своей скитаться здесь и там,
Дивясь божественным природы красотам,
И пред созданьями искусств и вдохновенья
Безмолвно утопать в восторгах умиленья—
Вот счастье! вот права!.. (Из Пиндемонте).

Нарэшце, у яго ёсць яшчэ больш рэзкае вызначэнне сваіх адносін да „чэрні“:

Поэт по лире вдохновенной
Рукой рассеянной бряцал;
Он пел—а хладный и надменный
Кругом народ непосвященный
Ему бессмысленно внимал.
И толковала чернь тупая:
„Зачем так звучно он поет?
„Напрасно ухо поражая,
„К какой он цели нас ведет?
„О чем бренчит? Чему нас учит?
„Зачем сердца волнует, мучит,
„Как своенравный чародей?
„Как ветер песнь его свободна,
„За то как ветер и бесплодна:
„Какая польза нам от ней!“

Паэт:

Молчи, бессмысленный народ,
Поденщик, раб нужды, забот!
Несносен мне твой ропот дерзкий!
Ты червь земли, не сын небес;
Тебе бы пользы все—на вес
Кумир ты ценишь Бельведерский,
Ты пользы, пользы в нем не зришь!
Но мрамор сей ведь бог!.. Так что же?
Печной горшок тебе дороже:
Ты пищу в нем себе варишь.

Чэрнь:

Нет, если ты небес избранник,
Свой дар, божественный посланник,
Во благо нам употребляй:
Сердца собратьев исправляй.
Мы малодушны, мы коварны,
Бесстыдны, злы, неблагодарны;
Мы сердцем хладные скопцы,
Клеветники, рабы, глупцы;
Гнездятся клубом в нас пороки;
Ты можешь, ближнего любя,
Давать нам смелые уроки,
А мы послушаем тебя.

---

* Hamlet

Паэт:

Подите прочь—какое дело
Поэту мирному до вас?
В разврате каменейте смело;
Не оживит вас лиры глас;
Душе противны вы как гробы;
Для вашей глупости и злобы
Имели вы до сей поры
Бичи, темницы, топоры,—
Довольно с вас рабов безумных!
Во градах ваших с улиц шумных
Сметают сор—полезный труд!—
Но, позабыв свое служенье,
Алтарь и жертвоприношенье,
Жрецы ль у вас метлу берут?
Не для житейского волненья.
Не для корысти, не для битв,
Мы рождены для вдохновенья,
Для звуков сладких и молитв.

(Чернь).

Але хто гэтая чэрнь? Ці разумеў пад гэтай назвай Пушкін іменна народ?

Разгледзім пытанне.

Перш за ўсё Пушкін быў першым рускім пісьменнікам, які звярнуў увагу на народную творчасць і ўвёў яе ў літаратуру, не скажаючы—ва ўгоду дзяржаўнай ідэі „народнасці“ фальшывым тэндэнцыям прыдворных паэтаў—ён упрыгожыў народную песню і казку бляскам свайго таленту, але пакінуў нязменным іх сэнс і сілу.

Вазьміце казку „О попе и работнике Балде“, аб залатым петушку, аб Цару Салтану і т. д., ва ўсіх гэтых казках кплівых, адмоўных адносін народу да папоў і цароў Пушкін не схаваў, не затушаваў, а наадварот, адцяніў яшчэ больш рэзка.

Ён пераклаў з сербскай мовы некалькі народных легенд са зборніка Караджыча; калі выйшлі падробленыя французскім пісьменнікам Праспeрам Мерымэ „Песни Западных славян“, Пушкін неадкладна перакладае іх на рускую мову.

Ён запісваў у часе сваіх падарожжаў казкі і песні і больш як 50 штук іх перадаў Кірэеўскаму для яго славутага зборніка. Ён сабраў цэлы цыкл песень пра Сценьку Разіна, якога называў „адзінай паэтычнай асобай, у Расіі“,—заўважце, што Разін па сваіх намерах і па духу быў непараўнана больш дэмакратычны за Пугача, якога са смуткам асмяяў Пушкін. Бенкендорф сказаў Пушкіну: „Песні пра С. Разіна пры ўсіх паэтычных сваіх вартасцях па зместу свайму не прыгодны да друкавання. Звыш таго, царква праклінае Разіна, як і Пугачова“.

Пушкін непасрэдна сутыкаўся з народам, распытваў мужыкоў пра жыццё і—вось якія запісы рабіў у сваіх падарожных сшытках:

...Даведаўшыся з гаворак яго, што ён панскі быў чалавек, цікавіўся ад яго даведацца прычыну незвычайнага задавальнення. На пытанне маё аб гэтым ён адказваў: „Калі-б, гасудар мой, з аднаго боку пастаўлена была шыбеніца, а з другога глыбокая рака, і стоячы паміж двух пагібеляў, неўнікнёна-б належала-б ісці направа,

альбо налева, у пятлю альбо ў ваду, што выбралі-б вы, што прымусіла-б жадаць розум і пачуццёвасць? Я думаю, ды і ўсякі іншы абраў-бы кінуцца ў раку, спадзяючыся, што, праплыўшы на другі бераг, небяспека ўжо мінецца. Ніхто не згадзіўся-б паспытаць— ці цвёрдая пятля—сваёй шыяй. Гэткі быў мой выпадак. Цяжкое салдацкае жыццё, ды лепш за пятлю. Добра-б і тое, калі-б на тым і канец быў, але паміраць тошнаю смерцю пад бізунамі, пад кошкамі, у кайданах, у пограбе, голаму, босаму, прагнучаму, смагнучаму, пры заўсёдным наруганні... Гасудар мой, хоць халопаў вы лічыце за сваю маемасць, нярэдка горш за жывёлу, але на няшчасце іх найгаршэйшае—яны чуллівасці не пазбаўлены. Вам дзіўна, бачу я, чуць іх гэткія словы ў вуснах селяніна; ды чуючы іх з-за чаго не дзівецеся з жорсткасардэчнасці сваіх субрацціяў дваран"*.

... Спосабам да таго найнадзейнейшым палічыў ён прыраўняць сялян сваіх да прылад, што ні волі, ні імкненняў не маюць; і прыраўняў іх сапраўды ў некаторых адносінах сучаснага века да воінаў, якія кіруюцца грудаю, а ў паасобку нічога не значаць. Для дасягнення сваёй мэты ён забраў у іх малы шматок ворыва і сенных пакосаў, якія ім, на неабходнае прахарчаванне, даюць звычайна дваране, нібы ва ўзнагароду за ўсе вымушаныя работы, якіх яны ад сялян патрабуюць. Словам, гэты дваранін нехта—усіх сялян, жонак іх і дзяцей прымусіў ва ўсе дні года працаваць на сябе. А каб яны не памёрлі з голаду, дык выдаваў ён ім пэўную колькасць хлеба, пад назвай месячыны вядомую. Тыя, якія не мелі сем'яў, месячыны не атрымлівалі, а па звычаю Лакедаманян банкетавалі разам на панскім двары, спажываючы для напаўнення страўніка ў мясаед пусты боршч, а ў пасты і ў посныя дні хлеб з квасам. Сапраўдныя разгавенні бывалі хіба на святым тыдні.

Гэткімураднікам вытваралася таксама прыстойная і суразмерная вопратка. Абутак для зімы, г. зн. лапці, рабілі яны самі, анучы атрымлівалі ад пана свайго, а ўлетку хадзілі босыя. Значыць, у гэткіх вязняў не было ні каровы, ні каня, ні авечкі, ні барана. Дазваленне трымаць іх пан не адбіраў, але спосабы да таго. Хто быў больш заможны, хто быў больш стрыманы ў харчы, той трымаў некалькі птушак, якія пан калі-ні-калі браў да сябе, плоцячы за іх цану па сваёй волі.

... Зрабіўшыся памешчыкам 2000 душ, ён знайшоў сваіх сялян, як кажуць, збалаванымі слабым і нядбайным сваім папярэднікам. Першым стараннем яго было агульнае і поўнае разарэнне. Ен неадкладна прыступіў да выканання свайго намеру і ў тры гады прывёў сялян у цяжкое становішча. Селянін не меў ніякай уласнасці: ён араў панскай сахой, запрэжанай у панскую клячу; жывёла яго была ўся прададзена; ён садзіўся за спартанскую трапезу на барскім двары; дома не меў ён ні баршчу, ні хлеба. Вопратка, абутак выдаваліся яму ад пана".

---

* Гэты і наступныя два абзацы цытаты са сшыткаў Пушкіна пра становішча сялянства выпісаны Пушкіным з кнігі А. Н. Радзішчава „Падарожжа з Пецербурга ў Маскву".

Пушкін ведаў жыццё сялян: вазьміце з „Хроники села Горюхина“ ўрывак „Правление приказчика“—гэта найтыповейшая для таго часу карціна разарэння вёскі:

А вось вясковая карціна, якая напісана нібы Некрасавым:

Румяный критик мой, насмешник толстопузой,
Готовый век трунить над нашей томной музой,
Поди-ка ты сюда, присядь-ка ты со мной,
Попробуй, сладим-ли с проклятою хандрой.
Что-ж ты нахмурился? Нельзя-ли блажь оставить?
И песенкою нас веселой позабавить.
Смотри, какой здесь вид: избушек ряд убогой,
За ними чернозем, равнины скат отлогой,
Над ними серых туч густая полоса
Где ж нивы светлые? Где темные леса?
Где речка? На дворе, у низкого забора,
Два бедных деревца стоят в отраду взора,—
Два только деревца, и то из них одно
Дождливой осенью совсем обнажено,
А листья на другом размокли и желтея,
Что-б лужу засорить, ждут первого Борея,
И только. На дворе живой собаки нет.
Вот, правда, мужичек; за ним две бабы вслед;
Без шапки он; несет под мышкой гроб ребенка
И кличет издали ленивого попенка,
Чтоб тот отца позвал, да церковь отворил.
Скорей, ждать некогда, давно б уж схоронил!

(Шалость).

Ён збіраў песні і ў Одэсе, і ў Кішыневе, і ў Пскаўскай губ.—для чаго перапранаўся ў вопратку мешчаніна і, вывучаючы народнае жыццё, народную мову, лае сваё выхаванне „паганым, праклятым“. Ен вучыцца рускай мове ў Крылова, яшчэ больш у сваёй нянькі, заўсёды ў возьнікаў, гандлярак, у шынках, на пастаялых дварах, у салдатаў.

„Об'ят тоской за чашей ликованья“—ён кідае жыццё сталіцы і едзе ў вёску „насаладзіцца“ прастатою гутаркі і розума народнага ігрою.

Гэты чалавек не мог пад імем „чэрні“ разумець народ—яго ён паважаў і аб сіле яго здагадваўся чуццём.

Хто-ж тая чэрнь, пра якую паэт гаворыць з такою агідай?

Несумненна, што пад імем чэрні ён разумеў тое свецкае, сталічнае грамадства, у якім жыў. Паглядзім, як ён характарызуе гэта грамадства, і ці не зліюцца гэтыя характарыстыкі з адносінам Пушкіна да чэрні.

Гаворачы пра свецкае грамадства, ён усклікае:

Достойны равного презренья
Его тщеславная любовь
И лицемерные гоненья.

Далей:

... Смешон, участия кто требует у света!
Холодная толпа взирает на поэта,
Как на заезжего фигляра: если он
Глубоко выразит сердечный тяжкий стон
И выстраданный стих, пронзительно унылый,
Ударит по сердцам с неведомою силой,—

Она в ладони бьет и хвалит, иль порой
Неблагосклонною кивает головой.
Постигнет ли певца внезапное волненье,
Утрата скорбная, изгнанье, заточенье,—
„Тем лучше, говорят любители искусств:
„Тем лучше! наберет он новых дум и чувств
„И нам их передаст“. Но счастие поэта
Меж ними не найдет сердечного привета,
Когда боязненно безмолвствует оно...

(Ответ Анониму).

І яшчэ. Алеко ў паэме „Цыганы“ гаворыць свайму сыну:

Расти на воле, без уроков,
Не знай стеснительных палат
И не меняй простых пороков
На образованный разврат.

Паказ свецкага грамадства ў „Онегине“ дастаткова вядомы, я не буду яго паўтараць.

„Чорт загадаў мне нарадзіцца ў Расіі з душой і талентам!“— сказаў ён аднойчы і шмат разоў давялося яму паўтарыць гэты горкі і верны сказ.

Пакуль Пушкін ішоў сцежкай рамантызма, пратаптанай да яго, пакуль ён пераймаў французаў, Байрана, Бацюшкова, Жукоўскага,— грамадства, заўважаючы яго дзівосны талент, цэнячы музыку новага вершу, хваліла паэта. Але як толькі ён стаў на свае ногі і загаварыў чыстай рускай, народнай мовай, пачаў уводзіць у літаратуру народныя матывы, абыдзённае жыццё, стаў адлюстроўваць жыццё рэальна, проста і верна,—грамадства стала адносіцца да яго кпліва і варожа, адчуваючы ў ім суровага суддзю, бесстаронняга сведку рускай пошласці, невуцтва і рабства, жорсткасці і халопства перад сілай улады.

Пра яго казалі, што ссылка ў Сібір заменена яму ссылкай у Одэсу таму, што ён дазволіў сябе адлупцаваць, у Одэсе яго цкавалі, разглядаючы як ссыльнага, дробнага чыноўніка і не лічачыся з яго дараваннем,—ён зласнеў і быў вымушаны „процістаўляць табелі аб рангах то дэмакратычную гордасць таленту і розуму, то сваё 600-гадовае дваранства“.

У сям'і да яго адносіліся падазрона і груба: бацька нават аднойчы абвінавацціў паэта ў замаху на забойства, што пагражала катаргай.

Яго цкаваў Булгарын, скажала цэнзура, Бенкендорф праследваў вымовамі,—вершы „Моя родословная“, „На выздоровление Лукулла“ і кплівыя чатырохрадкоўі выклікалі, нарэшце, непрымірымую злосць да паэта, спрытныя людзі па-майстэрску раздзьмухвалі агульную непрыязнь да яго, нарэшце, супроць яго быў пушчаны ў ход паклёп і—хутка яго застрэлілі.

Яго лёс поўнасцю супадае з лёсам усякага буйнога чалавека, які па волі гісторыі пастаўлены ў неабходнасць жыць сярод людзей дробных, пошлых і своекарысных,—прыгадайце Леонардо да Вінчы і Мікель Анджэло. Пушкін для рускай літаратуры такая-ж велічыня, як Леонардо для еўрапейскага мастацтва. Мы павінны ўмець адлу-

чыць ад яго тое, што ў ім выпадкова, тое, што тлумачыцца ўмовамі часу і асабовымі, атрыманымі ў спадчыну якасцямі—усё дваранскае, усё часовае—гэта не наша, гэта чужое, і непатрэбна нам.

Але іменна тады, калі мы адкінем усё гэта ў бок,—іменна тады перад намі і паўстане вялікі рускі народны паэт, творца чаруючых храством і розумам казак, аўтар першага рэалістычнага раману „Еўгеній Онегін", аўтар лепшай нашай гістарычнай драмы „Барыс Гадуноў", паэт, да гэтага дня нікім не пераўзойдзены ні ў храстве вершу, ні ў сіле выяўлення пачуцця і думкі, паэт—родапачынальнік вялікай рускай літаратуры.

* * *

Паўторым яшчэ раз яго самахарактарыстыкі—яны павучальныя як погляд паэта на задачы яго ў жыцці:

Ревет ли зверь в лесу глухом,
Трубит ли рог, гремит ли гром,
Поет ли дева за холмом—
На всякий звук
Свой отклик в воздухе пустом
Родишь ты вдруг.
Ты внемлешь грохоту громов
И гласу бури и валов,
И крику сельских пастухов—
И шлешь ответ;
Тебе ж нет отзыва... Таков
И ты, поэт!

(Эхо).

Духовной жаждою томим,
В пустыне мрачной я влачился
И шестикрылый серафим
На перапутье мне явился.
Перстами, легкими как сон,
Моих зениц коснулся он:
Отверзлись вещие зеницы,
Как у испуганной орлицы.
Моих ушей коснулся он,—
И их наполнил шум и звон,
И внял я неба содроганье,
И горний ангелов полет,
И гад морских подводный ход,
И дольней лозы прозябанье.
И он к устам моим приник,
И вырвал грешный мой язык,
И празднословный, и лукавый,
И жало мудрыя змеи
В уста замершие мои
Вложил десницею кровавой.
И он мне грудь рассек мечом,
И сердце трепетное вынул,
И угль, пылающий огнем,
Во грудь отверстую водвинул.
Как труп в пустыне я лежал,
И бога глас ко мне воззвал:
„Востань пророк, и виждь, и внемли,
„Исполнись волею моей
„И, обходя моря и земли,
„Глаголом жги сердца людей!"

(Пророк).

Я памятник себе воздвиг нерукотворный;
К нему не зарастет народная тропа;
Вознесся выше он главою непокорной
Александрийского столпа.
Нет! Весь я не умру! Душа в заветной лире
Мой прах переживет и тленья убежит—
И славен буду я, доколь в подлунном мире
Жив будет хоть один пиит.
Слух обо мне пройдет по всей Руси великой,
И назовет меня всяк сущий в ней язык:
И гордый внук славян, и финн, и ныне дикой
Тунгуз, и друг степей калмык.
И долго буду тем любезен я народу,
Что чувства добрые я лирой пробуждал,
Что в мой жестокий век восславил я свободу
И милость к падшим призывал.
Веленью божию, о муза, будь послушна:
Обиды не страшась, не требуя венца,
Хвалу и клевету приемли равнодушно
И не оспаривай глупца.

* * *

Што-ж дае Пушкін чытачу-пролетарыю?

Па-першае на прыкладзе яго творчасці мы бачым, што пісьменнік, багаты веданнем жыцця,—так сказаць, перагружаны вопытам,—у сваіх мастацкіх абагульненнях (у вобразах Еўгенія Онегіна, графа Нуліна, Дуброўскага і г. д.) выходзіць з рамак класавай псіхікі, узвышаецца над тэндэнцыямі класа і аб'ектывіруе нам гэты клас: са знешняга боку—як няўдалую і нястройную арганізацыю часткі гістарычнага вопыту, з унутранага—як псіхіку своекарыслівую, поўную непрымірымых супярэчнасцей.

Несумненна, што Пушкін —дваранін,—ён сам адзін час ганарыўся гэтым,—але нам важна ведаць, што ўжо ў юнацтве сваім ён адчуў цеснату і духату дваранскіх традыцый, зразумеў інтэлектуальнае жабрацтва свайго класа, яго культурную слабасць і адлюстраваў усё гэта, усё жыццё дваранства, усе яго парокі і слабасці з надзвычайнай вернасцю.

Чыста і рэзка класавы пісьменнік імкнецца паказаць свой клас уладаром і ўласнікам бясспрэчных соцыяльных ісцін, якія для ўсёй масы народу маюць абавязковае значэнне, для усіх з'яўляюцца догматам, які патрабуе безумоўнага падначалення ім,—такі пісьменнік адлюстроўвае ідэі, пачуцці і вераванні свайго класа, як адзінаправільнае, поўнае і вернае адлюстраванне ўсіх бакоў жыцця,— усяго вопыту чалавецтва.

У прыкладзе Пушкіна мы маем пісьменніка, які, будучы перапоўненым уражаннямі быцця, імкнуўся адлюстраваць іх у вершы і прозе з найбольшай праўдзівасцю, з найбольшым рэалізмам, чаго і дасягаў з геніяльным уменнем. Яго творы—каштоўнейшае сведчанне разумнага, ведаючага і праўдзівага чалавека аб норавах, звычаях, разуменнях вядомай эпохі,—усе яны ёсць геніяльныя ілюстрацыі да рускай гісторыі.

Пісьменнік класавы, групуючы свае назіранні па шаблону інтарэсаў свайго класа, гаворыць нам: „Вось ісціна, здабытая мною

з назіранняў над жыццём чалавечым,—іншай ісціны няма, не можа быць!“

Гэтаператварэнне тэндэнцый аднаго класа ў догмат, абавязковы для ўсіх другіх, гэта—пропаведзь неабходнасці падначалення ўсёй масы народу маральным і прававым нормам, выгодным толькі камандуючай сіле; тут мастацтва прыносіцца ў ахвяру інтарэсам ваяўнічай палітыкі, зводзіцца да прылады барацьбы і—не пераконвае нас, бо мы бачым альбо адчуваем у ім унутраную фальшывасць.

„Ад каго-б я ні паходзіў,—гаворыць Пушкін,—чын думак маіх ад гэтага ніяк-бы не залежаў“.

Гэта словы чалавека, які адчуваў, што для яго інтарэсы ўсёй нацыі вышэй за інтарэсы аднаго дваранства, а гаварыў ён так таму, што яго асабісты вопыт быў шырэйшы і глыбейшы за вопыт дваранскага класа.

Асобныя заўвагі, закрэсленыя сказы.

Эстэтычнае значэнне паэзіі Пушкіна не стану даводзіць,—гэта патрабавала-б параўнання вершаў яго з вершамі лепшых пісьменнікаў нашых дзён, даследвання мовы з боку багацця слоў, прастаты, трапнасці і г. д.

... Вы ведаеце, што ніхто з сучасных паэтаў не можа, не здольны напісаць такі цудоўны гімн радасці, як Вакхічная песня Пушкіна.

Что смолкнул веселия глас?  
Раздайтесь, вакхальны припевы!  
Да здравствуют нежные девы  
И юные жены, любившие нас!  
Полнее стакан наливайте!  
    На звонкое дно,  
    В густое вино  
Заветные кольца бросайте!  
Подымем стаканы, содвинем их разом!  
Да здравствуют музы, да здравствует разум!  
    Ты, солнце святое, гори!  
    Как эта лампада бледнеет  
Пред ясным всходом зари,  
Так ложная мудрость мерцает и тлеет  
Пред солнцем бессмертным ума.  
Да здравствует солнце, да скроется тьма!

... Каротка ўкажу на наступную перавагу Пушкіна перад сучаснымі паэтамі: ён не пакінуў ні аднаго боку жыцця, не асвятліўшы яго сваім талентам, кола яго інтарэсаў, шырыня ведаў да гэтай пары астаецца неперавышанай. Ён даў узоры ўсіх форм літаратурнай творчасці: драму, раман, паэму, казку, санет і т. д.

... Многія з сучаснікаў Пушкіна ўладалі словам амаль так-жа па-мастацку, так-жа лёгка, як ён, але ніхто з іх не змог спалучыць у вершы прастату і яснасць слова з музыкай яго, ніхто з папярэднікаў і сучаснікаў яго не мог узвысіцца да такіх вершаў, якімі напісаны, напрыклад, „Прарок“.

Пушкін першы настойліва ўводзіў у мову поўнагалоснасць: ён перастаў пісаць „брада“, „власа“, „глад“ і пісаў „борода“, „волосы“, „голод“, але, калі тэма вершу патрабавала нейкіх асаблівых, жалезных слоў, ён не сароміўся браць іх са славянскай мовы, як мы бачым гэта ў „Прароку“.

... Пушкін любіў свабоду шчыра і горача.

... У той час не адзін ён чакаў, калі-ж, нарэшце, успыхне над радзімай зара „свободы просвещенной“, але толькі ён чакаў яе з тугой і страсцю да яго нікім яшчэ не адчуванымі.

... Ён чуццём разумеў сэнс гістарычных падзей.

... Абвінавачваюць Пушкіна звычайна ў грэблівых адносінах да чэрні, да дэмакратыі, абапіраючыся на гэтыя адносіны, рэакцыянеры неаднойчы залічвалі вялікага паэта ў свае брудныя рады.

... У 22 г. з'яўляюцца ў рускай літаратуры вершы Слепушкіна— гэта яраслаўскі селянін, рабочы на млыне, гандляр параным ігрушамі, затым—крамнік, самавучка-паэт і жывапісец-партрэтыст, якога Акадэмія Навук ушанавала за яго вершы залатой медаляй і 50 чырвонцамі, а цар падараваў ганаровы каптан і залаты гадзіннік. Гэта быў талент пасрэдны, хаця Сенкоўскі параўноўваў яго са славутым паэтам дрэўняй Грэцыі Феакрытам і вершы Слепушкіна перакладаліся на англійскую, французскую і нямецкую мовы.

Пушкін неадкладна звярнуў на яго ўвагу, пазнаёміўся і піша аб ім Дэльвігу: „У Слепушкіна сапраўдны свой талент, пашлі яму маіх вершаў з тым, каб ён мяне не пераймаў, а ішоў-бы сваёй дарогай“.

Пазней, даведаўшыся, што самавучка-паэт захапляецца славай сваёй і гэта псуе яго, Пушкін усклікае: „Гэта вы загубілі чалавека, накідаўшы яму ў рот усякай дрэні вашай, а яго берагчы трэба было-б; бо ён-жа ад народу!“.

---

*Я. Бранштэйн*

# І. ФЕФЕР

„Стихом простым я слово проведу,—
Не потому, что сложным не владею,
А потому, что рядовым—в ряду
Простое слово стало чародеем".

(*Н. Тіханаў*).

Калі ў яўрэйскім комуністычным друку, летам 1920 г. з'явіліся першыя вершаваныя строфы Іцыка Фефера—невядомага юнака—наборшчыка з мястэчка Шпола—яўрэйская савецкая паэзія ўжо налічвала такія аўтарытэтныя імёны як Ошэр Шварцман, Перац Маркіш, Довід Гофштэйн, Лейб Квітко і іншыя.

Гэтыя паэты, якія ўвайшлі ў гісторыю паслякастрычніцкай яўрэйскай літаратуры пад клічкай „Кіеўская група", зрабілі не малы ўплыў на лёс наступнага пакалення яўрэйскіх савецкіх паэтаў.

Абвеяныя гарачым дыханнем 1917 г., захопленыя, у той ці ў іншай ступені кругаваротам рэволюцыйных падзей, „кіеўляне" ўнеслі ў затхлую атмасферу прадрэволюцыйнай мяшчанскай яўрэйскай паэзіі непакойны дух, хай смутных, але палкіх творчых шуканняў, дух радыкальнага бражэння, з шырокай амплітудай хістання—ад нацыянал-лібералізма Гофштэйна, праз стыхійнае, індывідуалістычнае бунтарства Маркіша, да сапраўды дэмакратычнага ўзлёту рэволюцыйнай рамантыкі Ошэра Шварцмана. Гэтыя паэты шырока рассунулі моўныя, вобразныя, рытмічныя і фонетычныя рамкі яўрэйскага верша, які іх намаганнямі змог далучыцца да лепшых фармальных заваёў рускага верша.

Раннія паэтычныя крокі Фефера—паэта другога паслякастрычніцкага заклiку не маглі не быць адзначаны з першых часоў некаторай стылявою залежнасцю ад яго паэтычных папярэднікаў. Першая кніжка вершаў Фефера—„Щепки" (1922 г.) надрукована з прадмовай Гофштэйна, які прыкметна імкнецца прыручыць пачынаючага паэта для патрэб ліберальнай імпрэсіяніcцкай лірыкі.

Пачынаючага Фефера, быць можа, і захапляла часамі ювелірнае майстэрства імпрэсій Гофштэйна, іх нясцёртая вобразнасць, гукавая насычанаць і, сказаў бы я, „обтекаемость" гофштэйнаўскай лірычнай мініатуры. Аднак, менш усяго гэты юнак наборшчык быў схілен засесці за партай перад Гофштэйнам. Ні бясстрасны імпрэсіяні-

стычны пасівізм Гофштэйна, ні яго нацыяналістычны традыцыяналізм не змаглі быць сугучны паэтычным жаданням маладога паэта—комуніста, які прышоў у літаратуру бадай адразу з франтоў грамадзянскай вайны.

Бо Фефер своеасабліва дэбютаваў у паэзіі! Пад „ухание картечи“ ён складаў свае першыя строфы:

„Рука к руке, к плечу плечо
Нога к ноге, шинель к шинелй
Земля раскрылась под лучом
И небеса заголубели.

Лежат, припавши на траву
И голову упрятав в плечи...
И я лежу в зеленом рву,
Лежу и ухаю картечью“.

Гэты зялёны роў і суровыя шарэнгі чырвонаармейцаў, якія прыпалі на траву „нога к ноге“, „шинель к шинели“; верны баявы конь з „грустными глазами“; і любімая дзяўчына ў фрэнчы, з „шапкой лихо заломленной и с папироской в зубах“—увесь гэты суровы каляровы свет, ці мог ён быць уціснутым у гофштэйнаўскую імпрэсію, у гофштэйнаўскі пасіўны арнамент, у гофштэйнаўскую нацыяналістычную канцэпцыю традыцыяналізма?

Ужо ў першай кніжцы вершаў 1922 г., пачынаючы Фефер у радзе месц, па сутнасці, палемізуе з сваім літаратурным рэдактарам—Гофштэйнам. Ужо ў гэтых вершах Фефер супроцьстаўляе імпрэсіяністкай і сімвалістычнай паэтыцы сваіх папярэднікаў новую рэволюцыйную паэтыку—паэтыку „босых песен“, „простых и нагих речей“. Гэтыя „босые песни“ потым сталі лейтматывам паэзіі Фефера.

И прост был рассказ, но земля пополам
Разбилась от слова простого“.

Так характарызуе Фефер у адным з сваіх вершаў суровую вялікасць новай паэтыкі —паэтыкі „босых песен и простых речей“.

Соцыяльная страснасць пролетарскай рэволюцыі, вялікасная мужная прастата яе байцоў—вось што супроцьстаўлялася Феферам імпрэсіянізму і сімвалізму, якія захаплялі тады не аднаго яўрэйскага паэта.

У адным з пазнейшых сваіх вершаў—у вершы „Картина“, Фефер невыпадкова палемізуе з імпрэсіяністкай статыкай вобраза:

И станут воины, как бы под дождиком,
Лучи не вызолотят касок медь...
Лег мир застывший на холст художника,
А жизнь—движение—о ней нам петь“.

Таксама Фефер увесь у палеміцы з традыцыяналізмам Гофштэйна, які ў імя вернасці „традыцыям“ (благагавейныя адносіны к „дедушкиному посоху“) не раз кідаўся ў абдымкі нацыяналізма. Кожнай сваёй страфой, кожным сваім новым вобразам малады Фефер рваў путы нацыяналістычнага традыцыяналізма. Комсамольцы, партызаны, цяплушкі, будзёнаўцы—усе гэтыя вобразы

ўпершыню былі ўнесены ў яўрэйскую паэзію Феферам. Гэта ні ўякім выпадку не ўкладвалася ў „пракрустава ложа“ нацыяналістычнай традыцыі.

Зразумела, Фефер, зусім не выступае ў ролі „Івана не памятуючага радства“. Нігілістычнае адмаўленне мінулага, бяскроўны касмапалітычны універсалізм, радыкальна-буржуазнага напрамку чужы гэтаму паэту—сапраўднаму народнаму песняру яўрэйскіх працоўных. Фефер ужо ў ранніх сваіх вершах палемізуе таксама таму з анархічным індывідуалізмам і нігілізмам Пераца Маркіша таго перыяду.

Свавольны індывідуалізм Маркіша, яго уітменаўскае ап‘яненне плоццю, шалёны паток яго палкіх рытмаў, пафас адмаўлення, з якім Маркіш прышоў у яўрэйскую паэзію саслужылі безумоўна ролю магутнага фермента ў яўрэйскай літаратуры. Аднак, Фефера не маглі захапляць ні бесклапотны „карусельны гул“ многіх вершаў ранейшага Маркіша, ні яго анархічны індывідуалізм.

Кто там слоняется
Беспечным бездельником по земле
В дни, когда поля распластаны как трупы,—

усклікае Фефер у адным з ранейшых сваіх вершаў (1924 г.), палемічна накіроўваючы гэтыя строфы супроць „беспечного безделия“ Маркіша (асноўнага паэтычнага матыва ранняга Маркіша).

Для Фефера—старонніка „простых и нагих речей“ з‘яўляецца чужой таксама касмічная рыторыка Маркіша таго перыяду, яго „пышная паэтыка“.

Калі ўжо казаць аб ідэйна-творчых уплывах „кіеўскай групы“ на паэтычны рост Фефера, дык у першую чаргу трэба звярнуцца к Ошару Шварцману.

Гэты надзвычайны паэт, мужна спалучаўшы ў сабе рэвалюцыйнае слова і рэвалюцыйную справу, крывёю сваёю афарбаваў першыя старонкі яўрэйскай савецкай поэзіі.

Летам 1919 г. ён загінуў на фронце, куды пайшоў дабраахвотнікам-чырвонаармейцам.

Ен быў абаяльны ў сваёй сапраўды народнай лірычнасці. Ён як ніхто прымушаў верыць у свае невыразныя рамантычныя мары, але таксама горача ён любіў усё зямное: і „солнечный луч, целующий волну“, і „ночной ливень над городом“, і „зелень клейких почек“.

Праўда і Шварцману даводзілася перамагаць унутраное хістанне („Зазубрины меча“, кажучы словамі самога Шварцмана).

Але нельга без хвалявання чытаць тыя радкі, у якіх Шварцман, перамагаючы ў сабе абстрактна-гуманістычны этыцызм, упершыню ў яўрэйскай савецкай паэзіі заклікае чытача асядлаць коні, бо „враг у ворот“. Ён загінуў, не паспеўшы пры жыцці надрукаваць ніводнай кніжкі сваіх вершаў, але іменна яму „быць можа, не ў меншай меры, чым пачынальнікам яўрэйскай пролетарскай паэзіі XIX ст. (так званай яўрэйскай амерыканскай групе рабочых паэтаў) абавязана яўрэйская савецкая паэзія рэволюцыйна-рамантычным пафасам і народнасцю лепшых сваіх паэтаў, у тым ліку і Фефера.

Калі ранні Фефер вострай паэтычнай палемікай супроць мяшчанскай лірыкі абараняў свае права на „лірыку партызан і цяплушак“, ён па сутнасці працягваў пачатае Шварцманам—аўтарам „Восстания“, „Полыхают знамена“, „Враг у ворот“ і г. д. Калі Фефер абрамляе свае песні аб грамадзянскай вайне фальклорнай роспіссю, арнаментам народнай творчасці, ён ідзе па слядах Шварцмана—аднаго з лепшых знатакоў яўрэйскага паэтычнага фальклора.

Ранняга Фефера зблізкае з Шварцманам суровы паэтычны росчарк, які чужы ўсялякай сантыментальнасці і напышлівасці. Адсюль у Фефера бесхітраснасць простых чалавечых слоў, ад якіх „земля раскалывается пополам“. Адсюль народнасць яго вершаў аб грамадзянскай вайне, адсюль рэволюцыйная рамантыка ў спалучэнні з цвярозым рэалізмам. У гэтым сіла Фефера, пачынаючы з першых яго літаратурных крокаў.

## II

Сваю першую кнігу зусім спелых вершаў, якія зрабілі паэту выключную папулярнасць, Фефер сціпла і проста назваў: „О себе и о подобных мне“ (1924 г.). Ужо ў гэтай бясхітраснай назве кнігі лірыкі дадзена была новая соцыялістычная трактоўка лірызма. Лірычны вобраз паэта ў процівагу распаўсюджаным тады пролеткультаўскім „калектывісцкім“ схемам, акцэнтаваны ўжо ў самім загалоўку. Адначасова лірычны вобраз паэта не ізаляваны ад падобных яму соцен, тысяч і міліёнаў наборшчыкаў, металістаў, шахцёраў, комуністаў, комсамольцаў, партызан. Паэт не адзяецца ў тогу звышчалавечага індывідуалізма. Ен не пазіруе перад чытачом сваімі „утончанымі“ перажываннямі.

„Я обращаюсь к вам тепло и просто“—гэтым радком Фефер адчыняе сваю кнігу вершаў „О себе и о подобных мне“. Матыў „простых речей и босых песен“, якімі паэт аперуе ужо ў першых сваіх вершах, тут мастацкі раскрывае ўсё суровае вялічча свайго зместу.

У дзень „обыденной и простой“ маці нарадзіла паэта „на ситцевой простыни“. Яго назвалі простым і звычайным імем „Іцык“. Яго паілі звычайным саладкаватым чаем. Яго акружалі простыя босыя дзеці, „которым суждено было вчерашнее расстрелять“. Ен разам з імі спяваў „простые босые песни“, насіў просты шэры шынель, „записывал на плетнях“, свае першыя паэтычныя строфы. Валяўся па цеплушках, вакзалах і акопах, імчаўся на кані, і „лежал в зеленом рву, ухая картечью“.

І ўсё гэта робіцца вельмі проста, ніякіх пролеткультаўскіх тытанаў, ніякіх касмічных мяцеліц.

Гэта аўтабіяграфія сама па сабе—паэзія. Вось ён паэт чырвонаармеец—пасля бойкі „свернулся яблоком за плетнем и вздремнул“.

> Разбудят меня—так надо,
> Я знаю. Но сладок мой сон
> Облаков овечье стадо
> Со всех четырех сторон.

Батальныя пейзажы Фефера не напышлівыя—яны лірычна бясхістрасныя і простыя. Тое-ж вечнае, ціхае „облаков овечье стадо“

тыя-ж „пшеничные простыни“, „тихий летний дождик“, „ивы по обочинам дорог“. Таксама простыя, бясхітрасныя, „босые красноармейцы“, тыфозныя бабы, якія паміраюць на халодных вакзальных каменнях і кітайцы, якія імчаць эшалонамі і „русские комсомолки“, якія едуць на фронт.

„Мои босые простые братья“,—так неаднаразова кажа аб іх з любоўю паэт. Ён аб іх апавядае мовай народных казанняў. Фефер адзін з першых у яўрэйскай савецкай паэзіі стаў культываваць баладу, народныя казанні. Напаўняючы, некалькі ўпрошчана, традыцыйны жанр новым зместам пролетарскай рэволюцыі, новымі соцыяльнымі страсцямі, Фефер надзвычайна добра выкарыстоўвае суровае эпічнае дыханне балады, яе „скорость голую“ (кажучы словамі Тіханава), „фабулоемкость“, інтэнсіўнасць яе страфы, яе народнасць.

Чым упарцей Фефер падкрэслівае звычайнасць, прастату сітуацый, бясхітрасным эпітэтам, простым пейзажам, наўмысля падкрэсленай натуралістычнай дэталлю (халодныя вакзалы, вошы, потныя анучы), тым вялікасней выступае героіка эпохі. Людзі, коні, шынелі—усё гэта неяк размалёвана знутры, рамантычна прыўзнята.

Где ты теперь, мой конь, с печальными глазами?
Во сне искал тебя и не узнал во сне.

Праз сон паэт бачыць сваю акрываўленую шынель і баявую вінтоўку, якая стаіць у кутку, і цяплушку, і далёкія украінскія стэпы. У надзвычайнай лірычнай паэме „Вдвоем“ Фефер з велізарнай рамантычнай сілай апавядае аб сваім каханні да дзяўчыны, „в длинной серой шинели, в серой шапке набекрень“. Пад уханне картечы, за паваленым плятнём юнак і дзяўчына ў шынелях, з наганамі на баку, пазнаюць вялікую радасць сапраўднай дружбы і кахання. Вечная лірычная тэма пераключана ў новыя, зусім не звычайныя для яўрэйскай савецкай поэзіі абставіны. Рамантычная лірыка перастае быць прывілегіяй індывідуалістычнай паэзіі. Рамантычная лірыка Фефера ведае боль „измятой пшеницы черной от дыма и дождя“, і сум „израненного моста“, які „застыл над рекой скривясь от боли“, і просты чалевечы сум над „окровавленной братниной рубахой“.

Над полем, над рожью, над зреющей нивой
Играют ветра лошадиною гривой—
лошадиною гривой.
Возил и пахал и носился—каурый
И падалью стал он костями и шкурой—
костями и шкурой.
На черепе мертвом, в гниющих останках
Валялся картуз и трепалась кожанка—
трепалась кожанка.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

И всадник второй, среди поля ржаного,
На битву летя, горячил вороного—
горячил вороного.
И сутки несутся высокой стезею
О первом грущу я, о скрытом землею
Средь поля ржаного.

Рамантычная лірыка Фефера ведае і радасць барацьбы, радасць „сердца партизанского под бараньим кожухом“.

Пело сердце партизанье
Под бараньим кожухом.
Снежных станций изваяния
Пролетали сквозняком.
. . . . . . . . . . . . . .

Версты пройдены,—и с разгона
Станция взята,—и вот
На платформе оснеженной
Слово партизан берет.

Ад гэтых „бараньих кожухов“ і „оснеженных платформ“ павеяла на совецкага чытача непасрэднай чалавечай прастатой, народнай лірычнасцю.

У гэтым сэнсе раннія вершы Фефера былі больш роднымі і блізкімі народнаму чытачу, чым многія патэтычныя, „индустриальные“ і іншыя „гимны“.

Гэтаму спрыяла таксама абаяльна народная напеўнасць вершаў Фефера. Фефер адзін з першых найбольш яркіх прадстаўнікоў песеннага ладу ў яўрэйскай совецкай паэзіі. Удала аперыруючы яўрэйскім фальклорам, Фефер побач з гэтым часта выкарыстоўвае традыцыі украінскага паэтычнага фальклору. Гэтым паэт не толькі падкрэсліваў украінскі лакальны каларыт сваіх вершаў, але і стварае арыгінальнае спалучэнне яўрэйскага і украінскага фальклору.

Кнігі Фефера „Простые шаги“, „Камень к камню“, якія выйшлі ў 1925 г. працягваюць тую-ж традыцыю рэволюцыйнай рамантыкі, народнай эпічнасці і лірычнай песеннасці.

Неадступна за паэтам следуюць яго партызаны, яго „белокурые комсомолки“ і яго „босые братья“. Фефер дзе-ні-дзе нават пачынае паўтарацца, дзе-ні-дзе пачынае захлёстваць лёгкавесная страфа. У паэмах „Смерть Элли“, „Алібэн“ і інш.—гэта пагроза выступае больш відавочна, ніж у лірычных вершах паэта. Рамантычныя героі гэтых паэм—чырвонаармейскія партызаны празмерна хадульныя. Феферу пачынае пагражаць паэтычная схема, стандартнасць вобразаў. Перад паэтам паўстае на ўвесь рост пытанне аб далейшых шляхах творчасці.

## III

Першыя гады НЭП'а заспелі знянацку не аднаго совецкага паэта. Геніяльны стратэгічны план партыі Леніна—Сталіна, разлічаны на тое, каб перайсці ад лабавой атакі да манеўра, „в обход“ („обходом и с подходом“, як казаў Ленін),—вялікі план, які атрымаў сваё выражэнне ў новай эканамічнай палітыцы, як вядома не адразу быў зразуметы нават некаторымі рэволюцыйнымі паэтамі. У першыя гады НЭП'а хто-ні-хто з совецкіх пісьменнікаў упаў у тое „состояние весьма кислое почти паническое“, аб чым казаў Ленін на другім усерасійскім з'ездзе палітасветнікаў.

У яўрэйскай літаратуры гэты перыяд характарызаваўся не толькі стварэннем арганізацыі яўрэйскіх пролетарскіх пісьменнікаў,

але і нарастаннем дробнабуржуазнага ўпадніцтва і нацыяналістычнага чаду сярод некаторай часткі пісьменнікаў.

Героіка-рамантычныя балады і песні Фефера аб грамадзянскай вайне, яго простае і мужнае слова „О себе и о подобных мне“ падзейнічала нібы струмень асвяжаючага паветра ў затхлай каморцы.

Аднак, і Фефер некаторы час з прыкметнымі цяжкасцямі паэтычна асвойваў новыя абставіны, якія склаліся ў гады аднаўленчага перыяду.

Вялікімі—то усхваляванымі, то устрывожанымі вачамі ён прыглядаўся да цудоўнага спляцення „пяти хозяйственных укладов“. У чырвонаармейскай шынелі, якая захавала яшчэ сляды незабываемых дзён грамадзянскай вайны, у разбітых паходных ботах, да світання хадзіў паэт „под холодными звездами в белом сиянии“, прыслухоўваючыся да першых удараў молата ў краіне, якая толькі што выйшла з вайны і голада.

„Лесорубы, лесорубы подымайте топоры“—гэта ўжо адчуванне новай героікі—рэвалюцыйнай героікі працы—рамантыкі бетонных аграмад:

Сколько тоски человечьей
В этих балках сваленных в ряд,—
Им снятся каждый вечер
Хребты бетонных громад.

У далейшым, у 1928 г., гэты рамантычны пафас працы ляжа ў аснову вялікай паэмы „Днепрострой“, прысвечанай соцыялістычнаму будаўніцтву. Пакуль-жа Фефер з цяжкасцямі перамагае абступіўшую яго старую галерэю вобразаў—вобразаў грамадзянскай вайны:

Дальних звезд скороговорку—
Колокольчиков ночных.
Старый шлем и гимнастерку,—
Разве ты забудешь их?

Паэт сарамліва расказвае аб тым, як упершыню пасля гадоў грамадзянскай вайны ён купляе ў касе чыгуначны білет. Зніклі яго гераічныя авеяныя рамантыкай цяплушкі, у якіх ён упершыню адчуў, кажучы словамі Светлова „свой высокі рост“. Сплючы, паэт вядзе размову з шынеллю і бессвядома цягнецца яго рука да вінтоўкі, якая стаіць у куту. Яшчэ ў 1930 г. Фефер у вершы „В Крыму“ не можа вызваліцца ад успамінаў аб грамадзянскай вайне, якая „наплывам“ прысутнічае ва ўсіх амаль лепшых вершах паэта.

Вось паэт у Крыму, „В окне такие дали, что их забыть нельзя“,

И вдруг:
Сияющей не стало вышины.
И—море отошло
И белизны
Песков и стен Дюльберовских не стало.
Степной простор
Пустынный, одичалый...
Глухая ночь—и мы вдвоем
Стреляем притаясь
За глиняным бугром...
Лишь я да ты:
Наборщик и сапожник...

З трывогай кажа паэт у другім больш раннім вершы аб чырвонаармейцы, які „не находит своего дома в чаду кабаков и в блеске витрин“. Фефер у некаторых вершах пачынае марыць аб „настоящем дне“, калі „огненный дождь будет хлестать на полях“. Ён дзе-ні-дзе не хавае нават свае злабы па адрасу тых, якія „никогда не стреляли“. Ён хоча „накинуться на кого-то, бить его, ругать его“. Паэт такім чынам стаў перад велізарнай небяспекай—небяспекай палітычна-шкоднага ўспрыяцця рэчаіснасці. Для пролетарскага паэта перамога гэтай стыхіі, гэтых настрояў дробнабуржуазнай панікі, азначала-б ідэйную і творчую пагібель.

Фефер хутка зразумеў сутнасць гэтай небяспекі. З выключнай творчай упартасцю Фефер шукае шляхоў да новай рамантыкі—рамантыкі соцыялістычнай працы. Ужо ў паэме „Цветущий мусор“ (1925 г.) паэт робіць першы круты паварот да тэмы савецкіх будняў—да будняў яўрэйскага мястэчка. „Над пеплом и мусором восходит большая радость“, кажа паэт. Гэтая радасць перабудовы гаспадарчага і культурнага жыцця яўрэйскага мястэчка, Фефер бачыць, адчувае гэту радасць. У гэтай паэме Фефер адным з першых у яўрэйскай літаратуры загаварыў аб працэсах соцыялістычнай пераробкі працоўных мас яўрэйскага мястэчка. У гэтым заслуга гэтых вершаў. Але, адштурхоўваючыся ад рамантыкі грамадзянскай вайны, Фефер у гэтай паэме сустракаецца з небяспекамі натуралізма. Фефер нібы свядома разгружае цяпер сваю страфу ад рамантычнага пафаса, ад гераічнай інтанацыі. Бытавы дыялог і маналог прыходзіць на змену песеннаму ладу. Кудысьці ў бок адыходзіць лірычны струмень. Паэма „Цветущий мусор“ у шэрагу месц напамінае бытавы нарыс.

Фефер аднак упарта рухаецца наперад да авалодання тэмай соцыялістычнай будоўлі. Паэма „Днепрострой“ (1928 г.) робіцца паваротным пунктам гэтых ідэйна-творчых шуканняў паэта. Цяпер для паэта зразумела: ёсць рамантыка-гераічнае веліччa і лірычнае абаянне ў соцыялістычнай працы. Сутычка двух рамантыка-гераічных планаў—рамантыкі старога Запарожжа і рамантыкі савецкага Днепрабуда дае шэраг яркіх паэтычных сітуацый. Ужо ў адным з першых раздзелаў паэмы „Днепрострой“ яскрава адчуваюцца палемічныя ноткі. Фефер успамінае гогалеўскія радкі „Чуден Днепр“ з тым, каб непрыкметна, парадыйна напомніць чытачу аб існаванні другога далёка не ідылічнага Дняпра:

Днепр качал голубую волну,
Отходя к вековечному сну...
Лес шумел у ночных берегов...
Мы-ль забудем:
Пылание ночей
Стон гранита,
Хрипение лесов,
Детский крик,
Голоса палачей,
Торжествующей влаги обвал?

. . . . . . . . . . . . . .

Чуден Днепр—это Гоголь сказал.

Таксама палемічна „здымаецца“ рамантыка Запарожскай сечы, якую агіднейшым чынам абсасвалі ў духу нацыяналістычнай стылізацыі украінскія нацдэмы. Захапляюча паэт апявае „тысячи рук, никогда не воспетые поэтами“. Гэта—рукі перамогшага рабочага класа. Яны твораць цуды. Яны ствараюць нябачаныя ў свеце багацці. З паэтычнай сілай паэт апявае той момант, калі воды Дняпра па намечанаму плану, затапляюць вялікія прасторы, змяняючы сваё русло:

Три тысячи дворов,
Три тысячи дворов
Покроет водяной
Сияющий покров.

Петух не закричит,
Не скатится звезда,
Когда пойдет на штурм
Великая вода.

И вербы задрожат,
И кланяться начнут,
И юные струи
Заборы разнесут.

Лірычныя вербы, і рассветны ўстрывожаны крык пеўня, і „большие крылья ветряка“ і „седые биндюжники с заросшими глазами“— усё гэта надае індустрыяльнаму пейзажу нейкую інтымна-чалавечую лірычную цяплыню. Для Фефера з'яўляецца чужым абстрактнарытарычны пафас „стального соловья“ і „железо-бетонных псалмов“. Ён вельмі чалавечны і просты, каб далезці на гэтыя ілжэіндустрыяльныя хадулі. У рамантычнай лірычнасці—перавага паэмы Днепрабуд перад многімі індустрыяльнымі вершамі.

Аднак, з другога боку, тут яўна намячаецца небяспека прыніжэння таго тэхнічнага пафаса індустрыялізацыі, без якога нельга пісаць пра нашы гіганцкія будоўлі. Магутны ўзлёт тэхнічнай думкі рэволюцыйнага класа, прыгожасць магутных тэхнічных пабудоў— ці гэта не прадмет сапраўднай рамантыкі. І, што важней за ўсё, ці не з'яўляецца прадметам сапраўднай рамантычнай героікі калектыў будаўнікоў і вялікая партыя большэвікоў, якая кіруе пабудовай Днепрабуда?

Фефер пакуль абмінуў гэтую важнейшую задачу. Яго паэма „Днепрострой“ амаль пазбаўлена тыпажа і фабулы. Яна напамінае бяссюжэтную лірычную хроніку, і можа быць працягнута ў бясконцасць, шляхам нанізвання новых пейзажаў пабудовы. Гэта адчувае сам аўтар, які паэму канчае з агаворкай, што бач „конец поэмы допишет Днепрострой“.

Гэта агаворка па сутнасці і азначала, што сам аўтар не лічыць вырашанай сваю задачу. Але перш чым зноў, на новай, пашыранай аснове, прыступіць да распрацоўкі тэмы соцыялістычнага будаўніцтва ў буйнай сюжэтнай паэме „Пласты“ (1932 г.), Фефер не толькі піша паэму „Грузины“ *) (1930 г.), але робіць рад яркіх творчых эксперыментаў у пошуках новых паэтычных жанраў.

*) Грузины—ускраіна мястэчка Белая царкаў.

Вонкава паэма „Грузіны" таксама распрацоўвае тэматыку соцыялістычнага будаўніцтва, з прыкметнай фабульнай наметкай, з галерэяй персанажных вобразаў. Аднак і тут фабульны касцяк ледзь-ледзь вытрымлівае цяжар вялікай страфічнай масы, слаба сцэментаванай, нічым не абмежаванай колькасці лірычных адступленняў і песеннага матэрыялу. Вобраз Рэгіны, якая пакідае асяроддзе басякоў і ўходзіць на фабрыку, некалькі сантыментальны, недапісаны. А між тым іменна гэты вобраз хаваў у сабе вялікія ідэйнасюжэтныя магчымасці, паколькі астатні вобразны матэрыял (Жоржык і Берэ), як традыцыйны тыпаж дна не мала ўжо быў абыгран у яўрэйскай (ды не толькі ў яўрэйскай) літаратуры.

Значэнне гэтай паэмы, у першую чаргу ў тым, што тут Фефер даў рад яркіх паэтычных замалёвак быта, знайшоўшы значныя запасы сакавітай яўрэйскай народнай мовы і сапраўды паэтычнай пластычнасці.

Вось некалькі строф, якія паказваюць вяселле ў асяроддзі дэкласаваных жыхароў яўрэйскага дна:

В Грузинах свадьба шла лихая,
Ребята пухли от питья,
Плясали девки, колыхаясь,
Подолы красные крутя.

. . . . . . . . . . . . . . . . .

Слепой детина струны обрывает,
По клавишам гуляет кулаком,
На жирном блюде щука заплывает
Горячим фаршем, с луком, с чесноком.

Гадают на свирепых картах щетки,
Большой диван пружинами скрипит.
Скрипят о свадьбе под шумок трещотки,
И пьяный шафер под столом вопит.

Паэма „Грузины" надрукавана ў кнізе Фефера „Соревнование" (1930 г.). У гэтай-жа кнізе надрукавана „Пісьмо Шолам-Алейхему", якое сведчыць пра ўзмоцненыя жанравыя шуканні паэта.

## IV

Паэтычны зварот Фефера к памяці вялікага яўрэйскага класіка Шолам-Алейхема, праз голавы вульгарызатараў, якія адмаўляюць культурную спадчыну, азначала, што паэт шукае выхад у вялікую рэалістычную паэзію, паэзію вялікіх соцыяльных абагульненняў.

Но строки разметались как то вихрем
И рифмы легкие бунтуют,

так пісаў паэт, з цяжкасцю перамагаючы лёгкую паэтычную скарагаворку, якая стала пагражаць яму ў гэтыя гады.

Чаго-ж шукаў у Шолам-Алейхема Фефер? Ён шукаў у яго тайну смеха. Феферу, зразумела, патрэбен смех па меркаваннях

іншых, чым Шолам-Алейхему, соцыяльнага парадку, у другой гістарычнай абстаноўцы:

Где путей не сыщут пули,
Где лазейки нет штыку
Смех да встанет в карауле,
Смех да будет на чеку.

Зноў, як і ў першыя гады сваёй паэтычнай дзейнасці, Фефер уступае ў вострую літаратурную палеміку з прыхільнікамі нацыяналістычнай „чистой лирики“ і фармалістычных выкрутасаў. Зброю смеху Фефер накіроўвае супроць мяшчанскіх архіўных пацукоў ад мастацтва, супроць коснасці быта, супроць нацыяналістычных псеўда-вучоных, супроць усякіх ворагаў совецкай краіны.

Так выроставаюць сатырычныя частушачныя вершы, памфлетны вершаваны фельетон, гумарыстычна-смехатворная навела Фефера. Побач з „Письмом Шолом—Алейхему“ трэба адзначыць такія сатырычныя вершы, як „Втроем“, „Песня о Хирине“, „Летней ночью“, „В музее“, „Фантастическое путешествие“ і інш. У гэтых вершах Фефера выяўляецца майстэрства сатырыка і палітычнага памфлетыста. Не саромячыся дробнабуржуазных эстэтаў, Фефер адкрыта прызнаецца ў сваёй паэтычнай залежнасці ад сатырычных куплетаў Беранжэ (верш „Летней ночью“). Ён не грэбуе раешнікам эпіграмай, вершаванымі лозунгамі, частушкамі, следуючы ў даным выпадку традыцыям палітычнай паэзіі Маякоўскага. Усё пушчана ў ход для таго, каб паставіць паэзію на службу штодзённай класавай барацьбе пролетарыята і востры памфлет і іронія, пародыя і шарж. Кніжка, якая выйшла ў 1931 г. „Плакаты на бронзе“ палемічная ўжо адным сваім загалоўкам. Фефер ненавідзіць акадэмічнае выхалашчанае „бронзы многопудье“, якое душыць жывое жыццё, жывое рэволюцыйнае мастацтва.

У вершы „Так пел бас“, Фефер паказвае лёс гэтай „бронзы“, якая ахоўваецца ільвамі „у лестниц крутых“. Гром Кастрычніка развеяў у прах панска-буржуазную бронзу. Бронзавыя ільвы разляцеліся на кавалкі.

День пробивался сквозь отзвуки грома...
Гибели львов не оплакав, старик—
Сторож соседнего барского дома—
Продал остатки тяжелые их.
Львов по дешевке взял старый Евбаз...
Так пел торжествующий бас.

Загаварыўшы „торжествующим басом“ Фефер прапануе заклеіць бронзу плакатамі і замяніць „лирическое щебетанье“ „острым политическим стихом“.

Супроцьстаўляючы свае зубастыя, сатырычныя строфы „лирическому щебетанью“ ўсялякіх „лягушечьих“ па выразу Горкага, паэтаў, Фефер тысячу разоў меў рацыю. Аднак, нельга прайсці міма таго, што іменна ў гэты час Фефер дзе-ні-дзе ўпадае ў агульнае адмаўленне лірыкі. Гэты знарок падкрэслены антылірызм прарываецца не толькі ў асобных палемічных вершах, але і мясцінамі, у апошняй буйнай паэме Фефера „Пласты“ (1932 г.). Гэта прыводзіць паэта к раду паэтычных зрываў. Пагоня за вострай,

злабадзеннай тэмай, дзе-ні-дзе ідзе за кошт паэтычнай распрацоўкі матэрыялу. Публіцыстычная схема кідаецца ў вочы ў некаторых вершах Фефера гэтага перыяду. Чуласць майстра падказвала паэту шкоднасць гэтых антылірычных настрояў. Лепшыя вершы Фефера апошніх год—гэта іменна лірычныя вершы. Гэта не „лирическое щебетанье“—гэта лірыка новых чалавечых ідэй і жаданняў—лірыка соцыялістычнага чалавека. Лірыкай авеяны лепшыя раздзелы паэмы „Пласты“.

У гэтай паэме, прысвечанай соцыялістычнай рэканструкцыі Данбаса, не мала было жаданняў грымець жалеза-бетоннай лірыкай, тэхніцызмам. Фефер наадварот, усімі сродкамі ўзмацняе лірычны акцэнт паэмы.

Вось строфы, якія ўваходзяць у паэму маладога шахцёра, які прышоў з вёскі.

Пастух белокурый из „Новой Громады“—Панасик
Последнюю песнь на свирели пропел в полнолунье
С коровою рыжей печально простился Панасик,
Бодливым бычкам прошептал „до свидания“ Панасик
Отца и ячейку и смуглое золото клуни
Однажды покинул пастух белокурый Панасик.

Страшил его город, простор был велик и неясен,
И шахты пугали своей глубиной дерзновенной...
Но дали наказ ему:
„Слушай, товарищ Панасик,
Ты станешь забойщиком
В угольных шахтах Донбасса,
Ты станешь добытчиком
Черного солнца вселенной“.

Народнай рамантыкай авеяны раздзелы, прысвечаныя мінуламу Данбаса, легенда аб першым „добытчике черного солнца вселенной“. Сакавітыя дыялагі. Чалавечай цяплынёй сагрэты шахцёрскія будні.

Удала ў стылі народнай частушкі зроблены гратэскныя маскі бюракрата і „летунов“—Пікова і Шпікава.

Іменна гэта, а не бедная фабула з традыцыйным выбухам у шахце складае сілу гэтай паэмы.

Таксама лепшымі з апошніх вершаў Фефера (надрукаваных у зборніку „Да здравствует жизнь“, 1934 г. і ў перыядычных выданнях) з'яўляюцца, побач з сатырычнымі вершамі, лірычныя вершы.

Вельмі паказальны ў гэтых адносінах вершы Фефера пра чэлюскінцаў. Гэтыя вершы авеяны сапраўднай чалавечнасцю, народнай лірыкай.

Скрылся и последний
В снеговой пороше
Лишь один остался—милый нам хороший.

. . . . . . . . .

Будут выть метели
И пурга шаманить
Он один остался стражем в океане.

Гэта—пра трагічна-пагібшага чэлюскінца Магілевіча. А вось яшчэ на тэму пра Арктыку:

Уже готова к старту ты
Едешь в белый мрак
В дальней снежней арктике
Запрягли собак.

Боль разлуки ль скажется
Долгих слез не лей
Ведь печаль не вяжется
С красотой твоей.

І „белый мрак“ і „боль разлуки“ і „печаль“—усе гэтыя, здавалася-б, сцертыя лірычныя матывы загучалі па-новаму. Бо ніколі, як у нашыя дні і нідзе, як у нашай краіне соцыялізма горда загучэла лірычнае „я“ чалавека.

Белінскі гаварыў: „Вось таму лірызм існуючы сам па сабе, як асобны род паэзіі, уваходзіць ва ўсе іншыя, як стыхія, жывіць іх як агонь Праметэяў жывіць усе стварэнні Зевеса“...

Без лірызма эпапея і драма былі-б вельмі празаічнымі і халодна абыякавымі для свайго зместу“.

Лепшыя творы Фефера гэта тыя, у якіх у наяўнасці гэты лірызм, просты задушэўны, які карэннямі сваімі глыбока ўваходзіць у нетры народнай творчасці.

Фефер не здарма мае велізарную папулярнасць у асяроддзі яўрэйскіх чытачоў. Яны адчулі ў ім свайго. Перамог, як не раз у гісторыі літаратуры, рэалізм, у дадзеным выпадку, соцыялістычны рэалізм. Іменна, соцыялістычнаму рэалізму Фефер абавязан тым, што ён, сапраўды, набыў любоў у народа. Не толькі ў СССР, але і ў краінах капіталізма—усюды, дзе жывуць у барацьбе і працы яўрэйскія працоўныя масы, Фефера чытаюць, завучваюць, Феферу наследуюць.

На рэалістычных „простых босых песнях“ Фефера выхоўваюцца шматлікія кадры маладых паэтаў не толькі ў СССР, але ў Польшчы, Францыі, Злучаных Штатах і Аргенціне. У гэтым вельмі лёгка пераканацца, калі параўнаць рыторыкаурбаністычныя вершы з яўрэйскай рэволюцыйнай паэзіі Захада недалёкага мінулага і апошнія вершы такіх паэтаў Захада, як Шульштэйн (Парыж), Геллер (Варшава) і інш. Уплыў атрымаўся плённым. „Простые босые песни“ дайшлі.

*А. Слабадзецкі*

# МОВА КАЛГАСНАЙ ВЁСКІ

Падобна жывому арганізму, мова нараджаецца, расце і памірае; на працягу свайго існавання яна праходзіць шэраг эвалюцый і рэвалюцый, засвойваючы і адкідаючы словы, моўныя комплексы і граматычныя формы" (П. Лафарг. „Французский язык до и после революции", стар. 19, выдан. „Академия", 1930 г.)

Кастрычніцкая соцыялістычная рэволюцыя ўнесла такія карэнныя класавыя зрухі і такія гіганцкія змены ў эканоміку, культуру, быт і ў мову працоўных СССР, якіх не ведала да гэтага часу гісторыя.

Змены ў мове працоўных—вынік новых грамадскіх адносін у нашай краіне. Факт існавання Совецкага Саюза, у якім паспяхова будуецца бяскласавае соцыялістычнае грамадства, унёс жыватворчы струмень у развіццё моў усяго свету, папаўняючы сусветны слоўнік новымі, агульна-прынятымі сусветнай літаратурай і друкам словамі совецкага паходжання.

Рэволюцыя з'явілася вялікай творчай сілай у галіне мовы. Новыя грамадскія адносіны асабліва яскрава адбіліся ў мове ўзыходзячага класа, класа—творцы гэтых грамадскіх адносін. Рабочы клас пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі на чале з Леніным і Сталіным, у працэсе барацьбы за ўстанаўленне і ўмацаванне дыктатуры пролетарыята, перарабляў сваю мову. Мова рабочага класа стала адным з магутных сродкаў барацьбы супроць паразітычных класаў. У лексіку рабочых і працоўнага сялянства з першых-жа дзён рэволюцыі ўвайшло цэлы рад новых слоў, спалучэнняў, выразаў, народжаных вялікай пролетарскай рэволюцыяй, старых слоў з новымі значэннямі, а таксама слоў, створаных буржуазнай рэволюцыяй канца XIX стагоддзя ў Францыі.

Адначасова рабочы клас пачаў з першых-жа дзён рэволюцыі вызваляць сваю мову ад шалупіння, чужой пролетарыяту мовы, замяняючы яе элементамі рэволюцыйнага дзейснага характару.

Для паспяховай мабілізацыі пролетарыята і шырокіх пластоў працоўнага сялянства на барацьбу з буржуазіяй і памешчыкамі,

комуністычная партыя на чале з Леніным і Сталіным аддавала выключна велізарную ўвагу пытанням мовы. Кіруючая роля В. І. Леніна ў гэтай справе нявымерна вялікая.

Выкрываючы варожую мову, Ленін заўсёды патрабаваў ад большэвікоў-прамоўцаў чоткасці, прастаты і даступнасці іх мовы шырокім працоўным народным масам. Пад уплывам стыля мовы Леніна афармляліся і развіваліся рэволюцыйна-дзейсныя элементы мовы пролетарыята. Гэтую мову ў працэсе рэволюцыі і будаўніцтва соцыялізма ўспрыймала і паспяхова засвойвала перадавая частка працоўнага сялянства.

З новатвораў, кроўна звязаных з барацьбою за новы лад, пакажам на галоўныя словы, вядомыя ўсяму свету. Да такіх слоў—слоў, якія твораць новую эпоху грамадскага развіцця, належаць: „совет“, „большэвік“, „рэўком“, „комбед“, словы іншамоўнага паходжання: „дыктатура пролетарыяту“, „соцыялізм“, „комунізм“, і цэлы шэраг іншых. Гэтыя словы ўвайшлі ў лексіку не толькі гарадскога насельніцтва, але і насельніцтва вёскі. Але розныя класы і класавыя праслойкі па-рознаму ўспрыймалі гэтыя словы, выказваючы гэтым свае адносіны да пролетарскай рэволюцыі.

Аб новых словах, якія хутка засвойваліся не толькі ў СССР, але таксама і за граніцаю, В. І. Ленін казаў наступнае: „Паглядзіце, як распаўсюджваюцца ва ўсім свеце нашы ўродлівыя словы накшталт слова „большэвізм“. Не гледзячы на тое, што мы называемся партыяй комуністычнай, што назва „комуніст“ з'яўляецца навуковай, агульна-еўрапейскай, яна ў Еўропе і другіх краінах менш распаўсюджана, чым слова „большэвік“. Наша рускае слова „Совет“— адно з самых распаўсюджаных, яно нават не перакладаецца на іншыя мовы, а ўсюды вымаўляецца па-руску“. (В. І. Ленін. „Прамова на ўрачыстым паседжанні маскоўскага совета, прысвечанага гадавіне III Інтэрнацыянала,“ 6 сакавіка 1920 г., творы т. XXV, стар. 72*).

Неабходна сказаць, што з пачатку рэволюцыі многія сяляне падзялялі разуменне слоў: большэвік і комуніст. Першаму слову іншы раз прыпісвалася разуменне актыўнага рэволюцыянера з асяроддзя рабочых альбо бяднейшых сялян; другому слову прыпісвалася разуменне члена РКП (б). Першае слова азначала прадстаўнік большасці, г. зн. рабочага класа і працоўнага сялянства ў процівагу меншавікам—прадстаўнікам меншасці, г. зн. буржуазіі і памешчыкаў.

Побач са словамі, створанымі ў агні класавай барацьбы, рабочы клас, рэволюцыйнае сялянства хутка засвоіла мноства тэрмінаў і спалучэнняў замежнага паходжання. Гэтыя тэрміны сталі зразумелы рабочаму класу і працоўнаму сялянству. Так словы „комуніст“, „соцыялізм“, „комуна“, „дыктатура пролетарыята“, „канферэнцыя“, „пленум“, „рэгламент“ і цэлы шэраг іншых слоў увайшлі ў гутарку працоўных з часу іх актыўнага ўдзелу ў рэволюцыйнымператварэнні грамадскага ладу ў нашай

* Леніна цытую па II выданню—А. Слабадзецкі.

краіне. Гэтыя словы зразумелы без перакладу не толькі рабочым, але і калгаснаму сялянству. Вось што сказаў Ленін па гэтаму поваду: „Дыктатура пролетарыята!—да гэтага часу гэтыя словы былі для масы латынню. Дзякуючы распаўсюджанню сістэмы советаў па ўсяму свету, гэтая латынь перакладзена на ўсе сучасныя мовы; практычная форма дыктатуры знойдзена рабочымі масамі". (В. І. Ленін, „Прамова пры адчыненні першага Кангрэса Комуністычнага Інтэрнацыянала" творы т.24, стар. 5).

Слова „соцыялізм" узнікла ў англійскай і французскай літаратуры ў 30-х г. г. XIX ст., а праз стагоддзе гэтае слова знамянуе сабою грамадска-эканамічную фармацыю ў вялікай краіне Советаў..

Кожны новы крок па шляху ўмацавання дыктатуры пролетарыята, у барацьбе за ажыццяўленне бясклясавага соцыялістычнага грамадства суправаджаўся творчасцю новых ідэй, песень, слоў, у якіх яскрава адлюстроўваюцца змены ў свядомасці рабочага класа і працоўнага сялянства. Але для таго, каб дабіцца пералому ў свядомасці большасці працоўных і сялян, рабочаму класу, пад кіраўніцтвам сваёй комуністычнай партыі трэба было прарабіць велізарную падрыхтоўчую работу ў вёсцы, пачынаючы з экспрапрыяцыі буйных землеўласнікаў, абмежавання кулацтва і арганізацыі камітэтаў беднаты для барацьбы з кулацтвам і давядзення справы да ліквідацыі кулацтва як класа, на аснове суцэльнай калектывізацыі.

Камбеды—арганізацыі пролетарскіх і паўпролетарскіх элементаў у вёсцы, з першага дня свайго існавання дапамагалі совецкай дзяржаве весці барацьбу з кулацтвам, якое спекулявала на голадзе і пераганяла хлеб на самагон, каб не даць яго гораду і Чырвонай арміі. З камбедаў арганізаваліся групы ў дапамогу прадавольственым атрадам. Словы—„камбеды", „прадатрады", „самагон", „мяшочнік",—з'яўляюцца новымі, але калі першыя два словы адлюстроўвалі пазітыўную ролю ў справе давядзення пролетарскай рэволюцыі ў вёсцы да канца, дык апошнія два словы, як і цэлы шэраг другіх слоў, напрыклад, „абрэз", „сабатаж", „спекулянт", „нэпман" і інш. з'яўляюцца праяўленнем супраціўлення выходзячага класа новаму строю.

Мова з'яўляецца ў перыяд рэволюцыі асабліва вострай зброяй класавай барацьбы. З прычыны таго, што ў кастрычніку 1917 г. пролетарыят аказаўся пераможцам, у яго распараджэнні апынуліся ўсе дзейсныя функцыі мовы, разбураючай рэшткі старога грамадства і ствараючай новы грамадскі лад. Тым не менш, як гэта мы ўбачым далей, буржуазныя класы ў нашай краіне імкнуліся ўсямерна прытупляць мову, як сродак барацьбы за новы грамадскі лад. Гэтае прытупленне праходзіла па лініі скажэння новых слоў, высмейвання новага—совецкага. Такія словы, як „камбеды", „большэвікі",—з аднаго боку, „буржуй" і іншыя падобныя—з другога боку па рознаму ўспрыймаліся і выказваліся прадстаўнікамі розных класаў. Экспрэсіўна-эмацыянальная афарбоўка хоць-бы новага слова „камбед" у вымаўленні актыўных прадстаўнікоў узыходзячага класа—класа-пераможца была

зусім іншая, чым у яго супрацiўніка—буржуазii. В. І. Ленін паказваў як хваравіта успрыймалі сяляне—серадиякі слова „буржуй". „Гэтае слова яны (серадиякі—*А. С.*) называюць ганебным; мне давялося чуць ад селяніна, які скардзіўся на цяперашнія парадкі, яўным чынам не спачуваючага палітыцы совецкай улады ў галіне прадавольствія і шэрагу іншых пытанняў, які быў пакрыўджаны, што з боку вясковай беднаты пра яго кажуць „буржуй". Я, кажа, не магу паміррыцца з тым, што такое ганебнае слова ўжываюць у адносінах да мяне; і тая акалічнасць, што гэта слова сяляне,—нават больш буйныя серадиякі, калі яны самі працавалі і ведаюць, што значыць зарабіць хлеб сваёй працай, і калі бачылі эксплаатацыю памешчыка і капіталіста, а гэта ўсе бачылі, не могуць гэтае слова не прызнаваць ганебным, гэтае слова азначае ўсё: на ім заснавана наша прапаганда, агітацыя, дзяржаўнае уздзейнічанне рабочага класа. Іменна гэтае падтрыманне сялянскіх мас, не гледзячы на супроцьдзеянне заможнай і спекулянцкай масы, забяспечана рабочаму класу". (В. І. Ленін, „Прамова на IV усерасійскім з'езде рабочых швейнай прамысловасці". Творы т. 26, стар. 155).

Слова „таварыш", атрымаўшае пасля рэволюцыі новы сэнс, больш шырокае значэнне, таксама па рознаму ўспрыймалася і вымаўлялася прадстаўнікамі розных класаў. Кулакі, нэпманы, буржуа—вымаўлялі слова „таварыш" іранічна. Але ў вуснах працоўных слова таварыш гучыць любоўна і горда. Рабочыя і працоўныя сяляне называюць словам таварыш кожнага сумленнага грамадзяніна свайго класа. Паўночныя сяляне („Северная Двина") нават склалі казку аб слове „таварыш". У гэтай казцы аддаецца перавага слову „таварыш", перад словам „гаспадзін", бо слова „таварыш"—„цяжэй за золата" (гл. „Известия" за 18/III—35 г. № 67).

Слова „таварыш"—супроцьлеглае слову „гаспадзін". Такія словы, як „буржуй", „кулак", „міраед", „крывасос", „паразіт", „нэпман", „нэпач" „спекулянт", „гандляр", „падкулачнік", „кулацкі падпявала" і многія іншыя ў працоўных выклікалі нянавісць да тых, што цягнуць краіну да старога і гатоўнасць змагацца з класавым ворагам.

Кулацтва асабліва варожа сустрэла словы: „комуніст" „большэвік", „камбед", „комсамолец", „комуна", „калгас", „хата-чытальня" і інш. Гэтыя словы, народжаныя эпохай рэволюцыі і соцыялістычнага будаўніцтва, падпалі скажэнню і высмейванню з боку кулакоў, а творцы-носьбіты гэтых слоў—тэрару. Скажэнне новых рэволюцыйных слоў было адным з актыўных сродкаў кулацтва і нацдэмаў у барацьбе з совецкай уладай.

Але кулацтва і ўсе класава-варожыя элементы разгромлены. Соцыялізм перамог не толькі ў горадзе, але і ў вёсцы. Пролетарыят прынёс працоўным вёскі не толькі вызваленне ад памешчыка і кулака, але ён прынёс і сваю культуру, новыя ідэі, новыя словы.

Асабліва многа з'явілася новых слоў, бурна развіваецца народная творчасць, у сувязі з індустрыялізацыяй нашай вёскі і калек-

тывізацыяй сельскай гаспадаркі. Такія новыя словы, як „трактар“, „камбайн“, „трактарыст“, „камбайнер“, „тэхмінімум“, „палітэхнізацыя“, „тэхэкзамен“, „стратастат“, „днепрагэс“, увайшлі не толькі ў мову жыхароў горада, але таксама і калгаснікаў. Калгаснае будаўніцтва з'явілася магутным штуршком у справе стварэння велізарнай колькасці новых слоў, новых песень, прымавак, пагаворак і г. д. Соцыялістычная рэканструкцыя вёскі паказана ў такіх словах, як „калгас“, „калектывізацыя“, „калгаснік“, „калектывец“, „праўленне“, „праўленец“, „праўленка“, „арганізацыя прыліва“, „прыліўшчык“ (Аршанскі раён), „ударнік“, „ударная брыгада“, „брыгадзір“, „брыгадзёрка“ (Слуцкі раён), „палявая брыгада“ „агародная брыгада“, „садаводчаская брыгада“, „палявод“, „вучотчык“, „рахункавод“, „намеснік па ільну“, „стаханавец“, „зямля на вечна“, „сталінскі статут“ і цэлы шэраг іншых слоў і спалучэнняў.

Да пытанняў арганізацыі працы адносяцца словы: „план“, „пасеўны“, „уборачны“,—„календарны план“, а чалавек, які працуе прытрымліваючыся календарнага плана,—„календарнік“ (Дзержынскі раён).

Барацьба за высокую прадукцыйнасць працы, як у колькасных, так і ў якасных адносінах выклікала цэлы шэраг заахвочваючых мер, у выглядзе прэмій, падарункаў, грамат і г. д. Створаны такія новыя словы і спалучэнні: „чырвоны сцяг“, „пераходны сцяг“, „чырвоная дошка“, адсюль, вытворнае „чырвонадошачны“, „чырвонасцяжны“, „грамата“, „прэміраваны“, „перадавік“ „лепшы ўдарнік“, а ў процівагу ім „лятун“, „рагожнік“, „чарапашнік“, „зрыўшчык“, якія ганьбуюць лодыраў, прагульшчыкаў, што злачынна адносяцца да соцыялістычнай вытворчасці.

З другіх новых слоў, якія ўзніклі ў барацьбе за высокі ўраджай калгасных палёў адзначым такія: „аграмінімум“, „агратэхніка“, „агратэхэкзамен“, „яравізацыя“, „пратраўліванне“ насення „пяцісотніца“, „тысячніца“, „інспектар па якасці“ і інш. Не ўсе з прыведзеных слоў з'яўляюцца новымі, але яны з'яўляюцца роднымі для калгаснікаў, яны іх па новаму разумеюць і выказваюць з новым эмацыянальным гучаннем.

З пранікненнем арганізаванасці, планавасці і культурнасці ў вытворчае жыццё калгасаў знайшлі прымяненне такія словы, якія не мелі месца ў жыцці аднаасобніка, бедняка альбо серадняка. Спачатку словы гэтыя іншы раз выказваліся не зусім правільна. Так тав. Кагановіч на з'ездзе калгаснікаў ударнікаў прыпамінаў аб адным старшыні перадавога калгаса. Гэты старшыня паказваў тав. Кагановічу: „Вось у мяне астача, прыбытку ў мяне столькі-то“. Па вучонаму гэта называецца сальдо і баланс, а ў яго па свойму выходзіць: замест баланса, ён кажа „баланец“. (Л. Кагановіч, прамова на першым усесаюзным з'ездзе калгаснікаў-ударнікаў 16 лютага 1933 г.).

Мы маглі-б прывесці цэлы шэраг слоў, якія з першых дзён свайго з'яўлення часам вымаўляліся калгаснікамі няправільна. Напрыклад замест слова „антэна“, кажуць „антэнта“, замест слова „канцэрт“, „концэнтр“ (Смалявіцкі раён). Але гэтыя моманты не адыгрываюць вялікай ролі, бо пры тым культурным уздыме,

якім ахоплена калгасная вёска за апошнія гады, няправільнае вымаўленне новых слоў з кожным годам памяншаецца.

..."Калгаснае будаўніцтва ёсць не толькі гаспадарча-практычная, але велізарнай палітычнай і грамадскай значнасці культурная справа. Гэта сродак калектыўнага зруху рэволюцыйнай змены мыслення мас, перахода альбо скачка на новае мысленне." (Акадэмік Н. Я. Марр, выбраныя работы, т. III, "Мова і грамадства", стар. 104, ГІЗ, 1934 г.).

Спынімся таксама на словах, якія адлюстроўваюць змены ў культуры, у быту, у свядомасці калгаснікаў. Бурны рост соцыялістычнай культуры калгаснай вёскі нарадзіў цэлы шэраг зусім новых палітыка-асветных і культурных устаноў, аб якіх забітая, цёмная дарэволюцыйная вёска не мела ніякага ўяўлення. З'явіліся новыя словы "хата-чытальня", "хатнік", "нардом", "клуб", "дом соцкультуры", "дом калгасніка", "культурнік", "фізкультурнік" і інш. У гэтых словах адлюстраваны клопаты нашай партыі і ўрада аб культурным жыццёрадасным і здаровым маладым пакаленні. Увайшлі ў быт калгаснай вёскі і такія словы: "спорт", "футбол", "валейбол", "тэніс", "лыжнікі" "лыжныя вылазкі", "веласіпед", "велагонкі", "кракет", "гарадкі", "алімпіяда", "спартакіяда" і інш. Пры клубах ёсць секцыі: шахматная, шашачная, якія наладжваюць "турніры".

Пры клубах працуюць шэраг другіх спартыўна-абароннага характару гурткоў, а іменна: "стралковы", "планерны", "парашутны", "ГТО" "ПВХО"; людзей, якія займаюцца ў гэтых гуртках называюць: "варашылаўскі стралок", "парашутыст", "планерыст", "планершчык" (Аршанскі раён); таксама працуюць гурткі замежных моў, кройкі і пашыўкі, фота, харавыя, драматычныя, музычныя; праводзяцца спектаклі, канцэрты, інсцэніроўкі, рэпетыцыі. Часта прыязджае "кіншчык" (кіномеханік). У калгасе наладжваюцца кіносеансы, працуюць бібліятэкі, якія накіроўваюць на палі культфургоны з кнігамі, часопісамі і газетамі.

Пры ўдзеле настаўніка, бібліятэкараў арганізуюцца літгурткі, якія ў сваю чаргу наладжваюць "літпаходы", "дыскусіі" па прачытаных асобных творах, змагаюцца за літмінімум калгаснікаў. У калгасах наладжваюцца "культпаходы".

Палепшылася сувязь у калгасах. Многія калгасы маюць тэлефоны, радыё, паштовыя аддзяленні і пісьманосцаў.

Выпускаюцца насценныя газеты "сцяноўкі", "іллічоўкі", "шматтыражкі" і палявыя газеты ў час палявых работ.

Наладжваюцца "палітбяседы", "чыткі", "палітбаі", а тыя людзі, якія праводзяць палітбяседы называюцца "бяседчыкамі".

У выніку паляпшэння культурна-бытавых умоў калгаснікаў, у лексіку ўвайшлі такія новыя словы: "туалет", "рукамыйнік", "спецвопратка", праводзіцца "санмінімум".

Асабліва вялікія змены ў бытавых умовах калгасніц-матак. З'явіліся "дзіцячыя сады", "яслі", адсюль—"яслёнак" (дзіця, якое знаходзіцца ў яслях).

"Інтэрнаты" або агульнае памяшканне, а таксама "сталоўкі" са

штатам пavaроў, кухарак, афіцыянтаў, арганізованы не толькі для дарослых, але і для дзяцей.

Палепшылася медыцынскае абслугоўванне калгаснікаў. У сувязі з абязбольваннем родаў з'явілася новае слова „бязбольшчыца“, гэта значыць жанчына, якая нарадзіла без болю.

Дзеці выхоўваюцца ў культурных, здаровых і вясёлых абставінах. Да іх прыстаўлены настаўнікі, урачы, нянькі. Дзеці піонерскага ўзросту маюць сваіх піонерважатых, звеннявых і г. д. Побач з узнікненнем шэрагу слоў і замацаваннем іх у літаратуры, клопаты аб людзях, аб шчаслівай совецкай сям'і не толькі нараджаюць новыя словы, але таксама раз і назаўсёды выкрэсліваюць такія словы, як „незаконнанароджаны“. Адміраюць дзесяткі і сотні слоў рэлігійнага культа, забыты словы, якія ўслаўлялі прадстаўнікоў абсалютызма і класаў эксплаататараў.

Зжыванне беспрытульнасці ў нашай краіне дазволіць хутка здаць у архіў слова „беспрытульны“ і мноства іншых слоў.

У барацьбе за ўсеагульную пісьменнасць не толькі дзяцей, але і дарослых працавалі „лікпункты“, „лікбезы“, а настаўнікі, якія працавалі на лікпунктах называліся „ліквідатарамі“. У другіх мясцовасцях рух за ўсеагульную пісьменнасць выяўляўся ў слове „усеабуч“, а людзі, мабілізаваныя для правядзення ў вёсцы культуры, называліся „культармейцамі“.

Замест старых слоў „хрысціны“, „вяселле“—з'явіліся новыя словы: „акцябрыны“, „чырвонае вяселле“. Ужо не ў царкву, а ў загс ідуць афармляць шлюб. На вяселлі замест старых каравайных і другіх вясельных песень пяюцца новыя рэволюцыйныя песні, песні аб шчаслівым калгасным жыцці.

Таксама выйшлі з ужывання словы, якія адносяцца да тых, што вянчаюцца: „князь“ і „княгіня“ і інш.

Нованароджаным даюць імёны правадыроў і настаўнікаў працоўных: Энгельсіна, Леніна, Нінэль, Кіма і інш.

Цэлы шэраг калгасаў, школ і інш. культурнаасветных устаноў названы імем Маркса, Энгельса, Леніна і Сталіна.

Найбольш магутны прыліў творчасці, як у галіне фальклора, так і ў галіне мовы пачынаецца ў выніку паспяховага выканання першай і разгортвання другой пяцігодкі, калі ў соцыялістычным сектары сельскай гаспадаркі стала пануючай машынная тэхніка і соцыялістычныя метады працы.

З'яўляецца цэлы рад новых тэрмінаў, якімі называюцца сродкі вытворчасці, сама вытворчасць, формы і віды соцыялістычнай гаспадаркі наогул.

Ад таго, што ў нас кожны атрымлівае зарплату па працы, з'явілася слова „працадзень“, „вага працадня“. Калгаснікі вывучаюць сельскую гаспадарку на навуковай аснове. Для гэтага ў калгасах арганізаваны хаты-лабараторыі, дзе вывучаюць законы „яравізацыі“, „селекцыі“, здаюць „агрworld мінімум“, „зоамінімум“, „агратэхэкзамен“ і т. д. У калгасах знаёмяцца з матэрыяльнай часткай трактара, з яго работай і маркамі: „Фардзон“, „Інтэр“ (Інтэрнацыянал), „Клетрак“, „Катэрпілер“, „Універсал“, а таксама інш. сельска-гас-

падарчыя машыны, як „камбайн“, „ільноцерабілка“, „касілка“, „малатарня“, „трыер“ і інш.

У сельска-гаспадарчай вытворчасці адбылася рэвалюцыя. Масы калгаснікаў вылучаюць з свайго асяроддзя кваліфікаваных работнікаў: трактарыстаў, камбайнераў, матарыстаў, машыністаў, аб якіх складаюцца і спяваюцца песні і частушкі.

Сталінскія клопаты аб людзях зрабілі ўплыў на творчы і вытворчы ўздым, як сярод рабочага класа, так і сярод калгаснікаў. Соцыялістычныя метады працы сталі справай гонару і геройства калгаснай вёскі. Ужо не „суботнікі“, якія праводзіліся час-ад-часу, не „штурмы“, а штодзённая ўдарная праца на аснове соцспаборніцтва. Стаханаўскі рух з'яўляецца асноўнай формай свядомых адносін калгаснікаў да працы.

Аднаасобнік вёскі Казацкія Балсуны, Свяцілавіцкага раёна т.Максіменка вясной 1933 г. піша: „Прашу праўленне калгаса прыняць міня ў члены вашага калгаса, так як я надта зацікавіўся работай соцыялістычнага метада“. (З матэрыялаў фальклорнай экспедыцыі Акадэміі Навук БССР, 1935 г.) Аднаасобнік з радасцю пераходзіць у рады калгаснікаў. Ён абагульняе частку сваёй маёмасці, якая становіцца калгаснай маёмасцю. Калгасная маёмасць ахоўваецца калгасным вартаўніком. Слова „калгасны вартаўнік“ і „калгасная маёмасць“ не тожсамыя старым словам: „вартаўнік“ і „маёмасць“. У новыя словы ўкладзен зусім новы соцыяльны сэнс.

Лепшыя з лепшых ударнікаў калгаса становяцца „знатнымі людзьмі“.

Гэтыя перадавыя людзі соцыялістычнай вытворчасці, знатныя людзі, выдатнікі былі вястунамі магутнага стаханаўскага масавага руху, які ахапіў у 1935 г. усю Савецкую краіну. Ужо не адзінкі, а цэлыя змены, заводы, цэлыя брыгады і калгасы працуюць па-стаханаўску. Стаханаўскі рух—вынік таго, што жыць стала лепш, жыць стала весялей. Буржуазны амерыканскі часопіс „Тайм“ піша, што СССР „павялічыў сусветны слоўнік многімі словамі, апошнія з новых слоў, якія атрымалі сусветнае прызнанне—гэта стаханаўскі рух“.

Побач з новымі словамі „выдатнік“, „стаханавец“ па-новаму асэнсованы старыя словы: „заможны“, „заможнік“ і інш., якія выразна прагучэлі як сучасныя.

Але велізарныя поспехі калгаснага будаўніцтва натыкаліся на бясконца жорсткія класавыя сутычкі калгаснікаў з кулацтвам і ахвосцем буржуазна-памешчыцкага ладу. Кулакі ў сваёй барацьбе супроць савецкай улады, пачынаючы ад падпалаў калгаснай маёмасці, драпежнага знішчэння збожжа і жывёлы, даходзілі да фізічнага знішчэння найбольш актыўных савецкіх работнікаў. Кулакі таксама імкнуліся ўбіць клін паміж калгасным і аднаасобным сялянствам. Для гэтага кулакі выкарыстоўвалі і мову. Аднаасобнікаў—заўтрашніх калгаснікаў кулакі абзывалі „індусамі“, „індыкамі“, „недабойкамі“, „няздольнікамі“, „нехацімцамі“, „выхадзімцамі“ (тых што выходзілі з калгаса) і іншымі падобнымі словамі (Дзержынскі і Аршанскі раёны).

Гэты прыклад слоўнай траўлі кулакамі працоўных аднаасобнікаў прышчапляўся дзе-ні-дзе несвядомым калгаснікам (гл. „Суседзі“

Замойскага). „Таму з'езд абавязвае ўсе партыйныя арганізацыі дабіцца таго, каб у ўзаемаадносінах калгаснікаў з аднаасобнікамі ўстанавіліся правілы: не цкаваць аднаасобнікаў, а дапамагаць ім і ўсяляк прыцягваць іх да калгасаў". (З матэрыялаў XVI з'езда ВКП(б).

Кулакі ўсяляк адпомшчвалі аднаасобнікам, якія ўступілі ў калгас, дабіваючыся іх выхаду з калгаса. Так, у вёсцы Відуйцы Касцюковіцкага раёна арандатар млына адмовіўся малоць жыта калгасніку: „Ідзеце малоць у комунію". Усеагульнае навучанне працоўных, альбо скарочана „ўсеабуч" кулакі перарабілі ў „самамуч", індывідуальны падатак—у „надувальны падатак", „самаабавязацельства"—у „саманадувацельства" і інш. (УССР, Нова-Ушацкі раён).

Ліквідацыя кулацтва як класа на аснове суцэльнай калектывізацыі палажыла канец скажэнню новых слоў. Мова калгаснікаў, вызваляючыся ад варожай накіпі, робіцца ўсё больш і больш культурнай і багатай.

На аснове вучэння Леніна—Сталіна аб мове праводзіцца энергічная барацьба са смеццем блатной гаворкі, з непатрэбнымі і незразумелымі скарочаннямі слоў. У гэтай барацьбе за культуру мовы прымаюць удзел усе працоўныя, пачынаючы ад пісьменнікаў і вучоных, мовазнаўцаў і канчаючы рабочымі і калгаснікамі, якія павышаюць свой культурны і палітычны ўзровень. Такія сумбурныя скарочаныя словы і выразы, як „мобсродкі" (мабілізацыя сродкаў), „БКТ", „СКТ", а таксама словы блатной мовы: „на яць", „на зэкс", „на вялікі з прысыпкай" і шмат іншыя асуджаны савецкай грамадскасцю як шкодныя словы і выразы, якія псуюць багатую і прыгожую як беларускую, так і рускую мову.

Владзімір Ільіч Ленін проста-такі пратэставаў супроць псавання і скажэння рускай мовы увядзеннем незразумелых і непатрэбных замежных альбо скарочаных слоў. Вось што пісаў В. І. Ленін аб ужыванні замежных слоў: „Рускую мову мы псуем. Замежныя словы ўжываем без патрэбы. Вымаўляем іх няправільна. Дык навошта-ж гаварыць „дэфекты", калі можна сказаць недачоты, недахопы, альбо прабелы...

Прызнаюся, што калі мяне ўжыванне замежных слоў без патрэбы злуе (бо гэта затрудняе наш уплыў на масу), дык некаторыя памылкі людзей, якія пішуць у газетах, зусім ужо могуць вывесці з сябе. Напрыклад, ужываюць слова „будзіраваць" у сэнсе ўзрушваць, тармашыць, будзіць. Але французскае слова „bouder" (будэ) значыцца сердзіцца, дуцца. Таму „будзіраваць" значыцца на самай справе „сердзіцца", „дуцца". Пераймаць французска-ніжагародскае словаўжыванне значыць пераймаць горшае ад горшых прадстаўнікоў руска-памешчыцкага класа, які па-французску вучыўся, але, па-першае, недавучыўся, а па-другое, скажаў рускую мову.

Ці не час абвясціць вайну скажэнню рускай мовы? (В. І. Ленін „Аб чыстцы рускай мовы". Творы, том 24, стар. 662).

Таксама аб скарочаных словах. Леніну папалася кніжка групы „Уновіс". Яму растлумачылі, што „Уновіс" — гэта сцвярджальнікі новага мастацтва. Ён смяецца: „Ну, падумайце, таварышы, на што гэта падобна — У-но-віс? Хто гэта

зразумее?“ (З успамінаў М. Гарлоўскага, гл. „Ленин и искусство“, склалі С. Д. Дрэйдэн Тэа-кіно—друк 1929 г., стар. 113).

І. В. Сталін у размове з удзельніцай усесаюзнай нарады жонак гаспадарнікаў інжынерна-тэхнічных работнікаў тав. Марозавай М. таксама ўказаў на неабходнасць пазбягаць скарочанняў. „Я абяцала нашаму правадыру,—кажа Марозава,—што мы, жонкі ІТР, раз‘ехаўшыся на месца, пастараемся працаваць так, каб на наступнай нарадзе рапартаваць аб вялікіх справах, Іосіф Вісарыёнавіч сказаў: „Што такое жонкі „ІТР“? І чаму кажуць ІТР? Трэба казаць: „жонкі інжынерна-тэхнічных работнікаў“ (газета „Труд“ за 15 мая 1936 г. № 110).

Нябожчык А. М. Горкі—вялікі пролетарскі пісьменнік і настаўнік таксама вёў жорсткую барацьбу з засмечанасцю мовы, паразітыўным і бессэнсоўным накшталт слоў „шамаць“, „мура“, „на вялікі“, „вытурыць“. „Няма ніякіх прычын,— кажа А. М. Горкі,—замяняць слова „есці“ блатным словам „шамаць“ і наогул уводзіць у літаратуру блатную мову“. (А. М. Горкі. „О бойкости“ Літгазета № 24, 1934 г.).

Беларуская мова асабліва патрабуе на справе паслядоўнай барацьбы за чыстату і высокую культуру мовы працоўных. Многа зрабілі ў гэтым напрамку кіраўнікі нашай партыі і ўрада, якія паказалі на неабходнасць змен правапісу ў беларускай мове і выдання новага руска-беларускага слоўніка.

Контррэвалюцыйныя нацдэмы, якія сядзелі некалькі год у інстытуце мовы, замест збірання, вывучэння і ўвядзення ў слоўнік новых слоў, якія прадстаўляюць мову рэвалюцыі, соцыялістычнага будаўніцтва, уваскрошвалі старыя рэакцыйныя элементы мовы феадалаў-прыгоннікаў, элементы царкоўнай мовы, словы зусім бяссэнсавыя, а таксама замянялі агульна-прынятыя беларускім народам словы словамі польскіх памешчыкаў, словамі рускага абсалютызма, а таксама зусім неасэнсаванымі, штучна прыдуманымі словамі. Вось некаторыя словы, уведзеныя штучна ў беларускі слоўнік „мовазнаўцамі“ і „літаратарамі“—нацдэмамі тыпа Ластоўскага, Некрашэвіча і інш. Агульнапрынятае і зразумелае ўсім слова „поршань“ заменена словам „соўгач“, „ліцейны завод“—„гісэрня“, „рэвалюцыя“—„пярозрань“, „пролетарый“—„бядота“, „убоства“, „карніз“—„гзымс“ і шмат інш.

Усё гэта нацдэмы рабілі з контррэвалюцыйнай мэтай. Арыентацыя на паланізмы, мову кулакоў, мову феадалаў і царквы—усё гэта было накіравана на адрыў БССР, арганічна звязанай з вялікай сям‘ёй народаў СССР і далучэнне Савецкай Беларусі да фашысцкай Польшчы. Мова рэвалюцыі, мова партыйцаў, комсамола, рабочага класа і перадавых працоўных сялян знарок тэндэнцыйна ігнаравалася.

Нашы гады сталінскай эпохі, гады ізабілія, заможнага жыцця штодзённа наражадаюць новыя словы і песні.

Гэта народная творчасць павінна быць своечасова сабрана і вывучана для яшчэ большага абагачэння нашай мовы. Мова працоўных у адрознасць ад мовы арыстакратыі адносіцца да самых разнастайных галін чалавечай дзейнасці.

Пролетарская рэволюцыя ў нашай краіне з'яднала велізарныя масы працоўных пад сцягам Маркса—Энгельса—Леніна—Сталіна за пабудову бяскласавага грамадства. Гэтыя працоўныя народныя масы пад мудрым кіраўніцтвам партыі Леніна—Сталіна стварылі заможнае цудоўнае, вясёлае жыццё, якое апяваецца новымі бадзёрымі і вясёлымі песнямі. Пабудова комуністычнага грамадства мае на ўвазе нябачаны ў гісторыі чалавецтва творчы ўздым мас.

Свабодная праца—крыніца новых элементаў усведамлення новых слоў у краіне пераможнага соцыялізма. Эпоха соцыялізма—гэта эпоха росту і росквіту бясконца многагранвай творчасці ва ўсіх галінах чалавечай дзейнасці і ў тым ліку ў галіне развіцця мовы, перспектыва развіцця якой надзвычайна вялікая.

---

# БІБЛІЯГРАФІЯ

**„СОЛНЦЕ И ПЕСНЯ“, Андрэй Александровіч. Гослітіздат, 1936 г., цана 2 р. 50 к.**

Выхад другой кніжкі вершаў Андрэя Александровіча з друку ў Дзяржлітвыдаце, у перакладзе лепшых рускіх паэтаў, з'яўляецца безумоўна вялікім паказчыкам росту беларускае паэзіі, таксама і творчага росту паэта.

Шматмільённы чытач нашага Савецкага Саюза азнаёміцца са здабыткамі беларускае паэзіі. Вялікае значэнне ў перакладных выданнях мае якасць перакдада, бо ад майстэрства перакладчыка ў многім залежыць уяўленне чытача пра паэта.

Кніжка „Солнце и песня“ выгадна вылучаецца свaім перакладам сярод іншых кніжак, што выйшлі да гэтага часу. У перакладзе прымалі ўдзел паэты: Святлоў, Міхаіл Галодны, Павел Жэлезноў, Осіп Колычаў, Суркоў і інш. Гэтыя пераклады трэба ў асноўным прызнаць майстэрскімі.

Паэзія Андрэя Александровіча вызначаецца палітычнай завостранасцю і актуальнасцю. У зборнік „Солнце и песня“ увайшлі вершы, напісаныя паэтам за апошнія гады. Амаль усе важнейшыя палітычныя падзеі знайшлі свой адбітак у зборніку. Трэба адзначыць рознахарактарнасць вершаванага майстэрства ў паэта. У большасці лірычныя вершы, змешчаныя ў зборніку, заключаюць у сабе глыбокую, абагульняючую палітычную з'яву. Александровіч за апошнія гады адышоў ад той рытарычнасці, якая так выразна адчувалася ў яго творчасці. Імкненне паэта да філасафічнай змястоўнасці верша, шырокае выкарыстанне народнай творчасці, багацце рытмічных прыёмаў—вось што вызначае творчы рост паэта.

Зборнік „Солнце и песня“ пачынаецца вершам „Песня большевика“, у перакладзе на рускую мову Святловым. Гэты верш не страціў свае характэрнае для паэта большэвіцкай прастаты.

Моя весна! Нигде на свете
Такой весны я не найду!
Гуляют дети. Солнце светит.
Беседу с ними я веду.
И, в хороводе веселея,
Рассыплю звонкий смех и крик...
И счастлив я, и разумею—
Как счастлив тот, кто большевик!

Андрэй Александровіч ніколі не вылучае сябе з той рэчаіснасці, якая апяваецца яго вершам. Не рытарычна гучыць голас паэта ў новых вершах, а цёплай лірычнай песеннасцю аздоблены паэтычныя радкі. У гэтым якасць новай соцыялістычнай паэзіі—у непарыўнай сувязі асабовых і грамадскіх тэм:

Моя страна, моя ты песня.
Мы вместе рождены с тобой—
И мы с тобой на страже вместе
И на земле, и над землей!

Шмат вершаў у гэтым зборніку прысвечаны героіцы грамадзянскай вайны, напрыклад, усім вядомы верш „Ноч в разведке“, пераклад Міхаіла Галоднага, паказу магутнасці нашай Чырвонай арміі „Живите спокойно, народы советов“, перакладчык М. Тарлоўскі, „Парад победителей“ пераклад Ліпкіна. Ва ўсіх гэтых вершах паэт імкнецца паказаць вобраз тых, хто вадзіў у бой і заўсёды быў пераможцам—нашых слаўных палкаводцаў:

Выезд любимого нами наркома,—
Четкую рысь из Кремлевских ворот—
Салютом торжественным—рокотом
грома—
Встречает счастливый советский народ.

„Песня о Сталине“, у перакладзе П. Жэлезнова з'яўляецца гімнам таму, хто вядзе нашу краіну сонечнымі шляхамі, пад чыім кіраўніцтвам краіна балот і беспрасветнага гора ператварылася ў багаты край:

Так было. Минуло. В пожаре восстаний
Сгорели года беспросветной нужды,
Ведет нас—республику сил молодых—
Родной наш, любимый наш Сталин.

Цікавым вершам таксама з'яўляецца „Товарищ сын". Андрэй Александровіч змог у такую асабістую тэму ўкласці абагульняючы, шырока грамадскі змест. Верш атулены пачуццём бацькаўскай цяплыні:

Сыну-товарищу—ровно пять лет,
Маленькой жизни большое событие!
Мягко струится во взорах родителей
Радостью праздничной ласковый свет.
Жизнь,—мы умеем любить и растить
ее—
Сыну-товарищу—ровно пять лет!

У нас вельмі мала вершаў пра нашу ордэнаносную сталіцу. У зборніку змешчан верш „Новый Минск", пераклад Ісакоўскага, які можна лічыць найлепшым вершам пра сталіцу. Не ў агульных строфах, а ў скульптурна-мастацкіх вобразах т. Александровіч паказаў новы Менск на рубяжы з капіталістычным Захадам. Вось чым характэрны стары Менск:

Палач иль князь, иль губернатор,—
Кладу их жизни на ладонь
И проношу у каждой хаты—
Смотрите: кровь и казематы,
И тусклый ладона огонь.

У гэтых радках вялікая гістарычная праўда, якая пераконвае чытача.

Раздзел зборніка „Лирический паспорт" цалкам аўтабіяграфічны. Рознастайнасць мастацкіх прыёмаў, інтымная лірычная апавядальнасць робяць гэтыя вершы па свайму мастацкаму гучанню асабліва блізкімі для нашай моладзі. Трэба таксама адзначыць вялікую работу паэта над вершам мініатурай. Такія вершы, як „Совершеннолетие", „Голодное утро", „Навеки веков", „Встреча" узнімаюць нашу соцыялістычную лірыку на яшчэ больш высокую ступень:

Над аэродромом блестит бирюза.
Моторы гудят в ожиданьи полета.
Пилоты проходят—стальная гроза.
Разыскиваю голубые глаза
Желанного сердцу пилота.

Найбольш цікавым вершам у кнізе з'яўляецца верш „Стена бесстрашных". Гневам і нянавісцю да подлых забойцаў напоўнены радкі гэтага верша.

Отребья жалкие, они ползут во мгле,
Ползут, как гадины, по щелям и по
дырам.
Клянемся, прах врагов рассеем по
земле!
„Будь память вечная тебе, товарищ
Киров!"

У наступнай страфе паэт выказвае боль усяго шматмільённага народу, плач і жаль па любімаму правадыру:

Прими бесстрашного, прими, стена
Кремля!
О, грузной скорби марш в шагающих
колоннах!
О, черный плюш знамен, граненые
штыки!
Бушует в жилах кровь, бросая вызов
миру,
И крупная слеза легла в венок тоски
„Будь память вечная тебе, товарищ
Киров!"

Адзначаючы далейшы рост паэтычнага майстэрства Андрэя Александровіча і вялікую цікавасць выхаду кніжкі ў перакладзе на рускую мову, варта было б адзначыць і шмат слабых перакладаў Ліпкіна, Таркоўскага, Штэнберга. Нават некаторыя пераклады Святлова („Двадцать") не стаяць на належнай мастацкай вышыні.

Кніжка прыгожа выдана і добра аформлена мастаком Баранавым.

Мікола Хведаровіч.

# ХРОНІКА

**20-годдзе літаратурнай дзейнасці Всевалада Іванова.** 30 верасня пісьменніцкая грамадскасць адзначыла 20-годдзе літаратурнай дзейнасці аднаго з віднейшых майстраў слова—пісьменніка *Всевалада Вячэслававіча Іванова.*

У доме савецкага пісьменніка адбылося пашыранае паседжанне прэзідыума праўлення Саюза савецкіх пісьменнікаў СССР, прысвечанае юбілею Вс. Іванова.

**Прывітанне Саюза савецкіх пісьменнікаў СССР т. Вс. Іванову ў дзень 20-годдзя яго літаратурнай дзейнасці.**

Дарагі Всевалад Вячэслававіч!

Прэзідыум Саюза савецкіх пісьменнікаў вітае Вас саратніка па пяру ў дзень 20-годдзя Вашай літаратурнай дзейнасці.

Вашы надзвычайныя творы—„Бронепоезд“, „Партызаны“—вядомыя і дарагія кожнаму грамадзяніну нашай радзімы. Чытачы ўсіх узростаў і нацыянальнасцей любяць і цэняць Вас—майстра слова, інжынера чалавечых душ, вучня і друга *Аляксея Максімавіча Горкага.*

Ваша рознастайная дзейнасць у Саюзе пісьменнікаў, выдавецтвах і часопісах характарызуе Вас, як нястомнага пісьменніка грамадзяніна, непартыйнага большэвіка.

Прэзідыум адзначае Вашу работу па выхаванню маладых кадраў нашай літаратуры.

Віншуючы Вас з 20-годдзем творчай работы, прэзідыум Саюза савецкіх пісьменнікаў упэўнен, што Ваш надзвычайны талент створыць яшчэ не адну эпапею аб гераічнай барацьбе краіны Леніна-Сталіна.

Жадаем творчых поспехаў.

*ПРЭЗІДЫУМ ССП СССР.*

○ **Юбілей Ялмары Віртанен.** У пачатку кастрычніка адбудзецца юбілей народнага фінскага паэта Карэліі *Ялмары Віртанена.* Падрыхтован да выдання зборнік твораў *Ялмары Віртанена,* які выйдзе на фінскай і рускай мовах. У зборніку змешчан новы верш *Я. Віртанена* аб Сталіне. У перакладзе зборніка на рускую мову прынялі ўдзел паэты: В. Эрліх, В. Саянаў, В. Раждзественскі, Д. Выгоцкі, М. Фроман, Б. Ліхароў, Л. Папова.

Да юбілейных урачыстасцей таксама выйдзе зборнік пад назваю „Памятка“ аб Ялмары Віртанен. У гэты зборнік увайшоў артыкул *Аляксея Максімавіча Горкага,* біяграфія паэта і матэрыялы, якія характарызуюць яго 30-гадовы творчы шлях.

Рыхтуюцца юбілейныя выпускі часопіса „Рынтама“ („Сцяг“), і рускага зборніка „Карэлія“.

Карэльскія кампазітары перакладаюць на музыку вершы Я. Віртанена. Будзе напісана музыка да верша „Сталін“.

У дзень юбілея ў Петразаводску адбудзецца ўрачыстае паседжанне партыйнага і савецкага актыва разам з Саюзам пісьменнікаў Карэліі.

○ **Смерць Аллана Вісанен.** 6 верасня пасля цяжкай хваробы памёр член Саюза савецкіх пісьменнікаў Карэліі комуніст *Аллан Вісанен.*

Пяру Аллана Вісанена належыць гнеўная кніга аб экенескай турме пад назвай:—„Красная жизнь“, кніга навел аб чырвонай арміі—„Вогнішча гарыць“, кніга для дзяцей „Антэро“, п'еса „Выхадцы“ і шэраг апавяданняў і нарысаў аб соцыялістычным будаўніцтве Карэліі.

○ **Ворагі народа выгнаны з шэрагу Саюза савецкіх пісьменнікаў.** Услед за пісьменнікамі Грузіі, замаскаваўшыхся трацкісцка-зіноўеўскіх паследышаў выкрылі ў сваім асяроддзі пісьменнікі Савецкай Арменіі.

У г. Эраван на агульна-гарадскім сходзе пісьменнікаў былі прыведзены шматлікія факты ганебнай дзейнасці нацыяналісцка-трацкісцкіх элементаў, якія пранікнулі ў шэрагі савецкіх пісьменнікаў. Пісьменнікі Аразі, Абаў, Асаян, Вштуні, Дзэмірчан, Мелікян, Армен, Сар'ян Таронці і друг. расказалі аб тым, як група нацыяналістаў контррэволюцыянераў на

чале з *Д. Сіманянам* і А. Бакунцам спрабавала затрымаць рост совецкай літаратуры, імкнулася атруціць працоўных ядам нацыяналізма, якім напаўняла свае „творы".

Сход совецкіх пісьменнікаў г. Эрэван аднагалосным рашэннем выключыў з Саюза совецкіх пісьменнікаў Арменіі контррэволюцыянераў Д. Сіманяна, Алазана, Бакунца, Маары, Тотовенца, Ванадзэці і А. Норынца.

Сход асудзіў прымірэнчыя адносіны да гэтай шайкі нацыяналістаў-трацкістаў з боку сакратара Саюза совецкіх пісьменнікаў Арменіі Мкртычана і пастанавіў вывесці яго з склада праўлення саюза і зняць з работы рэдактара часопіса „Хорурдаін гракануцюн".

○ **Совецкія пісьменнікі Арменіі рыхтуюцца да XX годдзя Кастрычніка.** *Д. Дэмірчан* піша новую п'есу, прысвечаную XX гадавіне Кастрычніцкай рэволюцыі. Тэма п'есы—будаўніцтва севанскага каскада.

○ *Пісьменнік ордэнаносец Ст. Зоран* працуе над аповесцю ўзятай з жыцця нашай інтэлігенцыі.

○ *Пісьменніца З. Есаян* рыхтуе раман пад назвай „Тыя, якія не пераможаны". Матэрыялы гэтага рамана ўзяты з сучаснага жыцця Совецкай Арменіі.

Акрамя таго пісьменніца перапрацавала свой раман „Барба Хачык" і піша аповесць „Новая радзіма" з жыцця працоўных армян-эмігрантаў.

○ *Паэт Азат Вштуні* працуе над вялікім паэтычным творам „Сталін". Акрамя таго паэт рыхтуе зборнік новых лірычных вершаў, які будзе здадзены ў друк у канцы гэтага году.

*Новыя лірычныя вершы Азат Вштуні* прысвечаны шчасліваму жыццю народаў Саюза і Совецкай Арменіі.

○ *Пісьменнік Манвелян* у хуткім часе скончыць апошнюю частку аповесці „Ад векавога сна".

○ *Пісьменнік М. Армен* закончыў новую п'есу „Багатыя людзі", якую на днях здасць дзяржаўнаму тэатру. Зараз ён працуе над раманам з жыцця садаводчаскіх калгаснікаў.

○ *Паэт Г. Сар'ян* рыхтуе новы зборнік вершаў, які будзе здадзены ў друк у канцы гэтага году.

Побач з гэтым ён працуе над перакладам паэмы А. С. Пушкіна „Каўказскі нявольнік".

○ *Овік Мелікян* скончыў і хутка здасць у друк аповесць „Падзенне царыцы Тамары". Тэма аповесці—калгаснае будаўніцтва.

○ *Пісьменнік Сірас* рыхтуе раман „Выбачаны праступак". Акрамя таго ён рыхтуе для друку зборнік твораў „Усходнія сілуэты".

○ **Канферэнцыя пісьменнікаў Дагестана.** 25 верасня ў Махач-Кале адчынілася канферэнцыя совецкіх пісьменнікаў Дагестана. Канферэнцыя заслухала справаздачу праўлення Саюза С. С. П. і абгаварыла пытанне аб натуралістычных і фармалістычных скажэннях у літаратуры.

Акрамя членаў Саюза пісьменнікаў на канферэнцыю запрошаны і пачынаючыя аўтары з калгасаў, аулаў, прамыслоў і прадпрыемстваў краіны гор.

○ **Паэма „Серго Орджанікідзе".** Народны паэт Дагестана, ордэнаносец Сулейман Стальскі скончыў паэму „Серго Орджанікідзе", цэнтральная тэма якой—работа тав. Орджанікідзе ў большэвіцкіх арганізацыях Паўночнага Каўказа і Закаўказзя. На рускую мову паэму перакладае Эфендзі Капіеў.

○ **Юбілейнае выданне да XX годдзя совецкай улады.** Саюз совецкіх пісьменнікаў Грузіі падрыхтаваў да выдання двухтомнік „Дзве пяцігодкі", прысвечаны XX годдзю совецкай улады.

У юбілейным выданні ўдзельнічаюць пісьменнікі К. Лордкіпанідзе, Г. Леонідзе, С. Чыкавані і іншыя празаікі і паэты.

○ **Шота Руставелі на французскай мове.** Па рашэнню юбілейнага камітэта Шота Руставелі паэтэса Елізавета Орбеліані перакладае на французскую мову 16-ці стопным вершам, прынятым для французскіх класічных паэм, бяссмертную паэму Шота Руставелі „Вепхвіс Ткаосані". Орбеліані—аўтар заслужыўшага адабрэнне крытыкі пераклада на французскую мову вядомай паэмы Лермантава „Демон".

Пераклад „Вепхвіс Ткаосані" пачаты ёю ў снежні мінулага года, у сучасны момант перакладзена 1000 строф. Уся праца будзе скончана ў канцы гэтага году.

Да гэтага часу на заходне-еўрапейскіх мовах пераклад „Вепхвіс Ткаосані" у вершаванай форме меўся толькі на венгерскай мове і празаічны на ангельскай (поўны) і нямецкай (няпоўны) мовах.

Пераклад праводзіцца пад непасрэдным кантролем Інстытута Руставелі пры тбіліскім дзяржаўным універсітэце.

Выданне будзе багата ілюстравана і выйдзе з уступным артыкулам рэдактара пераклада праф. Нуцубідзе („Культура Грузіі ў XII ст. і Шота Руставелі").

○ **Новы пераклад „Вепхвіс Ткаосані“ на рускую мову.** 14 верасня ў Палацы пісьменнікаў адбылося абгаварэнне пераклада Шота Руставелі „Вепхвіс Ткаосані“ на рускую мову. Пачаў пераклад нябожчык П. Пятрэнка і скончыў Б. Брык.

○ **Новыя кнігі грузінскіх пісьменнікаў.** Кнігу выбраных вершаў Георгія Леанідзе на рускай мове выдае Дзяржлітвыдат у Маскве. У кнізе змешчана звыш 3-х тысяч радкоў у перакладах Б. Пастэрнака, Н. Ціханава, П. Антакольскага, В. Дзержавіна і Б. Брыка.

○ *Дзяржлітвыдат Украіны здаў у друк раман Міхаіла Джавахішвілі* „Арсен з Марабды“ у перакладзе О. Сорока на украінскай мове.

○ *Паэму па матэрыялах грамадзянскай вайны на паўночным Каўказе і Закаўказзі напісаў Калэ Бобохідзе.* Паэма была абгаворана на творчым сходзе паэтаў у Саюзе пісьменнікаў Грузіі і прынята да выдання выдавецтвам „Федэрацыя“.

○ **У пісьменнікаў Аджарыі.** *Малазонія Нестэр* піша паэму „Два сакавікі“—аб рэвалюцыйнай дзейнасці тав. Сталіна ў Батуме ў 1901—2 г. г.

○ *Рурua Пармэн*—нядаўна скончыў „Зборнік вершаў“ на грузінскай мове. У зборнік увайшлі пасля-рэвалюцыйныя вершы паэта. Зборнік вершаў будзе выдадзен у гэтым годзе.

○ *Ногайдэлі Джэмал*—працуе над зборнікам казак, былін і казанняў. Тэматыка зборніка—аджарскі эпас.

○ *Малады паэт Шалва Іоселіані*—скончыў цыкл новых вершаў аб новым быце Аджарыі. Зборнік будзе выдадзены да 7 лістапада 1936 г.

○ *У сучасны момант у Дзяржлітвыдаце Аджарыі знаходзіцца ў друку раман Пармена Лорыя* „Чай“ на грузінскай мове. Тэматыка рамана—барацьба за культуру чая ў Совецкай Аджарыі.

○ **Жыццё і творчасць Умера Іпчы.** Крымскі навукова-даследчы інстытут нацыянальнай культуры падрыхтаваў да друку зборнік артыкулаў аб жыцці і творчасці крымскага пісьменніка *Умера Іпчы*.

У зборнік увайшлі артыкулы: *Джаманаклы*—„Пра жыццё і дзейнасць Умера Іпчы“, *Шенх Задэ*—„Умер Іпчы як паэт“, *Дэрменджы Абла*—„Іпчы як драматург“ і *Болат*—„Іпчы як празаік“.

Зборнік будзе выдадзен Крымвыдатам.

○ **Выбраныя вершы Абдулы Тукаева.** Татдзяржвыдат выдаў на рускай мове кнігу выбраных вершаў татарскага народнага паэта *Тукаева*, 15-гадовы юбілей якога быў адзначаны грамадскасцю Татарыі ў гэтым годзе.

У кнігу ўвайшлі галоўным чынам творы, напісаныя паэтам у перыяд 1908-13 гг. Вялікае месца займае палітычная лірыка. У зборніку змешчана таксама вядомая паэма Тукаева „Кісек-Баш“, якая выкрывае ўплыў рэлігійных паданняў і накіравана супроць татарскага духавенства і буржуазіі

Роля *Абдулы Тукаева* ў гісторыі развіцця татарскай літаратуры асветлена ў прадмове, якая напісана *Каві Наджмі*.

Пераклады вершаў на рускую мову зроблены *П. Радзімавым, В. Гінзбург* і інш.

○ **Збор твораў Чаваіна.** Скончана праца па рэдагаванню рукапісаў і зданы ў друк першы том поўнага збору твораў першага марыйскага пісьменніка Чаваіна, які выпускаецца марыйскім дзяржаўным выдавецтвам у сувязі з 30-годдзем яго літаратурнай дзейнасці.

У першы том поўнага збору твораў будуць уключаны яго дарэвалюцыйныя творы.

○ **Пісьменнікі Украіны.** Украінскі паэт *Мікола Бажан* нядаўна вярнуўся з Томска, дзе азнаёміўся з матэрыяламі біяграфіі С. М. Кірава. Матэрыял увойдзе ў вялікую паэму аб Кіраве.

○ *П. Панч* сабраў цікавы матэрыял аб нямецкай акупацыі на Украіне і напісаў аповесць для зборніка „Дзве пяцігодкі“.

Для гэтага-ж зборніка скончыў аповесць І. Кірыленка. М. Рыльскі працуе над другой часткай паэмы „Марына“. Іван Ле працуе над трылогіяй „Украіна“.

○ **Пушкін на украінскай мове.** Да стагоддзя з дня смерці вялікага рускага паэта А. С. Пушкіна лепшыя паэты Украіны рыхтуюць пераклады яго твораў на украінскую мову.

Вядомы украінскі паэт М. Рыльскі заканчвае пераклад „Еўгенія Онегіна“. Надрукаваныя главы з геніяльнага пушкінскага рамана сведчаць пра тое, што М. Рыльскі бліскуча спраўляецца з цяжкай задачай даць найбольш блізкі да арыгінала украінскі пераклад.

Паэт В. Сасюра пераклаў паэму А. С. Пушкіна „Каўказскі нявольнік“.

С. Галаваніўскі працуе над перакладам „Палтавы“.

○ **Новыя дакуманты пра Пушкіна.** У сувязі з надыходзячым юбілеем А. С. Пушкіна тульскае аддзяленне маскоўскага абласнога архіва наладзіла збіранне дакументаў, звязаных з біяграфіяй вялікага паэта.

Знойдзен журнал ад 6 кастрычніка 1912 г. па справе аб запісу ўнука паэта

Нікалая Александравіча Пушкіна ў дваранска-радаслоўную кнігу тульскай губерніі, у якой маецца ўказанне, што „23 сакавіка 1811 г. сын Сяргея Львовіча Пушкіна Александр прызнаны ў старадаўнім дваранстве, як прыналежачы да старадаўнягa дваранскага роду Пушкіных".

○ **Рэдкія кнігі А. С. Пушкіна.** У кніжным архіве Тамбоўскай цэнтральнай гарадской бібліятэкі знойдзены старыя выданні твораў Пушкіна, надрукаваных яшчэ пры жыцці паэта. Сярод іх „Барыс Гадуноў" і „Балады", якія выйшлі ў пачатку 1837 г., „Вершы Александра Пушкіна", якія з'явіліся ў 1835 г.

Знойдзена некалькі кніжак „Пантэона рускай паэзіі", які выдаваўся ў Пецярбургу ў 1815 г. У іх надрукаваны першыя вершы Пушкіна. Таксама знойдзены чацверты том твораў А. С. Пушкіна, які вышаў у 1838 г., цікавы зборнік аўтографаў і малюнкаў Пушкіна.

У кнігасховішчах Ульянаўскага палаца кнігі знойдзены вершы А. С. Пушкіна, якія выданы пры жыцці паэта ў 1829-37 г. г. і экземпляры літаратурнага часопіса, які выдаваўся пасля яго смерці Жукоўскім, Адаеўскім і Вяземскім у карысць сям'і Пушкіна.

○ **Пісьмо Рабіндранат Тагора.** Цэнтральны дом мастацкага выхавання дзяцей імя Бубнава атрымаў нядаўна пісьмо ад Рабіндранат Тагора, у якім ён піша:

— Мае дарагія сябры! Я вельмі задаволен, што Вы прыслалі мне матэрыялы і фатаграфіі аб рабоце Цэнтральнага дома мастацкага выхавання дзяцей імя Бубнава. Хоць я знаходжуся за тысячы міль ад вас, але ўвесь час з вялікай цікавасцю сачу за развіццём вашай дзейнасці па газетах і кнігах, якія час-ад-часу атрымліваю з Савецкага Саюза. Вялікая справа, якую вы ажыццяўляеце ў галіне выхавання, закончыцца поўным поспехам і прынясе радасць і свет дзецям, якім выпала рэдкае шчасце быць даручаным вашым клопатам.

Шчыры ваш

Рабіндранат Тагор

Бенгалія, Санці-Нікетэн.

○ **„Тьма и рассвет".** У амерыканскім журнале „Нью Рыпаблік" змешчан водгук аб вышаўшым нядаўна ў выдавецтве „Лонгмэн Глін энд Компані" (Нью-Иорк) перакладзе двух частак трылогіі *Аляксея Талстога* „Хождение по мукам". Кніга выйшла пад назвай „Тьма и рассвет". Адзначаючы вялікую літаратурную вартасць трылогіі, аўтар водгука падкрэслівае, што кніга была выдадзена ў СССР масавым тыражом і мела вялікі поспех у савецкага чытача.

○ **Новы раман Ліона Фейхтвангера.** Ленінградскі літаратар В. С. Вальдман— першая перакладчыца твораў вядомага нямецкага пісьменніка Ліона Фейхтвангера—атрымала першыя часткі новага рамана Л. Фейхтвангера.

○ *Высокую ацэнку англійскага друку* атрымала нядаўна перакладзеная ў Англіі *„Цусіма" Новікава-Прыбоя.* Крытыкі адзначаюць літаратурную вартасць кнігі і яе гістарычную цікавасць.

○ *Перл Бак,* аўтар шырока вядомых раманаў „Зямля", „Сыны", „Маці", нядаўна скончыла кнігу пад назвай „Сляпы анге.л". Гэта працяг яе апошняй кнігі—„Маці".

○ **Напярэдадні ламаносаўскага юбілея.** Навуковыя работнікі і літаратурная грамадскасць Ленінграда адзначаюць 19 лістапада 225-годдзе з дня нараджэння вялікага рускага вучонага і пісьменніка М. В. Ламаносава. Ленінградская публічная бібліятэка прыступіла да наладжвання вялікай выстаўкі выданняў і рукапісаў Ламаносава, а таксама эстампаў, гравюр і іншых матэрыялаў, якія характарызуюць час, калі жыў Ламаносаў. Рыхтуюцца новыя выданні работ Ламаносава.

○ **Кніга пра Л. Н. Талстога.** У выдавецтве „Советский писатель" выходзіць праца Н. Гудзія „Как работал Толстой". Перад чытачамі раскрываюцца метады работы Талстога над творамі „Власть тьмы", „Крейцерова соната", „Дьявол" і „Воскресение". У сваей кнізе аўтар спыняецца на такіх пытаннях, як сувязь твораў Талстога з яго біяграфіяй, адлюстраванне ў творах Талстога яго асабістых перажыванняў, супаданне запісаў у дзённіках Талстога з яго мастацкімі тэкстамі і г. д. Н. Гудзій паказвае таксама эвалюцыю замыслаў і сюжэтаў Талстога ад першапачатковых іх варыянтаў, да канчатковай рэдакцыі твораў.

○ *Героі Савецкага Саюза т.т. Чкалаў і Белякоў,* якія адпачывалі ў Сочы, наведалі пісьменніка—ордэнаносца *Н. А. Астроўскага.* У гутарцы з пісьменнікам героі расказалі пра свой палёт па Сталінскаму маршруту, цікавіліся творчай работай пісьменніка і перакладам яго кнігі „Як гартавалася сталь" на замежныя мовы. Т.т. Чкалаў і Белякоў атрымалі ад тав. Астроўскага рукапіс першага тома яго новага рамана „Рожденные бурей".

○ *Пісьменнік Астроўскі* атрымаў экземпляр рамана „Як гартавалася сталь", выдадзенага ў Токіо на японскай мове.




**○ Над чым працуюць беларускія пісьменнікі.**

*Народны паэт Якуб Колас* падрыхтоўвае да друку зборнік вершаў, якія выйдзе ў маскоўскім дзяржаўным выдавецтве мастацкай літаратуры, а таксама перакладае паэму Пушкіна „Палтава“.

*Народны паэт Янка Купала* перакладае паэму А. С. Пушкіна „Медны коннік“.

*Пятрусь Броўка* рыхтуе да друку зборнік лірычных вершаў. Ім перакладзена паэма Вл. Маякоўскага „Ленін“.

*Кузьм*[illegible] Люба Лук'янс[illegible] Дзяржаўным [illegible]

*Пятр*[illegible]ай пад назвай „Скрыжаванне дарог“.

*Макар Паслядовіч* піша п'есу пра сучасную моладзь. Ен-жа здаў у друк зборнік апавяданняў пад назвай „Снайпер“.

*Мікола Хведаровіч* пераклаў паэму Пушкіна „Каўказскі нявольнік“, якая будзе друкавацца у № 11 „Полымя рэвалюцыі“.

АДКАЗНЫ РЭДАКТАР *М. ЛЫНЬКОЎ.*

РЭДКАЛЕГІЯ: *А. Александровіч, Я. Бранштэйн, М. Клімковіч, Я. Колас, Я. Купала, М. Лынькоў, І. Харык, К. Чорны.*

АДРАС РЭДАКЦЫІ: **Менск, Совецкая, 68. Дом Пісьменніка. Тэлефон 25-394.**